УДК 902/904(476)
ББК 63.4(4Беи)
Ш94

**Штыхаў, Г. В.**

Ш94 Археолагі дапаўняюць летапісцаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск : Беларус. навука, 2009. — 149 с. : іл.
ISBN 978-985-08-1022-9.

Аўтар у папулярнай форме знаёміць чытача са шматлікімі археалагічнымі раскопкамі на тэрыторыі Беларусі, а таксама з багатымі падзеямі старажытнай і сярэднявечнай гісторыі.

Адрасавана шырокаму колу чытачоў.

**УДК 902/904(476)**
**ББК 63.4(4Беи)**

**ISBN 978-985-08-1022-9**

# НЯМЫЯ СВЕДКІ ГІСТОРЫІ

Помнікі сівой мінуўшчыны!.. Праз смугу стагоддзяў данеслі яны звесткі пра жыццё далёкіх продкаў. Нашы прашчуры пакінулі аб сабе надзвычай цікавую памяць — рэчы, якія рабіў і якімі карыстаўся чалавек на ўсіх этапах свайго жыцця. Гэтыя рэчы — часам адзіныя сведкі найстаражытнейшай гісторыі людзей, бо першая пісьменнасць, як вядома, з'явілася каля пяці з паловай тысяч гадоў таму назад (прымаючы пад увагу Егіпет і Міжрэчча). Чалавецтва жыве на Зямлі некалькі мільёнаў гадоў.

Як даведацца пра жыццё першабытных людзей, пранікнуць у цемру іх дапісьменнага часу? Вось тут на дапамогу вучоным і прыходзяць прылады працы, рэчы, якімі карысталіся гэтыя людзі. Кожны зроблены прадмет (артэфакт) сведчыць не толькі аб майстэрстве яго творцы, але і аб ведах і вопыце ўсяго тагачаснага грамадства.

Рэчавыя гістарычныя помнікі значна дапаўняюць паведамленні пісьмовых крыніц. Без такіх помнікаў не абысціся пры вывучэнні ўсіх гістарычных эпох, нават тых, калі людзі ўжо добра ведалі пісьмо.

Зямля захавала да нашых дзён рэшткі старажытных паселішчаў і гарадоў, абкружаных некалі глыбокімі равамі, абнесеных грознымі вежамі. Стагоддзе за стагоддзем гэтыя паселішчы і гарады заносіла пылам, засыпала зямлёй; яны зарасталі хмызам, пакрываліся дзірваном. Вучоныя-археолагі вызваляюць ад векавых напластаванняў тое, што зберог для гісторыі час.

У нашай краіне, бадай, няма такога кутка, дзе б не было помнікаў старажытнасці. Гісторыя Беларусі шырока прадстаўлена багатай спадчынай матэрыяльнай культуры — помнікамі археалогіі і архітэктуры.

Вы ўжо ведаеце, што навука, якая вывучае далёкае мінулае чалавецтва па рэчавых крыніцах, называецца археалогіяй. Само слова «археалогія» грэчаскага паходжання і ў перакладзе на нашу мову азначае «навука аб старажытнасці». Пра яе вобразна гавораць, што гэта гісторыя, узброеная рыдлёўкай.

Археалагічныя помнікі інакш называюць нямымі сведкамі гісторыі. Яны захоўваюць памяць аб сівой мінуўшчыне. Гэта галоўным чынам рэшткі старажытных паселішчаў і пахаванні старадаўніх людзей, пры раскопках якіх вучоныя-археолагі знаходзяць розныя старажытныя рэчы.

Археалагічная навука вывучае каменны век, калі людзі карысталіся каменнымі прыладамі працы; эпоху бронзы, у якую нашы продкі пазнаёміліся з металам. Затым ідзе жалезны век. Пра жалезны век і пра сярэднія вякі пойдзе наша размова далей.

У археалагічнай навуцы існуюць свае ўласныя паняцці, тэрміны: помнік, культурны слой, культурны пласт, мацярык, археалагічная культура. Ці ведаеце вы, што та-



Археалагічны помнік — старажытнае гарадзішча на беразе Лукомкі (Чашніцкі раён)

кое помнік? Вы не памыліцеся, калі скажаце, што гэта скульптура, аб'ёмны вобраз з каменю, металу, дрэва ці іншага матэрыялу. Напрыклад, помнік Янку Купалу.

Аднак паняцце «помнік» мае яшчэ другое значэнне. Гэта ўсякі старажытны прадмет (рэч), які захаваўся, дайшоў да нас. Старажытныя рукапісы называюць помнікамі пісьменнасці. Існуе шмат іншых помнікаў.

Кожны след, пакінуты чалавекам, няхай гэта будзе гарадзішча, пахаванне, каменная сякера, гліняны гаршчок, попел ці вуголле, што засталіся на месцы колішняга паселішча, лічыцца гістарычным, ці археалагічным помнікам, бо ён захоўвае памяць аб мінулым.

Культурны слой, ці культурны пласт, — назва напластавання, якое ўтварылася ў выніку жыцця і дзейнасці чалавека. У ім захоўваюцца рэшткі старажытных жытлаў, гаспадарчых пабудоў, прылады працы, зброя, упрыгожанні і інш. Культурны слой мае спецыфічны колер: чорны, карычневы, шэры і інш. Прыродная глеба, на якой ён залягае, у археалагічнай навуцы называецца мацерыком.

У старажытнасці розныя плямёны адрозніваліся паміж сабой сваімі культурамі. Існавалі разыходжанні ў формах прылад працы, упрыгожаннях, тыпах жылля, спосабах пахавання. Старадаўнія культуры плямён і народаў у навуцы называюцца археалагічнымі культурамі, таму што яны становяцца вядомымі дзякуючы археалагічным раскопкам.

## Сцежкай пошукаў

Шмат гадоў назад мне разам з вучнямі Суткоўскай сярэдняй школы, што на Гомельшчыне, давялося праводзіць краязнаўчую экскурсію і збіраць звесткі пра археалагічныя помнікі Лоеўскага раёна. Мы ішлі сцежкай уздоўж стромкага берага Дняпра ў напрамку да вёскі Гарадок. Назва яе зацікавіла нас. Звычайна «гарадкамі», «гарадцамі», «гарадзішчамі» насельніцтва называе археалагічныя помнікі жалезнага веку і ранняга сярэднявечча.

Не паспелі мы дайсці да вёскі, каб распытаць штонебудзь у мясцовых жыхароў, як перад намі вырас не-

звычайны пагорак. Яго абкружаў роў з крутымі берагамі, штучна папраўленымі чалавекам.

— Вось дык гара!.. А які глыбокі роў! Цяжка тут нават прайсці, — гаварылі вучні.

Мы з ходу паспрабавалі ўзысці па стромкім схіле да вяршыні пагорка, але гэта нам не ўдалося. Прыйшлося пакінуць унізе рукзакі. Чапляючыся рукамі за галінкі ці сцяблінкі быльнягу, мы лезлі ўсё вышэй і вышэй. Нарэшце дасягнулі верхняй пляцоўкі. Яна была невялікая, метраў сорак у дыяметры, значна пашкоджаная ямамі, падмытая і разбураная з аднаго боку ракой.

Затым мы селі на край пляцоўкі. Навокал была доўгая і шырокая коўдра: распасціраўся зялёны луг, усеяны яркімі кветкамі. Крыху далей ад нас паблісквала на сонцы тысячамі люстэркаў паверхня Дняпра.

— А цяпер нагадаем крыху гісторыі, — прамовіў я. — У VII—VI стагоддзях да нашай эры людзі, якія жылі на тэрыторыі паўднёвай Беларусі, маглі ўжо карыстацца жалезам. З яго яны выраблялі розныя прылады працы. А ці ведаеце вы, дзе людзі бралі жалеза?

— Ведаем! — у адзін голас усклікнулі некалькі вучняў. — Выплаўлялі з балотнай руды. Яна ёсць усюды ля балот, азёр, рэк.

— На тым беразе Дняпра стаіць вёска Рудня. Кажуць, што там некалі выплаўлялі руду, адкуль і пайшла назва вёскі, — нечакана сказала дзяўчынка, якая дагэтуль маўчала.

— Гэта так, але ж «плавіць» жалеза ў тыя далёкія часы людзі не ўмелі, — заўважыў я. — Яно плавіцца пры вельмі высокай тэмпературы — каля 1530 градусаў цяпла. У старажытнасці металургі не ўмелі атрымліваць такой высокай тэмпературы. У жалезным веку жалеза «варылі», моцна награвалі ў прымітыўных невялікіх печах-домніцах. Кавалкі руды спякаліся і ўтваралі порыстую масу — крыцу. Потым з гэтай крыцы кавалі і выраблялі розныя рэчы: нажы, сярпы, шылы, сякеры, наканечнікі стрэл і коп'яў.

Але цікава, дзе жылі старажытныя людзі, дзе яны працавалі, адпачывалі, збіраліся разам, каб вырашыць агульныя справы?

Усе змоўклі, на хвіліну задумаліся.

— На паселішчах, ля ракі, — сказаў адзін вучань.

— Правільна, на паселішчах, а паселішчы знаходзіліся на берагах рэк ці азёр, — растлумачыў я.

Далей мне прыйшлося спыніцца на тым, што паселішчы былі розныя. Адна справа паселішча, якое пабудавана на гары, іншая — неўмацаванае паселішча, што стаяла на нізкім беразе ракі.

— Рэшткі старажытных умацаваных паселішчаў называюцца гарадзішчамі. На адным з іх мы з вамі цяпер і знаходзімся.

Умацаваныя паселішчы былі вельмі распаўсюджаны ў раннім жалезным веку. Адкрыццё жалеза азначала пачатак велізарнага тэхнічнага перавароту ў гісторыі чалавецтва. Разам з тым ствараліся ўмовы для назапашвання багаццяў у руках асобных калектываў унутры родавай абшчыны. А гэта вяло да яе распаду, да выдзялення патрыярхальных сем'яў. Тады яшчэ не было ні класаў, ні прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, ні дзяржавы.

Кожная патрыярхальная абшчына, у якой звычайна налічвалася некалькі дзесяткаў чалавек, вымушана была будаваць свае паселішчы ў цяжкадаступных месцах: на пагорках, на мысах абрывістых берагоў рэк, на астраўках сярод азёр і балот.

Дадаткова гэтыя паселішчы ўмацоўваліся драўлянымі парканамі, валамі, абкружаліся глыбокімі равамі. Бывала так, што рабілі некалькі валоў і некалькі равоў.

Жылі людзі на верхняй пляцоўцы, дзе размяшчалі жыллё, гаспадарчыя пабудовы і ўвесь скарб. Сюды, на пляцоўку, заганялася жывёла. У выпадку небяспекі з боку варожых суседзяў тут абараняліся жыхары паселішча.

Усё часцей і часцей адбываліся сутычкі паміж асобнымі патрыярхальнымі сем'ямі, родамі, плямёнамі. У час такіх сутычак ваюючыя бакі імкнуліся захапіць як мага больш здабычы. Само жыццё патрабавала будаваць умацаваныя паселішчы.

На тэрыторыі Беларусі вядомы многія сотні гарадзішчаў. Звычайна плошча пляцоўкі гарадзішча невялікая — ад чвэрці да паловы гектара.

А сустракаюцца гарадзішчы ранняга жалезнага веку яшчэ меншыя. Найбольшая колькасць іх выяўлена ў Віцебскай, Гомельскай, Мінскай абласцях.

Гарадзішча, на якім мы знаходзіліся, было тыповым археалагічным помнікам далёкай эпохі. Школьнікі аглядваліся па баках, пазіралі на стромыя схілы і глыбокі роў, адчуваючы подых сівой мінуўшчыны.

Кожнаму хацелася яшчэ раз прайсціся па пляцоўцы, на якой жылі, па якой хадзілі, дзе збіраліся абмяркоўваць свае надзённыя справы нашы далёкія-далёкія продкі.

— Георгій Васільевіч, паглядзіце, калі ласка, што я знайшла, — звярнулася да мяне дзяўчынка і працягнула досыць вялікі кавалак глінянага гаршка.

Я ўзяў знаходку, і мае рукі быццам адчулі дотык шурпатых далоней таго чалавека, які жыў і працаваў прыкладна дзве тысячы гадоў назад. У адным месцы нават захаваўся адбітак яго пальца.

— Адкуль вы ведаеце, што гаршку каля дзвюх тысяч гадоў? — цікавіліся вучні.

— У нас на агародзе шмат валяецца чарапкоў ад гаршкоў, — пажартаваў нехта.

— Гаршчок гаршку — розніца, сябры мае. Прыгледзьцеся ўважліва да гэтага чарапка. Ён належаў посуду, у якога былі грубыя, няроўныя сценкі. У гліну дадаваўся тоўчаны камень, каб яна не трэскалася пры высыханні. Посуд вылеплены рукамі без дапамогі ганчарнага круга, які распаўсюдзіўся на Беларусі ў сярэдзіне X стагоддзя нашай эры. Значыць, гаршку, несумненна, больш за тысячу гадоў. А цяпер звярніце ўвагу на нескладаны арнамент, які значыцца па краі гаршка і зроблены двума пальцамі спосабам так званага зашчыпу. Нарэшце, форма сасуда своеасаблівая. Усё гэта вывучылі археолагі і датавалі дакладна посуд такога тыпу.

Кожны вучань пачаў уважліва глядзець сабе пад ногі ў надзеі знайсці якую-небудзь цікавую рэч.

— А што гэта такое, нешта ржавае?..

— Гэта кавалак балотнай руды, пра якую мы ўжо гаварылі.

— Давайце трохі пакапаем тут. У нас жа ёсць «сапёрка», — прапанаваў вучань старэйшага класа.

Я растлумачыў дапытлівым краязнаўцам, што археалагічныя помнікі ахоўваюцца дзяржавай. Іх нельга псаваць, самавольна раскопваць.

Дазвол на археалагічныя раскопкі выдае Інстытут гісторыі Беларускай акадэміі навук у тым выпадку, калі помнік запланавана даследаваць.

Нам трэба было спяшацца на аўтобус, які рухаўся ў напрамку да вёскі Чаплін — канечнага пункта нашага падарожжа.

## Археалагічныя помнікі ля вёскі Чаплін

Ад вёскі Гарадок Чаплін знаходзіцца за пятнаццаць кіламетраў. Ужо з дарогі мы ўбачылі дугападобны вал гарадзішча. Правы бераг Дняпра тут перасечаны глыбокімі ярамі. Паміж ярам і абрывістым берагам лёгка зрабіць роў і насыпаць земляны вал. Атрымаецца пляцоўка, добра ўмацаваная з усіх бакоў.

На гарадзішчы мы заўважылі людзей, якія нешта рабілі. Падышоўшы бліжэй, разгледзелі, што яны працуюць рыдлёўкамі.

Аказалася, што на гарадзішчы праводзіць раскопкі экспедыцыя Інстытута археалогіі з Масквы на чале з прафесарам Пятром Мікалаевічам Траццяковым.

«Вось дык пашчасціла», — падумаў я і, усхваляваны, накіраваўся да высокага чалавека, які, відаць па ўсім, кіраваў тут работамі.

Вучоны сустрэў мяне ветліва і нават па-сяброўску.

— Дазвольце нам, Пётр Мікалаевіч, пазнаёміцца з раскопкамі, — звярнуўся я да яго як кіраўніка экспедыцыі.

— Калі ласка, заўсёды да вашых паслуг, — адказаў ён з добрай, лагоднай усмешкай.

Імя Пятра Мікалаевіча як буйнога вучонага і спецыяліста па пытанні паходжання славян было вядома настаўнікам-гісторыкам.

Рабочы дзень на раскопках падыходзіў да канца. Супрацоўнікі экспедыцыі збіралі знаходкі, загортвалі іх

у паперу, рабілі запісы ў дзённіках. Шмат клопатаў было ў кіраўніка экспедыцыі.

— Ці будуць глыбей капаць гэту яму? — запытаў адзін з нашых хлапчукоў.

— Гэта не звычайная яма, — адказаў я і растлумачыў, што тое месца, дзе праводзіцца археалагічнае даследаванне, называецца раскопам.

— Вось глядзіце: уся плошча разбіта на квадраты 2×2 метры. Яны абазначаны ўбітымі ў зямлю калочкамі. Распрацоўка культурнага пласта звычайна праводзіцца таўшчынёй у 20 сантыметраў.

Вучні заўважылі, што там, дзе калісьці жылі людзі, утварыліся наслаенні чорнай зямлі. Яны захоўвалі разбураныя збудаванні, вытворчыя адыходы, выкінутыя ці згубленыя рэчы і іншыя рэшткі дзейнасці чалавека. Такі пласт у археалогіі называюць культурным. Рознай бывае яго таўшчыня: ад некалькіх сантыметраў да 5—6 і больш метраў. Чым большы час жылі людзі на адным месцы, тым таўсцейшы культурны пласт. Але па адной яго таўшчыні нельга заключыць, колькі тут яны жылі. Патаўшчэнне пласта ідзе вельмі нераўнамерна.

Па сценках раскопу, у якім мы знаходзіліся, можна было бачыць таўшчыню культурнага пласта — яна дасягала аднаго метра.

Ніжэй знаходзіўся прыродны жоўты пясок, як кажуць археолагі, — «мацярык». Гэта быў грунт без усякіх слядоў дзейнасці чалавека. Калі дасягнуты мацярык (прыродны грунт), раскопкі можна лічыць закончанымі.

Мацярык, на якім мы стаялі ў раскопе, быў старанна зачышчаны. У ім выразна віднеліся ямы рознай формы і глыбіні — ад 20 да 40 сантыметраў. Ям было шмат.

Закончыўшы справы, падышоў Пётр Мікалаевіч.

— Я бачу, вас цікавяць ямы, якіх тут больш, чым трэба, — пажартаваў ён.

Ямы адносіліся да розных перыядаў жыцця людзей на гарадзішчы. Некаторыя з іх можна было беспамылкова датаваць той ці іншай эпохай. Апрача таго, па ямах вызначаецца размяшчэнне жылля слупавой канструкцыі. Аснову сцен складалі слупы, якія вертыкальна закопваліся

ў зямлю, дасягаючы мацерыка. Чатыры слупы былі па вуглах. У пазы гэтых слупоў уваходзілі канцы гарызантальна пакладзеных жэрдак. Жэрдкі ўтваралі сцены жылля. Плошча яго невялікая: 16—25 квадратных метраў.

Печаў у жыллі не было. Агонь палілі на земляной падлозе, дзе ў пяску была выкапана невялікая ямка ці проста пакладзена некалькі камянёў. Рэшткі гэтых ачагоў-вогнішчаў знайшлі археолагі ў час раскопак.

Шмат якія ямы былі сховішчамі, з'яўляліся склепамі. Яны мелі авальную форму, глыбіня іх дасягала 40—80 сантыметраў у грунце. У гэтых ямах члены асобных сем'яў захоўвалі свой скарб. Археолагам удалося набыць толькі некаторыя рэчы, што выпадкова ўцалелі ў такіх сховішчах.

Тут Пётр Мікалаевіч папрасіў бліжэй паднесці некаторыя знаходкі.

Ён узяў у руку жалезную рэч, якая нагадвала кароткае долата, толькі ўтулка ў ім мела чатырохвугольную форму. Гэта была жалезная сякера (так званы кельт) рубяжа нашай эры. Ва ўтулку ўстаўлялася каленчатае тапарышча. Кельт — старажытная зброя і адначасова прылада працы, якая ўжывалася для апрацоўкі дрэва і для выканання земляных работ.

У адной яме-сховішчы ляжалі жаночыя ўпрыгожанні — два бронзавыя бранзалеты, тры скроневыя кольцы, а таксама маленькі гліняны гаршчочак.

Невыпадкова ў ямах апынулася рыбная луска. Тут хавалі запасы сушанай рыбы.

Шмат было пустых ям, у якіх даследчыкі нічога не знайшлі. Аднак у старажытнасці ямы маглі быць даверху напоўнены караняплодамі, ад якіх да нашага часу не захавалася ніякіх рэшткаў. Магчыма, тут хавалі рэпу, якая была вядома ва Усходняй Еўропе з вельмі старажытных часоў.

У розных месцах раскопу было знойдзена шмат цікавых рэчаў. Сярод жалезных вырабаў пераважалі нажы. Лязо кожнага нажа зверху крыху скрыўленае. Таму даследчыкі называюць іх «нажамі з гарбатымі спінкамі». Гэтыя вырабы былі шырока распаўсюджаны ў I тыс. да н. э.

Найбольш цікавая знаходка складалася з пяці жалезных сярпоў. Яны былі добра выгнуты і па форме падобны да сучасных, але адрозніваліся ад іх невялікімі памерамі (даўжынёй 20 сантыметраў).

Былі знойдзены і зерняцёркі — два камяні, з дапамогай якіх расціралі, «малолі» збожжа.

Сапраўдным археалагічным багаццем аказалася больш чым сто гліняных прасліц. Гэта невялікія шарыкі з адтулінай пасярэдзіне. Іх надзявалі на канец верацяна, якім рабілі прадзіва. Частка гэтых шарыкаў была прыгожа арнаментавана ямкамі, канцэнтрычнымі кольцамі, заштрыхаванымі геаметрычнымі фігурамі (трохвугольнікамі, ромбамі), касымі насечкамі, елачкамі.

Самымі распаўсюджанымі знаходкамі на Чаплінскім гарадзішчы, як і на ўсіх іншых старажытных паселішчах, з'яўляюцца чарапкі ад гліняных гаршкоў ці, як скарочана кажуць археолагі, «кераміка». Для археалагічнай навукі фрагменты ад старажытных гаршкоў назаўсёды заста-




Жалезныя наканечнікі кап'я, спражка, рыбалоўны кручок, серп, нож і глінянае прасліца на драўляным верацяне з раскопак у Чапліне

нуцца незаменнымі гістарычнымі рэчавымі крыніцамі. Яны дапамагаюць адказваць на не асвечаныя раней у пісьмовых крыніцах пытанні, звязаныя са старажытнай гісторыяй.

Розныя народы і плямёны ўжывалі посуд, што ўпрыгожваўся разнастайным арнаментам. Знешні выгляд гаршкоў, тэхніка іх вырабу з цягам часу змяняліся. Па кераміцы вучоны-археолаг можа ўстанавіць, колькі стагоддзяў назад жылі ў дадзенай мясцовасці тыя ці іншыя плямёны, іх этнічную прыналежнасць: былі гэта славяне ці балты, фіна-угры ці яшчэ якая-небудзь іншая этнічная група.

Што ж за кераміка была знойдзена на Чаплінскім гарадзішчы?

Яна прадстаўлена трыма ўстойлівымі формамі: «кухоннымі» гаршкамі, у якіх варылі ежу, «сталовым посудам» — міскамі, а таксама невялікім начыннем у выглядзе конавак з ручкамі.

Увесь посуд вылеплены рукамі без прымянення ганчарнага круга. Але не ўсе вырабы зроблены аднолькава: у адных паверхня каструбаватая, няроўная, у іншых — глянцаваная. Асабліва прыгожа выглядаюць міскі. Галоўная іх прыкмета — рабро ў верхняй частцы. Нярэдка посуд арнаментаваны насечкамі і «зашчыпамі», якія нанесены па краі вырабу.

Агледзеўшы вялікі раскоп на пляцоўцы гарадзішча, мы накіраваліся да вала, што быў прарэзаны вузкай доўгай траншэяй. У разрэзе вал нагадваў слаёны пірог. Тут перамежваліся пласты жоўтыя, карычневыя, чорныя. Абарончае збудаванне на паселішчы неаднаразова перабудоўвалася, «рамантавалася». Рэшткі больш позніх падсыпак вала перакрывалі ранейшыя збудаванні.

Гарадзішча — не адзіны старажытны помнік ля вёскі Чаплін. Тут відаць цэлы археалагічны комплекс. Побач з гарадзішчам знаходзіцца неўмацаванае адкрытае паселішча. Яно цягнецца ад вала на 90 метраў уздоўж высокага берага Дняпра.

Мы прайшлі здзірванелае селішча і спыніліся там, дзе зусім нядаўна закончыліся раскопкі другой археалагічнай экспедыцыі.

Тут знаходзіўся могільнік. Адкрылі яго выпадкова сяляне. Капалі яны паблізу канаву. На глыбіні паўметра былі цэлыя гліняныя гаршкі. У іх знаходзіліся перапаленыя косці.

— Адкуль тут гаршкі? — здзівіліся сяляне.

Звярнуліся да самай старой у вёсцы бабулі: можа, яна што-небудзь ведае пра гэта.

Тая толькі рукамі развяла:

— Не, мае даражэнькія, нічога пра гэта не ведаю. На маёй памяці ніхто тут нічога не закопваў. Хіба такое рабілася, як нас на свеце яшчэ не было.

Пра знойдзеныя гаршкі стала вядома археолагам. З гэтага фактычна і пачаліся раскопкі ля Чапліна. Высветлілася, што могільнік належаў тым людзям, якія жылі на гарадзішчы і паселішчы. Памерлага спальвалі, а рэшткі, што заставаліся, зграбалі ў кучу і змяшчалі ў неглыбокіх, крыху падоўжаных ямах. Магілы размяшчаліся раўнамерна на адлегласці 2—8 метраў адна ад адной. Яны займалі значную плошчу.

Большасць ям мела правільную авальную форму даўжынёй да двух і шырынёй да аднаго метра. Глыбіня ям 50—70 сантыметраў. На дно такой ямы змяшчаліся рэшткі спаленага на агні нябожчыка. Зверху клалі розныя рэчы, упрыгожанні, прылады працы, наканечнікі дзідаў (коп'яў). Побач з касцямі ставілі гліняны посуд — гаршкі і міскі.

Чаплінскі могільнік даў шмат розных старажытных рэчаў. Яны дазволілі перш за ўсё дакладна датаваць помнік. Сярод знаходак бронзавыя шпількі (археолагі называюць іх «фібуламі») для верхняй вопраткі. Выраблялiся яны з кавалка дроту. Форма іх часта мянялася. Менавіта таму такія шпількі, нібы манеты, дапамагаюць вызначыць,



Бронзавая фібула I ст. да н. э.

у які час адбывалася пахаванне. Вывучэнне пахаванняў дапамагло ўявіць больш падрабязна, якія звычаі існавалі звыш 2000 год назад. А краязнаўчыя музеі папоўніліся каштоўнымі экспанатамі.

У канцы нашай займальнай экскурсіі па помніках чаплінскага археалагічнага комплексу я запытаўся ў Пятра Мікалаевіча, да якога часу адносіліся помнікі і каму яны належалі: славянам або іншым плямёнам.

— Паселішчы і могільнік можна датаваць II ст. да н. э. — II ст. н. э. Гэта бясспрэчныя выразныя помнікі зарубінецкай культуры. Належалі яны, магчыма, продкам славян.

Мы шчыра падзякавалі Пятру Мікалаевічу і накіраваліся да будынка Чаплінскай школы, дзе павінны былі пераначаваць.

Вучні знаходзіліся пад уражаннем таго, што яны пачулі і ўбачылі за гэты дзень. Сваімі рукамі «пагарталі» яны старонкі гісторыі, зірнулі ў вочы нямым сведкам сівой мінуўшчыны.

— Георгій Васільевіч, а чаму мы паселішчы і могільнікі называем помнікамі зарубінецкай культуры? — нечакана спытаў Шура, адзін з самых дапытлівых вучняў.

— Не так даўно вучоныя нават не ўяўлялі, што ва Усходняй Еўропе ёсць помнікі такога тыпу.

У 1899 г. украінскі археолаг В. В. Хвойка ўпершыню адкрыў грунтовы могільнік «поле пахаванняў» ля вёскі Зарубінцы на Кіеўшчыне. Затым такія помнікі знайшлі на значнай тэрыторыі паўночнай Украіны і паўднёвай Беларусі. Па назве вёскі, дзе гэтая культура ўпершыню была адкрыта, яе назвалі зарубінецкай, а плямёны, што на гэтым месцы жылі ў старажытнасці, — зарубінецкімі. Такая назва ўмоўная.

Прыкметы здабычы і апрацоўкі жалеза прысутнічаюць амаль на кожным паселішчы. Упрыгожанні з бронзы таксама выраблялі на месцы. Знойдзены маленькія гліняныя тыглі, у якіх плавілі каляровыя металы, формачкі, у якіх адліваліся рэчы, шматлікія гатовыя вырабы.

Асабліва важную ролю ў гаспадарцы плямёнаў адыгрывала земляробства. Вырошчвалі проса, пшаніцу,

ячмень, рэпу і іншыя культуры. Плямёнам былі вядомы ўсе асноўныя віды свойскай жывёлы: коні, свінні, буйная і дробная рагатая жывёла. Пераканаўчы доказ гэтаму — шматлікія знаходкі касцей пры археалагічных раскопках.

Жыхары падтрымлівалі сувязі з іншымі плямёнамі — кельтамі (жылі ў Заходняй і Сярэдняй Еўропе), познаскіфскім насельніцтвам лесастэпавай і стэпавай паласы Падняпроўя. З далёкіх грэчаскіх гарадоў да зарубінецкіх плямёнаў трапляў гліняны посуд — амфары. Для свайго часу зарубінецкія плямёны стаялі на даволі высокім узроўні культурнага развіцця.

Археалагічныя даследаванні ў Чапліне былі прадоўжаны беларускім археолагам Леанідам Давыдавічам Побалем (1924—2004). Ён знайшоў і даследаваў на калгасным полі 238 пахаванняў-крэмацый у грунтовых ямах з вялікай колькасцю пахавальнага інвентару рубяжа нашай эры. Выяўлена 1164 шкляныя пацеркі, якія з'яўляюцца антычным імпартам і характэрны для гарадоў Паўночнага Прычарнамор'я.

У асобных магільных ямах каля Чапліна знойдзены парныя пахаванні. Пахаванне мужчыны і забітай жанчыны ў адной яме сведчыць, на думку Л. Д. Побаля, аб сацыяльным падзеле ў грамадстве, з'яўленні ў зарубінецкіх плямёнаў ладу ваеннай дэмакратыі і патрыярхальнага рабства.

## Паселішчы рымскага часу

Што адбывалася ў Верхнім Падняпроўі, на тэрыторыі Беларусі ў II—V стст. н. э.? У гэты час насельніцтва размяшчалася на селішчах, якія не мелі штучных умацаванняў.

Адно з такіх паселішчаў было даследавана каля вёскі Адаменка ў Быхаўскім раёне на Магілёўшчыне. Шмат дапамаглі ў гэтай справе вучні мясцовых сельскіх школ.

На нізкім беразе рэчкі Адаменкі распасцёрлася поле. Ніхто не ведае, з якога часу гэтае месца завецца Абідняй. Штогод яго аралі, сеялі на ім жыта, бульбу, лён. Зямля добра радзіла. Была яна чорная, сапраўдны чарназём.

Аднойчы гарачым летам 1960 г. сюды трапіў Л. Д. Побаль. На раллі ён убачыў чарапкі ад гаршкоў: адзін, другі, трэці... «Дык гэта ж рэшткі старажытнага паселішча», — вырашыў даследчык і пачаў крочыць па полі. Ён праходзіў 100, 200 метраў і ўсюды бачыў прыкметы археалагічнага помніка. Паселішча займала плошчу больш за 6 гектараў.

Сем гадоў працягваліся археалагічныя раскопкі. Чацвёртая частка помніка была даследавана. Адкапаны рэшткі наземных слупавых дамоў, а таксама 29 паўзямлянак плошчай ад 12 да 24 квадратных метраў. Гліняны посуд нагадваў сабою гаршкі з Чаплінскага гарадзішча.

Старажытныя жыхары паселішча здабывалі і апрацоўвалі жалеза. Пра гэта сведчаць знойдзеныя крыца і гатовыя жалезныя вырабы — сярпы, нажы і іншыя рэчы. З каляровых металаў выраблялі ўпрыгожанні. Метал плавілі ў невялікіх тыглях, якія рабіліся з асобай тугаплаўкай гліны. Бронзавыя ўпрыгожанні адліваліся ў спецыяльных формах, знойдзеных на паселішчы.

Прыгожа выглядалі бронзавыя жаночыя падвескі — лунніцы. Іх насілі як каралі. Па форме падвескі нагадвалі трохвугольнікі. У сярэдзіне кожнага вырабу былі невялікія паглыбленні, запоўненыя шклопадобнай масай чырвонага колеру — эмаллю.

Найбольш цікавыя знаходкі — рэчы рымскага часу. Яны трапілі сюды з далёкіх зямель Рымскай імперыі. Напрыклад, медная манета Геты, выбітая ў 209 ці ў 212 г. у горадзе Аўгуста-Траяна (цяпер горад Філінопаль у Балгарыі). Манета вельмі рэдкая. Таксама цікавымі з'яўляюцца рэшткі бронзавых рымскіх сасудаў і рымскай керамікі, якая пакрыта лакам.

У пахавальным абрадзе насельніцтва не адбылося істотных змен у параўнанні з тым, што было высветлена каля Чапліна. Як і раней, памерлых спальвалі і хавалі ў грунтавых ямах. Такія грунтавыя могільнікі даследаваны каля вёсак Новы Быхаў, Адаменка, Тайманава Быхаўскага раёна.

Выяўленыя матэрыялы выклікалі асаблівую цікавасць беларускіх археолагаў. Крыху раней такія помні-

кі былі знойдзены на Кіеўшчыне ўкраінскімі археолагамі і названы кіеўскай культурай.

На думку вучоных, насельніцтва на тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі прымала значны ўдзел у працэсе фарміравання кіеўскай культуры. Большасць археолагаў лічыць гэту культуру славянскай, што вельмі верагодна, аднак патрэбны далейшыя даследаванні, значныя археалагічныя раскопкі. Датуецца кіеўская культура ўкраінскімі археолагамі канцом II ст. н. э. — сярэдзінай V ст. н. э.

## Славяне і балты ў VI—VII стст.

Візантыйскія гісторыкі падзялялі славян на склавінаў і антаў. Склавіны, відаць, заходнія славяне, анты — усходнія. Сучаснікі гаварылі, што склавіны і анты паходзяць ад аднаго кораня і падобны паміж сабой.

У VI ст. славяне наблізіліся да граніц Візантыйскай імперыі. Паселішчы славян цягнуліся на левабярэжжы Дуная. Славянскія дружыны прыходзілі сюды з берагоў Лабы (Эльбы) і Одры, з Карпацкіх гор і з нашых Прыдняпроўскіх лясоў. Візантыйцы неаднаразова сустракаліся са славянамі як у час жорсткіх бітваў, так і ў мірныя часы, калі адбываліся перамовы.

Славяне ўключыліся ў працэс «Вялікага перасялення народаў». Яны сяліліся на землях Візантыйскай імперыі, з'явіліся на Балканах, выйшлі да берагоў Эгейскага і Адрыятычнага мораў, на захадзе славяне дайшлі да Рэйна, а на ўсходзе пастунова выйшлі да вярхоўяў Дняпра, Дона і Акі, да Ладажскага возера.

У паўночнай і цэнтральнай Беларусі (Віцебская, Мінская, Гродзенская вобласці) з вельмі старажытных часоў і да сярэдзіны I тыс. н. э. жылі балцкія плямёны — продкі сучасных літоўцаў і латышоў. Вызначыць гэта дапамагло вывучэнне назваў рэк.

Назвы многіх невялікіх рэк — Брожа, Вяча, Волва, Лоша, Лучоса і інш. — паходзяць не ад славянскіх слоў, а ад каранёў слоў, якія дагэтуль ёсць у мове латышоў і літоўцаў.

Вучоныя зрабілі вывад, што спачатку на тэрыторыі цэнтральнай і паўночнай Беларусі жылі балты (лета-літоўцы), а пазней з'явіліся славяне. Яны выцеснілі карэнных жыхароў гэтых месц або змяшаліся з імі. Новае насельніцтва карысталася старымі назвамі рэчак і азёр, таму вельмі старажытныя даславянскія назвы ў некалькі змененым выглядзе дажылі да нашых дзён.

У неславянскіх плямёнаў лясной паласы (балтаў, фінаграў) у жалезным веку яшчэ доўга панавала прымітыўная падсечна-агнявая апрацоўка зямлі. Славяне прынеслі ў лясную зону новую прагрэсіўную форму гаспадаркі — ворыўнае земляробства. Пераймаючы вопыт выкарыстання земляробчых прылад і іншыя дасягненні ў гаспадарчым жыцці, мясцовае балцкае і фіна-угорскае насельніцтва збліжалася са славянамі. Новыя адносіны парушалі былую замкнёнасць родаў. Земляробы славяне і балты ўсё часцей сумесна асвойвалі новыя землі, расчышчалі ад лесу месцы для раллі, рассяляліся разам ці жылі «церазпалосна». Паселішчы славян станавіліся цэнтрамі далейшай земляробчай каланізацыі, эканамічнымі цэнтрамі акругі з рознаэтнічным насельніцтвам, якое ўсё больш славянізавалася.

Не заўсёды мясцовае насельніцтва без наракання саступала месца прышэльцам. Здараліся жорсткія сутычкі. Гэта пацвярджаюць рэшткі вогнішчаў — сведкі знішчэння балцкіх гарадзішчаў. Але звычайна для новых жыхароў знаходзілася дастаткова свабоднага месца. Чым далей славяне прасоўваліся на поўнач і паўночны ўсход, тым больш было неасвоеных зямель, нявырубленых лясоў, незанятых поймаў рэк.

На рачных мысах будавалі славяне свае пасёлкі, а ў суседніх мясцінах працягвалі жыць балты, якія ўважліва прыглядаліся да гаспадаркі, звычаяў, побыту прышэльцаў. Спачатку славяне і балты жылі асобна, а потым усё больш змешваліся ў адной тэрытарыяльнай абшчыне. Спрыяла гэтаму яшчэ тое, што вераванні ў славян і балтаў былі аднолькавымі — язычніцкімі.

Значна дапоўніла звесткі пра славян і балтаў вывучэнне археалагічных помнікаў — рэштак старажытных гарадзішчаў, неўмацаваных паселішчаў і могільнікаў.

На тэрыторыі Беларусі захавалася каля 1000 гарадзішчаў. Многія з іх былі пабудаваны балтамі. Калі з'явіліся славяне, яны таксама будавалі гарадзішчы, каб тут замацавацца. Размяшчаюцца гарадзішчы часцей за ўсё на пагорках, абкружаных нізінамі, ярамі ці ручаямі. З таго боку гарадзішча, дзе не было такіх прыродных умацаванняў, насыпалі вал або выкопвалі роў. Сустракаюцца гарадзішчы ў забалочанай мясцовасці, умацаваныя з усіх бакоў. Звычайна плошча пляцоўкі гарадзішча невялікая — ад чвэрці да паловы гектара.

Каля вёскі Хотамель Столінскага раёна на Берасцейшчыне было вывучана славянскае гарадзішча і паселішча ў пойме ракі Гарыні. У VII ст. тут жылі людзі, але не пастаянна. На гарадзішчы адсутнічаюць рэшткі жылых збудаванняў. Насельніцтва хавалася сюды на час небяспекі. Гарадзішча выконвала ролю цэнтра абшчыны, члены якой жылі на неўмацаваных паселішчах.

Праз некаторы час адбыліся змены ў яго знешнім выглядзе. З усіх бакоў пагорак абкружаў земляны вал. Належала гарадзішча цяпер больш заможнай частцы абшчыны. Аб гэтым сведчаць знаходкі — рэчы ваеннага побыту — жалезныя наканечнікі коп'яў і стрэл, пласцінкі ад панцыра, бляшка ад партупеі, цуглі. Усё гэта рэчы, якія адносіліся да ўзбраення дружыннікаў.



Жалезныя нарогі для рала VI—VIII стст. з паселішча ля вёскі Хотамель (Столінскі раён)

Адбывалася выдзяленне абшчыннай знаці. Са старэйшых і самых паважаных членаў абшчыны выбіраўся яе галава — старэйшына. Звычайна ён выконваў ролю жраца — служыцеля бажаства — і рабіў ахвярапрынашэнні. Гарадзішча магло быць месцам сходаў старэйшын і дружыннікаў.

Простае насельніцтва знаходзілася побач на неўмацаваным даволі вялікім паселішчы, цесна забудаваным паўзямлянкамі — тыповым славянскім жыллём тых часоў. У балтаў быў распаўсюджаны іншы тып жылля — наземныя пабудовы слупавой канструкцыі.

Паўзямлянка — заглыбленая ў грунт жылая пабудова з аднасхільным або двухсхільным дахам, зробленым з жэрдак ці бярвёнаў, засыпаных зямлёй. Сцены рабілі з бярвёнаў ці плялі з галля і абмазвалі глінай.

Знаходкі, характэрныя для звычайнага вясковага паселішча, жыхары якога займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбнай лоўляй — два жалезныя наральнікі для рала, з дапамогай якога аралі поле.

Паселішчы каля Хотамеля — сведкі распаду патрыярхальна-родавага ладу. Невялікае гарадзішча родавага калектыву паступова ператваралася ў добра ўмацаваны пасёлак, дзе жылі прадстаўнікі знаці і ўзброеныя дружыннікі. Побач на паселішчы знаходзіліся тыя, хто араў, сеяў і збіраў збожжа, гадаваў жывёлу.

Славянскія паселішчы V—VII стст. з паўзямлянкамі і печамі, складзенымі з камянёў, выяўлены на ўскраіне горада Петрыкава і ў іншых месцах. Асабліва многа іх на правабярэжжы сярэдняга Дняпра ва Украіне.

Іншаму насельніцтву належала гарадзішча каля былой вёскі Банцараўшчына пад Мінскам (цяпер знаходзіцца на беразе вадасховішча Дразды). Яно размяшчалася на гары вышынёй 20 метраў на беразе Свіслачы. Гарадзішча існавала ў V—VIII стст. і было ўмацаванаваламі і равамі. На гэта гарадзішча-сховішча збіраліся людзі адной абшчыны з навакольных неўмацаваных паселішчаў на час ваеннай небяспекі. Насельніцтва, якое прыходзіла сюды з бліжэйшых паселішчаў, было змешаным з славян і балтаў.

Знойдзена 20 гліняных пасудзін, вылепленых ад рукі, без прымянення ганчарнага круга, у якіх было абугленае зерне пшаніцы, гароху і проса. Сярод гаршкоў ёсць такія, якія маюць пашырэнне ў верхняй частцы, што характэрна для вырабаў славян, але большасць мелі форму слоіка і належалі балтам.

У Барысаўскім раёне паселішча каля вёскі Дзядзілавічы размяшчалася побач з гарадзішчам на пакатых схілах узгорка, які быў забудаваны шматлікімі паўзямлянкамі плошчай 10—16 квадратных метраў. Жытлы былі заглыблены на 0,4—0,5 метра ў зямлю. Унутры іх у адным з кутоў размяшчаліся печы круглай формы, складзеныя з камянёў. Знойдзены слоікападобныя міскі, гліняныя гаршкі і патэльні. Паўзямлянкавыя жытлы будавалі славяне, але гліняныя пасудзіны падобнай формы характэрны для балтаў. Растлумачыць гэту незвычайную з'яву можна тым, што насельніцтва, якое тут знаходзілася, было змешаным і складалася з балтаў і славян. У адным памяшканні выяўлены жорны. Такім прыстасаваннем для ручнога памолу зерня тады карысталіся славяне. Балты расціралі зерне на зерняцёрках.

Гарадзішчы і селішчы з матэрыяльнай культурай, як у Банцараўшчыне, знойдзены ў многіх месцах цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Яны сведчаць аб тым, што ў V—VIII стст. славяне рассяляліся ў гэтых мясцінах і змешваліся з балтамі, што спрыяла фарміраванню новых прабеларускіх плямёнаў.

Выдатнае гарадзішча VI—VIII стст. знойдзена археолагамі каля вёскі Нікадзімава Горацкага раёна на Магілёўшчыне. Нікадзімаўскае гарадзішча месціцца на беразе ракі Быстрая, якая ўпадае ў Проню. Яно мае дзве пляцоўкі, добра ўмацавана валамі. Пры раскопках выяўлены рэшткі доўгай пабудовы слупавой канструкцыі. Яна была падзелена на жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Знойдзены ў значнай колькасці прадметы ўзбраення воінаў і рыштунку конніка: шпоры, цуглі і іншыя дэталі конскай збруі. Своеасаблівымі славянскімі ўпрыгожаннямі з'яўляюцца бронзавыя шпількі (фібулы), якіх выяўлена 6 экземпляраў.

Падобнае гарадзішча вывучана каля вёскі Вежкі Дубровенскага раёна на Віцебшчыне. На гарадзішчы захоўвалася найбольш каштоўная маёмасць абшчыны (запасы харчавання, гаспадарча-бытавы інвентар і інш.). Радавыя члены абшчыны жылі на адкрытым неўмацаваным селішчы, размешчаным побач з гарадзішчам.

Выяўленыя пры раскопках багаты і прэстыжны набор ювелірных упрыгожанняў, зброя сведчаць аб тым, што паселішчы Нікадзімава і Вежкі з'яўляліся важнымі абшчыннымі цэнтрамі, якія кантралявалі значную тэрыторыю.

# ПРА ЧАС ДАЛЁКІ, ЛЕТАПІСНЫ

Усходнія славяне сяліліся на прасторах той часткі Еўропы, дзе працякалі рэкі Днепр (з прытокамі Прыпяць, Дзясна, Сож), Днестр, Прут, Паўднёвы Буг, а таксама дзе знаходзіліся вярхоўі Заходняй Дзвіны, Волгі, Акі. Яны занялі велізарную тэрыторыю ад Ладажскага возера на поўначы да берагоў Чорнага мора на поўдні. Іх суседзямі былі шматлікія неславянскія плямёны. Дакладна вызначаных граніц паміж плямёнамі не існавала. Былі цэлыя тэрыторыі, дзе жыло змешанае насельніцтва. Славяне, якія жылі ва Усходняй Еўропе, падзяліліся ў IX—X стст. прыкладна на 15 асобных аб'яднанняў — саюзаў плямёнаў. Яны пералічаны ў старажытных летапісах: паляне, ільменскія славяне, драўляне, севяране, крывічы і інш.

## Кожны жыў са сваім родам

Гісторыка-геаграфічныя звесткі пра жыццё ўсходніх славян і ўтварэнне Кіеўскай Русі змешчаны ў старажытным творы «Аповесць мінулых часоў» (яго яшчэ называюць пачатковым летапісам). Гэты твор закончыў пісаць каля 1113 г. кіеўскі манах Нестар.

Першы запіс у летапісе датаваны 852 годам. Далей падзеі апісаны паслядоўна, год за годам.

У самым пачатку летапісу даецца гісторыка-геаграфічнае апавяданне, якое склаў, як мяркуюць, сам Нестар, калі ён заканчваў «Аповесць». Тут гаворыцца аб рассяленні славян ва Усходняй Еўропе. Летапісец расказвае, дзе, у якіх месцах «кожны жыў са сваім родам».

Перш за ўсё ён гаворыць пра «мудрых і смысленых палян». Яны жылі на берагах Дняпра, непадалёку ад зліц-

ця яго з Дзясной. Іх цэнтрам быў горад Кіеў. Летапісец з вялікай пахвалой гаворыць пра палян. Яны лагодныя, спакойнага нораву, паважаюць старых і жанчын.

Інакш піша ён пра жыццё і побыт прадстаўнікоў іншых груповак усходніх славян. Да іх летапісец ставіцца больш крытычна. Як-ніяк сам ён быў кіяўлянінам і хацеў паказаць палян у больш прыгожым святле.

У гаспадарчым і культурным развіцці паляне сапраўды былі крыху наперадзе. Нездарма іх горад Кіеў называўся «маці гарадоў рускіх» і хутка зрабіўся сталіцай старажытнай Русі.

Палянскае княства, на чале якога стаяў, паводле легендаў, князь Кій, зрабілася ядром дзяржавы — Кіеўскай Русі.

Апошні раз імя палян у летапісах сустракаецца ў 944 г. Пасля яго змяніла племянная назва «Русь». Гэтая назва, дакладнае паходжанне якой не высветлена, паступова замацавалася за часткай усходніх славян, якія жылі вакол



Наканечнікі дзідаў (коп'яў) з гарадзішча Нікадзімава

Кіева, Чарнігава і Пераяслаўля. Пачаткова толькі дадзеная тэрыторыя называлася «Рускай зямлёй». У XII—XIII стст. назва «Русь» распаўсюдзілася на ўсіх славян Усходняй Еўропы і іх землі.

На захад ад палян знаходзіліся драўляне. Старажытная назва «дрэўлі» паходзіць ад мясцовасці, дзе яны жылі — у лясах на правабярэжжы Прыпяці, па цячэнні рэк Цэцераў, Убарць, Ствіга. Гэта прамыя нашчадкі славянскіх плямёнаў, якія ў VI—VIII стст. займалі правабярэжную частку Сярэдняга Падняпроўя і басейна Прыпяці.

Князі збіралі даніну з падуладнага насельніцтва. З восені ішлі яны ў «палюддзе», а вясной, калі на рэках сыходзіў лёд, вярталіся ў Кіеў, каб везці на продаж у Царград (Канстанцінопаль) тое, што яны сабралі зімой.

У 883 г. кіеўскі князь Алег, родзіч Рурыка, прымусіў драўлян плаціць яму даніну, але пасля яго смерці драўляне хацелі адасобіцца ад Кіева. Новы князь Ігар, сын ворага Рурыка, наважваўся зноў падпарадкаваць іх, аднак быў забіты ў час збору празмернай даніны ў 945 г. па загадзе драўлянскага князя Мала. Ігарава жонка княгіня Вольга жорстка адпомсціла драўлянам. Іх гарады былі спалены, мясцовая знаць вынішчана.

Што ж адбывалася ў тыя далёкія часы на тэрыторыі сучаснай Беларусі? Якія ўсходнеславянскія аб'яднанні плямёнаў склаліся і існавалі тут? Іх было тры: крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы.

Слова «крывічы», як мяркуюць, паходзіць ад мянушкі першапачынальніка роду Крыва ці Крыў. Напачатку назва магла належаць дынастычнаму роду, а затым распаўсюдзілася на племянныя групы і землі, што яны займалі.

Уласныя імёны з'явіліся ў глыбокай старажытнасці, каб адрозніваць людзей у родзе, племені, сям'і. Прозвішчаў у старажытных славян не існавала. Людзей называлі па імю: Радзімір, ці Радзім, Дабрыня, Пуцята, Святаслаў. Часта да чалавека звярталіся па мянушцы: Воўчы Хвост, Крыва і інш.

Крывічы — вялікае аб'яднанне плямёнаў ва Усходняй Еўропе апошняй чвэрці І тыс. н. э. Яны займалі частку

Верхняга Падняпроўя, верхняе цячэнне Заходняй Дзвіны, вярхоўі Волгі і Пскоўшчыну.

У 862 г. крывічы ўдзельнічалі ў выгнанні варагаў «прэч за мора». Але потым, як гаворыцца ў летапісе, крывічы разам з чуддзю і наўгародскімі славенамі зноў пaклікалі варагаў. Крывічы ўдзельнічалі ў паходзе Алега ў 907 і Ігара ў 944 г. супраць грэкаў на Царград.

З тэрыторыяй сучаснай Беларусі звязана гісторыя палачан — так называлі крывічоў, якія жылі ля ракі Палаты. Полацкія крывічы займалі тэрыторыю сучаснай Віцебскай вобласці, а таксама некаторыя іншыя суседнія раёны.

Назва «крывічы» ў адносінах да насельніцтва старажытных зямель паўночнай Беларусі неаднаразова сустракаецца ў крыніцах XII ст. Полацкія князі ў летапісных паведамленнях 1128, 1140 і 1162 г. названы крывіцкімі. Ад этнічнай назвы «крывічы» ўтварыліся геаграфічныя назвы многіх населеных пунктаў Беларусі.

Галоўным цэнтрам крывіцка-палачанскага саюзу быў Полацк. Гэты горад заснавалі крывічы. У летапісе так і адзначана: яны «першыя жыхары ў Полацку». Тут збіралася племяннoe веча, абмяркоўваліся племянныя і судовыя справы, спраўляліся культавыя абрады, наладжваліся таргі. У племянным цэнтры знаходзіўся князь, які збіраў даніну з навакольнага насельніцтва.

Княжанне палачан існавала ў IX ст. і названа ў летапісе. Гэта было першапачатковае дзяржаўнае ўтварэнне ў Беларускім Падзвінні. Апрача Полацка рэшткі старажытных паселішчаў крывічоў IX ст. археолагі знайшлі ў Віцебску і Лукомлі.

Віцебск узнік ля зліцця ракі Віцьбы з Заходняй Дзвіной. Ён сфарміраваўся як горад з асобных паселішчаў крывічоў IX — пачатку X ст., якія папярэднічалі яму на ўзвышшах у даліне ракі Віцьбы. З канца X ст. пачало засяляцца Узгор'е, дзе пазней узнік значны пасад Віцебска на правым беразе Віцьбы. Пачатковыя ўмацаванні на Замкавай гары неаднаразова перабудоўваліся.

На працягу XII—XIII стст. адбывалася паступовае зліццё асобных пасадскіх паселішчаў у адзіную ганд-

лёва-рамесную частку горада. У сталым сярэднявеччы Віцебск з'яўляўся значным беларускім горадам у Верхнім Падзвінні.

У басейне Заходняй Дзвіны, на беразе Лукомкі, узнік Лукомль. У IX—X стст. гэта быў умацаваны пункт крывічоў. У яго дзядзінцы маглі жыць некалькі дзесяткаў чалавек. Магчыма, гэта быў родавы старэйшына са сваёй раднёй ці княжы муж з чэляддзю.

Старажытным паселішчам крывічоў з'яўляецца Браслаў. У канцы X — пачатку XI ст. узніклі і іншыя гарады Полацкага княства: Ізяслаўль (Заслаўе), Друцк, Лагойск, Усвяты. Пазней былі пабудаваны Менск на Свіслачы, Орша і Копысь на Дняпры, Барысаў на Бярэзіне.

Дрыгавічы — паўднёвыя суседзі полацкіх крывічоў. Паводле летапісных звестак, дрыгавічы жылі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной. Мы ўжо ведаем, што басейн Заходняй Дзвіны і вярхоўі Бярэзіны заселены крывічамі. Паўночная граніца рассялення дрыгавічоў праходзіла ў сярэдняй частцы Беларусі, прыкладна на лініі Мінск — Заслаўе — Барысаў. Тут знаходзілася паласа змяшання дрыгавічоў з палачанамі.

Дрыгавічы, як і полацкія крывічы, мелі асобны племянны саюз, сваё «княжанне». Дзе размяшчаўся пачатковы цэнтр дрыгавічоў, дакладна невядома. Летапісы ў XII ст. называюць дрыгавіцкімі гарады Слуцк і Клецк. Археалагічныя раскопкі паказалі, што раней XI ст. славянскіх паселішчаў на месцы гэтых гарадоў не было.

Звычайна дрыгавіцкім горадам лічаць Тураў. Ён знаходзіўся на правым, паўднёвым беразе Прыпяці, у паласе змяшання дрыгавічоў і драўлян.

Першая летапісная звестка пра Тураў адносіцца да 980 г. Паходжанне яго назвы летапісец звязваў з уласным імем Туры. Вельмі цікава і не выпадкова, што князь Туры з'явіўся на Палессі ў той час, калі і Рагвалод у Полацку. Старажытны летапісец піша: «Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора і меў уладу сваю ў Полацку, а Туры меў уладу ў Тураве, таму і назваліся тураўцы». 980 год — важная дата ў палітычным жыцці двух старажытных княстваў на тэрыторыі Беларусі — Полацкага і Тураўскага.

Асноўным насельніцтвам Тураўскага княства былі дрыгавічы. Рака Прыпяць звязвала Тураў з Кіевам, а яе прытокі адкрывалі шлях у межы Полацкай зямлі, на Валынь і ў Польшчу.

Тураў — найбольш старажытны горад паўднёвых зямель Беларусі. Зараз ён з'яўляецца горадам Жыткавіцкага раёна на Гомельшчыне. У Тураве захаваліся рэшткі сярэднявечнага гарадзішча — Замкавая гара. Археолагі знайшлі тут шмат каштоўных старажытных рэчаў.

З канца XI ст. у летапісах упамінаецца вядомы горад Пінск. Па сваім гаспадарчым развіцці ён хутка выйшаў на першае месца сярод іншых гарадоў Тураўскай зямлі, пераўзышоўшы нават Тураў. Новыя археалагічныя матэрыялы дапамаглі больш поўна раскрыць жыццё старажытнага горада на рацэ Піне. Яны ў поўнай адпаведнасці з пісьмовымі крыніцамі пацвердзілі, што Пінск быў буйным цэнтрам Тураўскага княства.

Старажытныя гарады Тураўскай зямлі Слуцк, Клецк, Давыд-Гарадок, Капыль, Мазыр і Брагін, што ўзніклі на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў у XII ст., адыходзілі да Кіеўскага, а Рагачоў і Рэчыца на Дняпры — да Чарнігаўскага княстваў.

У сярэдзіне XII ст. Тураўская зямля падзялілася на ўдзельныя княствы: Тураўскае, Пінскае, Клецкае, Слуцкае і іншыя і страціла сваё былое значэнне.

Летапіснае паданне расказвае, што радзімічы атрымалі сваю назву ад імя іх родавага павадыра Радзіма, які пасяліўся са сваякамі на рацэ Сож. Братам Радзіма быў Вятка — пачынальнік роду вяцічаў, з якімі Вятка прыйшоў да ракі Акі.

Радзімічам, таксама як вяцічам і северанам, летапісец дае адмоўную характарыстыку з пункту гледжання хрысціянскай маралі. Жылі яны ў лясах як дзікуны, елі брудную ежу, на язычніцкіх «бесаўскіх ігрышчах» танцавалі і спявалі, выкрадалі сабе жонак, якіх мелі па дзве-тры. Тут летапісец, відаць, згусціў фарбы, супрацьпастаўляючы «дзікунскі» быт радзімічаў і іншых жыхароў лясной паласы Усходняй Еўропы быту кіеўскіх палян.

Амаль да X ст. радзімічы жылі самастойна і выплачвалі даніну спачатку хазарам, а потым Кіеву. У 984 г. самастойнасці радзімічаў прыйшоў канец. У летапісах апавядаецца пра паход вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча на радзімічаў. Перадавы атрад княжацкага войска ўзначальваў ваявода Воўчы Хвост. Радзімічы былі разбіты на рацэ Пяшчань у Пасожжы.

У X–XI стст. у радзімічаў меліся невялікія гарады: Прапошаск (цяпер Слаўгарад), Чачэрск, на памежжы радзімічаў і крывічоў быў Крычаў. Больш значным з'яўляўся Гомій, але радзімічы своечасова не аб'ядналіся вакол яго. Іх тэрыторыя пазней была падзелена паміж княствамі Смаленскім, Чарнігаўскім і інш.

Горад Мсціслаў у XIII ст. адносіўся да Смаленскай зямлі, а Гомель — да Чарнігаўскай. Гэтыя гарады былі цэнтрамі невялікіх удзельных княстваў.

Летапісцы не гавораць, якія групы ўсходніх славян жылі на Брэстчыне і Гродзеншчыне. Дрыгавічы і крывічы рана з'явіліся ў Панямонні, дзе знаходзілася граніца паміж літоўскімі і ўсходнеславянскімі плямёнамі. З поўдня сюды пранікл валыняне.

З канца X ст. у беларускім Панямонні ўзніклі гарады Навагрудак, Ваўкавыск, Гродна, а прыкладна на стагоддзе пазней — Слонім. Археалагічныя даследаванні пака-




Наваградак у 70-я гады XIII ст. (мастацкая рэканструкцыя В. Сташчанюка)

залі, што яны былі ў XI—XIII стст. квітнеючымі гарадамі з тыповай усходнеславянскай культурай.

У першай палове XII ст. Гродна стаў цэнтрам асобнага княства. Гродзенскі князь Усеваладка ўдзельнічаў у 1127 г. у паходзе на Полацк. З XV ст. беларускае Панямонне вядома пад назвай «Чорная Русь».

Пэўнае дачыненне да гісторыі Гродзеншчыны мелі плямёны яцвягаў, асноўныя землі якіх былі размешчаны на паўночны захад ад Гродна, у Сувалках, на тэрыторыі сучаснай Польшчы.

У цеснай сувязі з Тураўскім княствам у XI ст. быў горад Берасце, сучасны Брэст. З пачатку свайго ўзнікнення ён з'яўляўся цэнтрам Берасцейскай зямлі. Да гэтай зямлі належалі гарады Кобрын, Камянец і інш. У другой палове XII, а таксама ў XIII ст. Берасцейшчына ўваходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства, але адначасова карысталася самастойнасцю. Фактычна ўлада ў Берасці належала мясцоваму вечу.

## Дрэмле памятка дзён...

Курганы... Колькі іх на беларускай зямлі! Вучоныя называюць прыкладную лічбу — больш за сорак тысяч. Яшчэ ніхто не падлічыў легендаў, якія расказваюць аб гэтых незвычайных пагорках. Шмат таямніц далёкага мінулага хаваюць задзірванелыя «маўчуны».

І як тут не прыгадаць цудоўныя радкі з паэмы Янкі Купалы:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, —
Ўдзірванелы курган векавечны.

Вось на курган прыйшоў археолаг. З ім шумлівы гурт вясковых школьнікаў. Вучоны ўважліва аглядае насыпы, падлічвае іх, наносіць на плане.

Напэўна, адзін курган яго асабліва зацікавіў. З дапамогай памочнікаў ён вымярае дыяметр і вышыню. Мяркуе ў апошні раз, як лепш раскапаць курган.

Затым праз цэнтр насыпу па компасе праводзіць дзве лініі: поўнач — поўдзень і ўсход — захад. Яны перасяка-

юцца пад прамым вуглом. Тут будуць пакінуты перакрыжаваныя палоскі зямлі. Іх археолагі называюць броўкамі. Броўкі раскапаюць у апошнюю чаргу, каб захаваць разрэзы — профілі кургана ў натуральную велічыню — для будучых прамераў, здымкаў, чарцяжоў. Па броўках лёгка прасачыць будову кургана, якія слаі і праслойкі ў ім сустракаюцца.

Надыходзіць час капаць курган. Усе бяруцца за рыдлёўкі. На кожную чвэрць насыпу становяцца па два чалавекі. Курган капаюць адразу з чатырох бакоў, застаюцца толькі намечаныя броўкі. Насып паступова змяншаецца. Хутка ён раскрые таямніцы, якія хаваў многія стагоддзі.

Важнае значэнне для навуковых даследаванняў маюць пахаванні ўсходніх славян. З VI ст. памерлых пачалі хаваць у курганах (невялікіх пагорках, насыпаных з пяску над магілай). Дзе-нідзе сустракаюцца курганы, абкладзеныя камянямі. Іх вышыня бывае ад 20—30 сантыметраў да 3—4 метраў. Часцей за ўсё сустракаюцца курганы вышынёй 1—1,5 метра.

Размяшчаюцца курганы па адным, па два, але большасць іх знаходзіцца на могільніках, часам дзесяткамі, а то і сотнямі ў адным месцы. Насыпы трапляюцца доўгія, падоўжаныя, авальныя, чатырохвугольныя, але часцей за ўсё — круглыя.

Па-рознаму называе насельніцтва курганныя могільнікі. На Віцебшчыне да сучаснага моманту можна пачуць мясцовую назву курганоў — «валатоўкі». Яна звязана са старадаўнім уяўленнем аб тым, што быццам бы ў курганах пахаваны людзі вялікага росту і сілы — волаты.

На Гомельшчыне курганы называюць «капцамі». Але самая распаўсюджаная іх назва на Беларусі — французскія ці шведскія магілы. Звязана гэта з тым, што сярод насельніцтва сустракаюцца людзі, асабліва старэйшага ўзросту, якія сцвярджаюць, нібыта ў курганах пахаваны французы ці шведы.

На самай справе пахавальныя курганы не маюць ніякага дачынення да шведаў, французаў ці іншых чужынцаў. Гэта пахаванні нашых далёкіх продкаў — славян. На невялікай тэрыторыі на Гродзеншчыне (Астравецкі, Смаргон-

скі, Ашмянскі і іншыя раёны) ёсць старажытныя курганы, якія належалі балцкім усходнелітоўскім плямёнам.

Згодна з уяўленнем людзей часоў рода-племяннога ладу душа нябожчыка працягвае сваё існаванне і пасля смерці чалавека. Яны верылі, быццам бы памерламу «на тым свеце» неабходна ўсё тое, чым ён карыстаўся пры жыцці.

З аднаго боку, памерлага баяліся, ён выклікаў страх, з другога — яго імкнуліся задобрыць, улагодзіць, упрасіць не пакідаць родзічаў, дапамагаць ім.

Таму ў магілу нябожчыка клалі розныя рэчы, якія нібыта маглі спатрэбіцца ў «загробным жыцці». Гэта былі ўпрыгожанні, зброя, прылады працы і хатняга ўжытку, нават ежа ў гаршках.

Памерлага любога ўзросту па традыцыі адносілі да ліку «дзядоў», продкаў. Іх ушаноўвалі многія народы, у тым ліку ўсходнія славяне.

Паводле вельмі даўніх язычніцкіх вераванняў, агонь быў свяшчэннай ачышчальнай сілай. Яму і аддавалі цела нябожчыка разам з яго рэчамі, спальваючы ўсё на вогнішчы.

У VI—VIII стст. у некаторых месцах, напрыклад, на Віцебшчыне, існаваў звычай змяшчаць перапаленыя рэшткі ў гліняную пасудзіну — урну. Яе ставілі там, дзе потым насыпалі курган. Здаралася і так, што рэшткі перапаленых касцей зграбалі ў невялікую ямку, якую потым накрывалі гаршком, ставячы яго дном уверх. Потым над усім гэтым рабілі насып.

Часта пры насыпанні кургана ўчынялася «трызна»: урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе ваеннай гульні ці спаборніцтва.

Рэлігія ўсходніх славян была язычніцкая, мнагабожная. Яны абагаўлялі навакольную прыроду — сонца і месяц, камяні і горы, азёры і рэкі, дрэвы і розныя расліны.

Паступова складвалася ўяўленне аб бажаствах, якія ўвасаблялі сабою стыхійныя з'явы прыроды. Багі ўяўляліся ў выглядзе людзей. Вусаты Пярун быў богам грому і маланкі, сонечнымі бажаствамі лічыліся Хорс, Дажбог, Ярыла і Купала.

У вераваннях усходніх славян яскрава адлюстраваны іх заняткі сельскай гаспадаркай. У каляндарна-абрадавай

паэзіі вылучаюцца тры галоўныя цыклы: зімовы, веснавы, летне-асенні.

Асабліва пышна ў старажытных землях Беларусі праводзілася святкаванне Купалля. Прыпадала яно на перыяд найбольшага росквіту прыроды і выспявання збожжа, перад жнівом. У купальскую ноч, з 23 на 24 чэрвеня (па новым стылі 7 ліпеня), на берагах рэк шугала полымя вогнішчаў, хлопцы і дзяўчаты вадзілі вакол іх карагоды, скакалі праз агонь, спявалі абрадавыя песні. На досвітку дзяўчаты кідалі ў ваду вянкі.

Існавала паданне, быццам у гэту ноч у лясным гушчары расцвітае агніста-чырвоная папараць-кветка. Чалавеку, які яе знойдзе, паводле падання, забяспечана бессмяротнасць.

Язычніцкія вераванні ўсходніх славян па-свойму адлюстроўвалі з'явы рода-племяннога ладу. У 988 г. кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч прыняў хрысціянства і абвясціў яго афіцыйнай рэлігіяй Кіеўскай Русі.

Царква забараняла язычніцкі абрад пахавання памерлага, не дазваляла класці ў магілу рэчы, насыпаць над ёй курган. Нягледзячы на гэта, насельніцтва, асабліва ў вёсцы, на працягу XI—XII стст. працягвала хаваць нябожчыкаў пад курганамі, але ў хуткім часе пасля прыняцця хрысціянства іх больш не спальвалі. Рэчы, якімі забяспечвалі памерлага, таксама не гінулі ў полымі.

Курганы гэтага перыяду з'яўляюцца каштоўнымі помнікамі, якія даюць багаты матэрыял па гісторыі ўсходніх славян. Вывучаючы курганы, археолагі праз многія стагоддзі вызначалі граніцы паміж плямёнамі больш дакладна, чым гэта рабіў старажытны летапісец.

«Крывічы... сядзяць на вярхоўях Волгі, Дзвіны і Дняпра... Дрыгавічы сядзяць паміж Прыпяццю і Дзвіной», — пісаў ён.

Але дзе праходзіла граніца паміж крывічамі і дрыгавічамі на тэрыторыі Беларусі, з гэтага паведамлення даведацца нельга. Вучоныя-археолагі ўстанавілі, што яна была на поўнач ад Мінска, па лініі сучасных гарадоў Талачын — Заслаўе. Даведацца пра гэта дапамаглі старажытныя модніцы.

Ва ўсіх усходніх славян прылады працы, рэчы хатняга ўжытку, зброя былі аднолькавыя. Нават гліняныя гаршкі ў XI—XII стст. рабілі ўсюды аднолькавай формы і ўпрыгожвалі арнаментам у выглядзе хвалістых ці прамых паралельных ліній.

Іншая справа — жаночыя ўпрыгожанні. У розных плямёнаў яны былі розныя.

Распаўсюджаным жаночым упрыгожаннем з'яўляліся скроневыя кольцы — бронзавыя ці сярэбраныя падвескі. Іх уплятaлі ў валасы ці насілі на шнурках ля скроней. У крывічанак былі ў модзе ўпрыгожанні ў выглядзе скручанага ў кольца дроту. Іх насілі па тры з кожнага боку (поўны камплект складаў шэсць штук). Археолагі называюць іх бранзалетападобнымі.

У дрыгавічоў на драцяное скроневае кольца надзявалі металічныя буйныя пацеркі — адну, дзве або тры. Пацеркі былі зроблены з дроту, зверху яны ўпрыгожваліся напаянымі шарыкамі — зерню. Галоўная адзнака дрыгавіцкіх вырабаў — наяўнасць зерні.

Жанчыны радзімічаў карысталіся скроневымі кольцамі складанага абрысу з сямю вузкімі выступамі розных памераў унізе. Такія ўпрыгожанні называюць сяміпрамянёвымі.

У час раскопак курганоў ля Заслаўя ў адных насыпах ля памерлых былі знойдзены бранзалетападобныя кольцы, у другіх — драцяныя зярнёныя пацеркі. Стала зразумела, што граніца паміж полацкімі крывічамі і дрыгавічамі праходзіла прыкладна ў гэтых месцах.




Жаночыя ўпрыгожанні з скроневымі кольцамі: *1* — крывічанкі, *2* — дрыгавічанкі, *3* — радзімічанкі

Археолагі штогод праводзяць даследаванні курганоў полацкіх крывічоў. З вялікай ахвотай дапамагаюць ім у рабоце школьнікі. Удалося знайсці і вывучыць самыя старажытныя курганы крывічоў.

Аднойчы жыхары Расоншчыны паведамілі, што каля вёскі Янкавічы ў лясным гушчары, дзе раней існавала вёска Атокі, ёсць незвычайныя пагоркі — валатоўкі. Адзін курган меў даўжыню 110 метраў. Гэта здзівіла ўдзельнікаў раскопак. Дагэтуль лічылі, што найбольшая даўжыня курганоў полацкіх крывічоў — 30 метраў.

Пачаліся раскопкі кургана. Спачатку ў насыпе нічога не знаходзілі.

— Можа, гэта не курган, а звычайны пагорак? — пыталіся вучні.

— Гэты насып зроблены людзьмі. Ён мае правільную выцягнутую форму, а па баках ёсць раўкі, адкуль бралі пясок для кургана, — адказваю я.

— Бачыце, побач яшчэ два круглыя курганы, значыць, гэта курганны могільнік. Самыя старажытныя доўгія курганы звычайна бедныя на знаходкі. Таму іх даследчыкі мала капалі, мала вывучалі. Дакладна невядома, калі і хто іх насыпаў. Для навукі важна раскапаць гэты курган.

Унізе пад насыпам паказаўся слой попелу і вугалю па ўсёй вялікай плошчы кургана. Цяпер трэба было працаваць вельмі асцярожна, каб не пашкодзіць старажытнае пахаванне.

— Гаршчок! — пачуўся гучны голас.

Асцярожна пачалі расчышчаць месца вакол знаходкі. У далейшым яна аказалася сюрпрызам для ўсіх вучоных, якія займаюцца даследаваннем крывічоў. У кургане мы знайшлі вялікае вогнішча, дзе спальвалі памерлых. Тут выявілі толькі рэшткі ўпрыгожанняў, зробленых з бронзы. Асабліва цікавыя былі невялікія круглыя бляшкі, так званыя шкарлупкі. Іх нашывалі на аддзенне. Яны, бы манеты, датуюць час пабудовы кургана V—VI стст. н. э.

Знойдзены ў кургане посуд сустракаецца на паселішчах і гарадзішчах V—VII стст. У навуцы існуе думка, што менавіта такі посуд баначнай формы належаў насельніцтву, якое жыло тут да з'яўлення славян.

Чые ж гэта былі курганы?

Аказалася, гэта захаваліся помнікі таго перыяду, калі славяне рассяліліся на тэрыторыі паўночнай Беларусі і часткова змяшаліся з плямёнамі балтаў — продкаў літоўцаў і латышоў, якія тут жылі раней.

Для вырашэння важных пытанняў гістарычнай навукі патрэбна даследаванне многіх археалагічных помнікаў у розных месцах.

Стала вядома, што кіламетраў за пятнаццаць ад Янкавіч у Полацкім раёне ля вёскі Баркі ёсць яшчэ курганы непадалёку ад ракі Дрысы. Усяго тут мелася 20 кургаңоў. Адзін з іх доўгі. Ён нагадваў вал даўжынёй да 25 метраў. Яго вышыня складала 2 метры. Некаторыя курганы мелі крыху падоўжаную, астатнія — круглую форму.

У раскопках курганоў прымалі ўдзел, як заўсёды, школьнікі. Спачатку мы вырашылі раскапаць невялікі круглы насып, які знаходзіўся з краю курганнага могільніка.

Усе спадзяваліся, што самае цікавае павінна быць унізе, пад курганом. Так яно і здарылася. На жоўтым пяску паказалася круглая невялікая пляма. Расчышчаць яе даручылі двум шасцікласнікам. З дапамогай нажоў яны старанна здымалі сантыметр за сантыметрам попел і вуголле ў ямцы. Ямка ж была запоўнена дробнымі перапаленымі касцямі.

Я адышоўся крыху ад кургана, каб сфатаграфаваць яго ў працэсе раскопкі.

— Качанё! — крыкнуў хлапчук.

Спачатку я не зразумеў, у чым справа, падумаў, што гэта жарт.

— У ямцы качанё, — настойліва паўтараў ён.

— Якое качанё, адкуль?

Вучні схіліліся над ямкай і нешта ў ёй уважліва разглядалі. Трэба мець востры зрок, каб сярод соцень перапаленых костак заўважыць невялікую выяву качкі, па-майстэрску зробленую.

Затым другая, трэцяя... касцяныя качкі. Усяго іх аказалася тут каля дзесятка.

У пахаванні было яшчэ некалькі бронзавых падвесак у выглядзе трапецый — жаночых упрыгожанняў. Разам

з касцянымі качкамі іх насілі на шыі, як каралі. Усяго тут налічвалася каля 200 старажытных рэчаў. Большасць была пашкоджана агнём, а астатнія наогул сплавіліся ці згарэлі.

А што ж было ў самым вялікім доўгім кургане, які дапамаглі раскапаць студэнты з Мінска. Курган аказаўся зусім пустым. У ім адсутнічала пахаванне і не было знойдзена ніякіх рэчаў. Можна меркаваць, што гэта быў нейкі абрадавы, культавы насып.

Раскопкі сведчаць, што ў VIII—IX стст. памерлага спальвалі на агні разам з яго рэчамі. Рэшткі зграбалі ў кучку і клалі іх у ямку. У некаторых выпадках зверху засыпанай ямкі ставілі ўверх дном невялікі гаршчок. Затым над пахаваннем насыпалі курган.

На поўначы Віцебскай вобласці, дзе бярэ пачатак рака Ловаць, у наваколлі вёскі Дарахі раскінулася 11 курганных груп, у іх налічваецца 150 курганоў VI—XI стст. Побач на возеры Сенніца знаходзяцца рэшткі старажытных паселішчаў.

У курганах знойдзены старажытныя рэчы: гаршкі, жаночыя ўпрыгожанні, цуглі, спражкі. У магілу VIII ст. быў пакладзены камень ад жорнаў.

Жорны ў кургане — рэдкая і важная знаходка. Яна сведчыць пра славянскае пахаванне, бо суседняе балцкае і фіна-угорскае насельніцтва ў гэты час яшчэ карысталася выключна прымітыўнымі зерняцёркамі. Знойдзены жорнавы камень дазволіў даследчыкам рэканструяваць старажытны ручны млын, з дапамогай якога пераціралі зерне ў муку.

Раскапаныя курганы далі магчымасць гісторыкам вывучыць пытанне аб паходжанні крывічоў, працэс фарміравання якіх адбываўся ў другой палове I тыс. н. э., калі славяне рассяляліся на тэрыторыі Беларускага Падзвіння.

## Чаго не ведалі летапісцы

Сельская гаспадарка і звязаная з ёй жывёлагадоўля складалі аснову эканамічнага жыцця ўсходніх славян. Аднак летапісцы мала цікавіліся жыццём сяла.

Як жа выглядала старажытная вёска, дзе яна размяшчалася? Хто ў ёй жыў, якімі рэчамі карыстаўся? На

гэтыя пытанні няма адказу ў старажытных пісьмовых крыніцах.

Археалагічныя помнікі старажытнай вёскі XI—XII стст. — курганныя пахаванні і рэшткі паселішчаў. На жаль, рэшткі сельскіх паселішчаў дрэнна захоўваюцца, таму яны маладаследаваны. Асноўны матэрыял, па якім дагэтуль вывучалася вёска, атрыманы ў час раскопак курганоў.

Аматарам-рыбаловам з Полацка добра вядома возера Суя. Знаходзіцца яно за 20 кіламетраў на поўдзень ад горада. Тут каля вёскі Плусы была курганная група. Курганы цягнуліся на 200 метраў па беразе возера.

У 1965 г. група вучняў старэйшых класаў школ горада Полацка пажадала ўдзельнічаць у археалагічных раскопках гэтых курганоў. Збіраліся яны, як у турысцкі паход. Рыхтавалі рукзакі, палаткі, посуд і правіянт. Рыбаловы ў першую чаргу прыгатавалі вуды. Вырашылі спалучыць прыемнае з карысным. Днём удзельнічаць у раскопках курганоў, а вечарам — рыбачыць. Хто не жадае паесці свежай юшкі каля агню на беразе цудоўнага возера з чыстай празрыстай вадой!

Раніцай наша экспедыцыйная машына з гуртам школьнікаў пад'ехала да курганнага могільніка. Палова дня была патрачана на абсталяванне лагера. Вызначалі распарадак работы і адпачынку, размяркоўвалі абавязкі.

Некалькі аматараў археалогіі адразу выказалі жаданне прыняць удзел у непасрэднай падрыхтоўцы да раскопак. Спачатку трэба было скласці дакладны план курганнай групы, адзначыць на ім кожны курган, падлічыць помнікі. Усяго тут было 36 насыпаў. Усе яны круглыя ў плане, калі на іх глядзець зверху. Да вечара паспелі падрыхтаваць для раскопак першы курган, разбілі яго на чвэрці. Назаўтра пачалі працу. Курган быў насыпаны з пяску і лёгка раскопваўся, цяжэй было спачатку здымаць дзірван.

У насыпе пачалі сустракацца кавалкі ад вылепленых гліняных гаршкоў VI—VII стст. Яны былі вельмі падобныя на гаршчок, знойдзены ў доўгім кургане Атокі ля вёскі Янкавічы.

Такая з'ява сустракаецца пры раскопках больш позніх курганоў. Справа ў тым, што яны нярэдка насыпаліся на месцы паселішчаў V—VII стст. ранейшага культурнага пласта. Разам з зямлёй у насып кургана траплялі абломкі старажытных гаршкоў. Яны не мелі дачынення да пахаванняў.

Пад курганом знаходзіўся чорны культурны пласт паселішча. У самым цэнтры плошчы кургана выдзялялася прамавугольная пляма. Яе даўжыня каля 2 метраў, шырыня — 1 метр. Мы пачалі расчышчаць гэту яму шуфлікамі і нажамі.

Яма праразала культурны пласт і паглыблялася ў жоўты, пясчанага колеру грунт. На глыбіні ў 30 сантыметраў паказаліся косці шкілета чалавека. Захаваліся яны вельмі дрэнна. Але можна было вызначыць, што памерлая ляжала па славянскім звычаі галавою на захад, тварам да ўзыходзячага сонца.

Аб тым, што была пахавана жанчына, сведчылі пакладзеныя ў магілу рэчы. Ля шкілета знойдзены бронзавыя жаночыя ўпрыгожанні: бранзалет, пярсцёнак. Вызначыць дату пахавання асабліва дапамагла бронзавая бразготка. Старажытныя бразготкі — пустыя невялікія шарыкі з кавалачкамі металу ўсярэдзіне, якія звіняць, калі іх трэсці. Бразготкі насілі на шыі разам з каралямі. Такія рэчы мелі шырокае распаўсюджанне ў XI ст. Да гэтага часу адносіцца і арнаментаваны трыма хвалістымі лініямі гаршчок, які ляжаў каля пахавання.

Мы даследавалі некалькі курганоў. У адных пахаваннях мелася шмат рэчаў, а ў другіх каля памерлага не было амаль нічога. Гэта адлюстроўвала маёмасную няроўнасць людзей.

Самы вялікі курган вышынёй ў 2 метры аказаўся пустым. Толькі ўдалося вызначыць, што насыпаўся ён двойчы. У другі раз курган быў значна павялічаны. Мяркуюць, што пустыя курганы ўзводзіліся на ўспамін аб людзях, якія загінулі недзе на чужыне ці ўтапіліся.

У адным кургане пад насыпам было трупаспаленне (крэмацыя). На грунце ляжаў патрушчаны гліняны гаршчок. У ім знаходзіліся моцна перапаленыя косці, што высыпаліся. Курган быў насыпаны ў X ст.

Такім чынам, курганны могільнік адносіцца да таго часу, калі крывічы перайшлі ад абраду спалення памерлых на агні да трупапакладання пад курганамі, у магілах. Найбольш старажытныя пахаванні датуюцца X ст., а ўсе астатнія курганы насыпаны на працягу XI ст., ужо пасля прыняцця хрысціянства.

Цэлы тыдзень мы жылі ў палатках на беразе возера. Хлапчукі ўжо паспелі «вывучыць» возера і яго берагі — ведалі, у якіх месцах добра ловіцца рыба, дзе расце чарот і, вядома, месцы, дзе лепш за ўсё купацца.

У апошні дзень нашай экспедыцыі ўсе яе ўдзельнікі сабраліся ля крайняга кургана. Я паведаміў ход далейшых работ. Нам патрэбна было абследаваць берагі возера і знайсці тое месца, дзе існавала паселішча людзей, пахаванні якіх мы раскапалі.

— Мы былі тут усюды, нічога старажытнага апрача курганоў не бачылі, — гаварылі вучні.

Я растлумачыў, што ў старажытныя часы вёскі размяшчаліся не на высокіх узвышшах, а на нізкіх берагах рэк і азёр. Гэта было зручна для жыхароў, якія займаліся сельскай гаспадаркай, жывёлагадоўляй. Знайсці рэшткі такіх паселішчаў — справа нялёгкая. Трэба ўважліва агледзець кожны метр паверхні зямлі.

Мае памочнікі зразумелі, што цяпер патрэбна ісці па беразе возера і шукаць чарапкі ад гаршкоў. Колькасць знойдзеных фрагментаў павялічвалася з кожнай хвілінай. Хутка іх сабралі цэлае вядро. Кавалкі належалі гаршкам, зробленым на ганчарным крузе, і паводле сваёй формы датаваліся XII—XIII стст.

Да мяне падбеглі двое вучняў. У аднаго ў руках было бронзавае кольца, якое ў старажытнасці насілі на пальцы, як пярсцёнак. Яно было сагнута з пласцінкі, арнаментаванай рысачкамі, размешчанымі ў «елачку». Дакладна такія самыя рэчы мы знайшлі ў двух курганах разам з пахаваннямі.

Другому хлапчуку трапіўся крыжык. Ён быў адліты з бронзы, меў патоўшчаныя канцы і рамбічны цэнтр. Такія крыжыкі вядомы на старажытных помніках XI—XII стст. Усходняй Еўропы і Прыбалтыкі.



Зроблены на ганчарным крузе гаршчок XI ст. (Плусы, Полацкі раён)

Сярод знаходак былі і жалезныя рэчы — тры кручкі для лоўлі рыбы. Яны нагадвалі сучасныя рыбалоўныя кручкі, толькі ў іх не было адцягнутага зуба.

Трапілася яшчэ адна цікавая знаходка — тонкі бронзавы злітак у выглядзе палачкі. Такія зліткі служылі запасам сыравіны для бронзаліцейнай справы.

Прыкметы іншых паселішчаў XII—XIII стст. ёсць і на тэрыторыі сучаснай вёскі Плусы.

Так мы даведаліся пра старадаўнюю гісторыю насельніцтва, якое жыло на берагах возера Суя. У V—VII стст. тут існавала невялікае паселішча. Потым яно было пакінута. З XI ст. побач узнікла другое славянскае паселішча-вёска. Насельніцтва хавала памерлых у курганах, якія насыпаліся на месцы першага, больш ранняга пасялення.

Археалагічныя помнікі намнога пераЖылі сваіх былых гаспадароў і праз стагоддзі расказалі тое, аб чым не паведамляюць летапісцы, пра што мы ніколі б не даведаліся без раскопак.

## За драўлянымі сценамі гарадоў

Пры рода-племянным ладзе не было вёсак і гарадоў як асобных тыпаў паселішчаў. У грамадстве яшчэ адсутнічалі прычыны для з'яўлення адасобленых груп — гарадскога і сельскага насельніцтва. Далейшае развіццё земляробства і жывёлагадоўлі падрыхтавала аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі. Выдзяленне рамеснікаў з асноўнай масы насельніцтва спрыяла ўзнікненню гарадоў. Разам з тым у грамадстве паглыблялася маёмасная няроўнасць. З'яўляліся ўладальнікі зямлі — феадалы.

Калі ў выніку ўсяго гэтага склалася ўяўленне пра горад як пра асобны тып пасялення, то ўзнікла паняцце «негарадскія паселішчы». У пісьмовых крыніцах выкарыстоўваецца некалькі назваў, якія абазначаюць сельскія паселішчы: «сяло», «весь», «пагост». Ад старажытнага слова «весь» паходзіць беларускае «вёска». Горад летапісцы часта супрацьпастаўлялі «весі». «Гарады» і «весі» — пісалі яны.

Князі і іх родзічы, феадалы знаходзіліся ў гарадах пад аховай моцных сцен. Тут была княжацкая дружына і духавенства, рамеснікі, купцы.

Насельніцтва на Усходне-Еўрапейскай раўніне размяшчалася асобнымі скапленнямі сярод неабсяжных бязлюдных прастораў лясных масіваў і балот. Большасць яго жыла ў вёсках.

Колькасць вёсак на тэрыторыі Беларусі ў раннефеадальны перыяд вызначаецца прыкладна некалькімі тысячамі. Гарады ж былі рэдкай з'явай — іх налічвалася каля 35.

Узнікненне гарадоў уздзейнічала на развіццё грамадскага жыцця, яны былі цэнтрамі дзяржаўнай улады. З'яўленне гарадоў і фарміраванне дзяржавы адбывалася ва ўсходніх славян, як і ў іншых славянскіх народаў, адначасова. Зародкі найбольш старажытных гарадоў Беларусі з'яўляюцца ў IX ст.

Горад IX—X стст. адрозніваўся ад сяла галоўным чынам сваімі ўмацаваннямі і тым, што ён быў адміністрацыйным цэнтрам, рэзідэнцыяй князя і іншай знаці. З далейшым развіццём гаспадаркі гарады сталі ператварацца ў цэнтры рамяства і гандлю. З XI—XII стст. каля такіх цэнтраў усё больш сяліліся рамеснікі і купцы.

Для росту гарадоў важнае значэнне мела іх геаграфічнае становішча. Заснаванне горада на перасячэнні гандлёвых шляхоў, каля пераправы або ў зручным для прыстані вусці ракі стварала для яго развіцця спрыяльныя ўмовы. Як і ў Заходняй Еўропе, наяўнасць пастаяннага рынку, дзе збіралася навакольнае сельскае насельніцтва і куды прыязджалі замежныя купцы, магла прадвызначыць узнікненне горада менавіта на гэтым месцы.

Некаторыя гарады выраслі вакол сядзіб знаці, іх умацаванага жылля (замка). Абрастаючы сяленнямі, такая

сядзіба ператваралася ва ўмацаваны пункт горада. Памеры сядзіб былі невялікія. Калі населены пункт разрастаўся, узнікала неабходнасць павялічыць дзядзінец або нават перанесці яго ў больш зручнае месца. Асобныя гарады засноўвалі князі для больш надзейнай аховы межаў княстваў.

Звычайна гарады будавалі на высокіх, стромкіх берагах рэк, на вяршынях узгоркаў — у зручных для іх абароны месцах, абкружаных вадой. Дадаткова іх умацоўвалі равамі, высокімі валамі. Валы насыпалі з зямлі. Іх вышыня дасягала 8 метраў.

З верху валоў рабілі драўляныя сцены. Яны ахоўвалі гараджан і воінаў ад варожых стрэлаў. Калі набліжаўся вораг, жыхары зачынялі гарадскія вароты і хаваліся за сценамі. Адтуль яны стралялі з лукаў, кідалі камяні,



Вывучэнне насыпу вала Лукомскага гарадзішча

скідвалі штурмавыя лесвіцы, па якіх варожыя воіны спрабавалі ўзлезці на сцены.

Узяць з бою такое ўмацаванне ў часы, калі асноўнай зброяй былі мячы, стрэлы, коп'і ды сякеры, — справа даволі цяжкая. Браць яго даводзілася аблогай. Войскі абкружалі паселішча і стаялі тут лагерам, каб прымусіць жыхароў здацца з-за голаду і смагі.

Умацаваным цэнтрам горада з'яўлялася ўнутраная крэпасць. У беларускай мове аж да нашых дзён захавалася назва «дзядзінец». Як мяркуюць, яна ўтворана ад слова «дзед». Напэўна, дзядзінцы найбольш старажытных гарадоў былі месцамі збору старэйшын — дзядоў.

Побач з вакольным горадам раслі паселішчы гараджан — «пасады». Часта яны абносіліся «астрогам», гэта значыць драўляным частаколам з бярвенняў, якія вертыкальна ўкопваліся ў зямлю і мелі завостраны верх.

Асобным месцам гарадоў быў рынак — «торг». Ён размяшчаўся непадалёку ад дзядзінца, часам на беразе ракі. Рынак — прыналежнасць як вялікіх, так і малых гарадоў. У сярэднявечным горадзе ён меў намнога большае значэнне, чым базар у пазнейшыя часы. «Торг» з'яўляўся цэнтрам усяго гандлю і рамяства, дзе абменьваліся розныя віды прамысловай прадукцыі. Нярэдка тут збіралася веча. На гандлёвай плошчы людзей апавяшчалі пра розныя важныя справы з жыцця горада.

У раннесярэднявечны перыяд (IX—XI стст.) за горадам знаходзіўся курганны могільнік, дзе хавалі нябожчыкаў. Курганныя могільнікі займалі вялікую плошчу і цягнуліся ўсцяж дарог. У XII — пачатку XIII ст. у гарадах змяніўся звычай пахавання: нябожыкаў хавалі ў грунтавых ямах па хрысціянскім звычаі.

Не вельмі далёка ад горада размяшчаліся сёлы, а таксама ўмацаваныя двары знаці. Паблізу буйных гарадоў будаваліся манастыры. Некаторыя гарады з'яўляліся цэнтрамі княстваў. Лёс княстваў быў цесна звязаны з лёсам яго галоўнага цэнтра. Князь, які валодаў горадам, станавіўся валадаром усяго княства. У горадзе развіваліся культура, будаўнічая справа, дойлідства.

Толькі асобныя гарады былі вялікімі і налічвалі некалькі тысяч жыхароў. Такім горадам з'яўляўся Полацк. Віцебск, Брэст, Гродна, Друцк былі сярэднімі гарадамі. Малыя гарады налічвалі некалькі соцень жыхароў.

Дзядзінец горада Лукомля заставаўся на працягу стагоддзяў нязменным па плошчы і налічваў адну чвэрць гектара. У XII–XIII стст. ён з'яўляўся замкам, дзе жыў буйны феадал. Ля замка па берагах рэчкі Лукомкі існавала паселішча плошчай да 12 гектараў.

На дзядзінцы Лукомля знойдзена шмат каштоўных рэчаў. Сярод іх залатая пацерка, прадметы дарагога ўзбраення, сярэбраныя манеты, шмат прыгожых шкляных бранзалетаў. У замку былі запасы збожжа, якое малолі на шматлікіх каменных жорнах. Тут захоўваліся сельскагаспадарчыя прылады. Археолагам трапілі нарогі для сох. Нарогі яшчэ не былі ў карыстанні.

Невялікія гарады *ці* гарадкі мала чым адрозніваліся ад вёскі. Такія гарады былі напалову вёскамі, напалову гарадамі. Гэта так званыя сярэднявечныя аграрныя гарады.

Будавалі гарады цалкам з дрэва. Таму даўней казалі не «пабудаваць», а «зрубіць» горад. З бярвёнаў будаваліся хаты, хлявы, знадворныя ўмацаванні, масты, вежы і сцены. Бярвёнамі масцілі вуліцы. Нездарма цесляроў называлі тады «градарубамі».

У летапісе пад 1276 годам прыводзяцца цікавыя звесткі аб тым, як быў «зрублены» Камянец. Валынскі князь Уладзімір Васількавіч, які валодаў Берасцейскай зямлёй, вырашыў умацаваць паўночныя рубяжы сваіх уладанняў ад нападу літоўскіх князёў. Ён загадаў градарубу «мужу хітру» Алёксу знайсці месца для будаўніцтва горада.

Алёкса разам з тутэйшымі жыхарамі на чоўнах накіраваўся ўверх па рацэ Лясной, прытоку Заходняга Буга. Аблюбаваўшы парослы лесам высокі бераг ракі, ён вярнуўся да Уладзіміра Васількавіча з паведамленнем, што месца знойдзена. Князь з баярамі і слугамі сам паехаў на тое месца над берагам Лясной, ухваліў выбар і загадаў «зрубіць на ім горад, які быў названы Камянцом, таму што зямля тут была камяністая».



Раскопкі гарадзішча ў Лукомлі (Чашніцкі раён)

Далей летапіс паведамляе, як сярод драўляных умацаванняў у Камянцы быў пабудаваны «стоўп камен» — славутая Камянецкая вежа. Гэта адно з першых мураваных абарончых збудаванняў на тэрыторыі Беларусі. Круглае па форме, вышынёй каля 30 метраў, з пяццю ярусамі-паверхамі ўзвышаецца яно дагэтуль пры дарозе з Брэста ў Белавежскую пушчу на стромкім беразе Лясной. У Беларусі мураваныя абарончыя вежы, падобныя да Камянецкага слупа, існавалі таксама ў Гродне, Брэсце, Тураве.

Аднак гарады і пазней, у XIV—XVI стст., будаваліся галоўным чынам з дрэва. На тэрыторыі Беларусі ў XIV ст. толькі Віцебск, і, магчыма, некаторыя нямногія іншыя гарады мелі мураваныя сцены вакол умацаваных цэнтраў — замкаў.

У XV ст. у Рускай цэнтралізаванай дзяржаве з'явілася слова «крэмль» для абазначэння галоўнай часткі горада. На тэрыторыі Беларусі, якая з канца XIII ст. увайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага, умацаваная частка горада стала называцца «замкам». У старажытнарускіх пісьмовых крыніцах слова «замак» не сустракаецца. Яно з'явілася ва ўсходнеславянскіх мовах не раней за XIV ст.

Прыкладна з гэтага часу ў Беларусі вакольны горад ці вялікае пасадскае паселішча сталі называць «местам», а жыхароў горада — «мяшчанамі».

Шмат цікавага знайшлі вучоныя-археолагі пры даследаванні старажытных беларускіх гарадоў. Кожны сезон раскопак прыносіць новыя і новыя адкрыцці. Вызваленыя ад спрадвечнага палону, адкапаныя ў зямлі знаходкі апавядаюць нам іншы раз намнога больш, чым старажытныя пісьмовыя крыніцы, асабліва пра паходжанне гарадоў, іх эканамічнае жыццё і гаспадарку, пра культуру гараджан.

Да нядаўняга часу лічылі, што рэшткі старажытнага Берасця, які размяшчаўся некалі паблізу сучаснага Брэста, былі канчаткова знішчаны ў першай палове XIX ст., калі тут будавалі крэпасць, а горад перанеслі за два кіламетры на ўсход.

Горад Берасце (Бярэсце) вядомы ў пісьмовых крыніцах з пачатку XI ст. (1017, 1019 гг.). Ужо ў тыя далёкія часы ён быў фарпостам усходнеславянскіх зямель на Заходнім Бугу.

Неаднаразова берасцяне, як іх называюць летапісы, на чале са сваімі адважнымі ваяводамі адбівалі напады ворагаў, якія хацелі захапіць горад. У XIII ст. тут дзейнічала веча, з сілай якога лічыліся як галіцка-валынскія, так і польскія князі.

Няўжо нічога не захавалася ад старажытнага горада?

Увагу археолагаў прыцягнула тэрыторыя Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці, а менавіта мыс пры ўпадзенні ракі Мухавец у Заходні Буг. Тут пачаліся археалагічныя даследаванні.

Звычайна дапытлівыя людзі, якія ўпершыню трапляюць на археалагічныя раскопкі, здзіўляюцца, як у зямлі апынуліся рэшткі драўляных пабудоў: хат, хлявоў, майстэрняў.

Цяпер здзівіліся самі археолагі. Ды і было чаго: уразіла неспадзяванасць знаходкі. На глыбіні да 3 метраў былі драўляныя пабудовы з праёмамі для дзвярэй узростам у 700 гадоў. Адкапаны зруб будынка, які захаваўся на вышыню аж да самай страхі! Сапраўды, як кажуць, горад пад зямлёй.

...*Я* зрабіў адзін крок у берасцейскім раскопе, куды прыехаў, каб паглядзець на гэты цуд, і спыніўся ў здзіўленні. Насупраць была вуліца XIII ст., вузкая і крывая, як звычайна ў сярэднявечным горадзе. Вымашчаная бярвёнамі, яна крыху ўзнімалася ўгару. З абодвух яе бакоў — драўляныя будынкі, шчыльна прыціснутыя адзін да аднаго.

Па вуліцы некалі хадзілі і ездзілі жыхары Берасця. Хто ведае, можа адсюль адпраўляліся яны супраць чужынцаў, якія пагражалі гораду. Дзе-нідзе ў раскопе трапляюцца прадметы ўзбраення берасцейскіх воінаў і амуніцыі коннікаў: наканечнікі стрэл і коп'яў, шпоры, цуглі, дэталі ад ручкі мяча, сякера, нават рэшткі пласцінчатага панцыра.

Берасцяне былі не толькі воінамі, але і ўмелымі рамеснікамі, гандлявалі з купцамі іншых гарадоў і краін, займаліся сельскай гаспадаркай. Пра гэта сведчаць знаходкі.

Цяпер у музеі можна паглядзець на двары і хаты старажытных гараджан. Жылыя пабудовы памерам не больш чым 20 квадратных метраў зрублены ў «просты» вугал. Праёмы для дзвярэй знаходзяцца высока і, па нашым сучасным уяўленні, вельмі маленькія. Іх вышыня часам не дасягае 1 метра, а шырыня — і таго менш. У такія дзверы ледзь праціснецца чалавек. Дзверы рабіліся з дошак і вярцеліся «на пятцы». У хатах захаваліся глінабітныя печы, дзе-нідзе для іх выкарыстоўвалася цэгла. Падлога паслана шырокімі колатымі дошкамі. Між дамамі, на дварах усё таксама вымашчана дошкамі або тонкімі бярвёнамі.

Калі высветлілася каштоўнасць незвычайных берасцейскіх знаходак, вырашылі пакінуць усё, як было, на сваіх месцах. На дапамогу археолагам прыйшлі вучоныя-тэхнолагі, якія вынайшлі спосаб захавання выкапнёвай драўніны, яе надзейнай канструкцыі. Драўніну насычаюць спецыяльнымі рэчывамі, якія выцясняюць з яе ваду і робяць трывалай і цвёрдай.

Пабудовы Берасця і іншыя адкапаныя цікавыя знаходкі сталі экспанатамі археалагічнага павільёна — філіяла Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

## Сакрэты сярэднявечных рамеснікаў

Рамеснікі былі асноўным насельніцтвам гарадоў. Яны падзяляліся на свабодных і залежных. Княжацкія і баярскія рамеснікі жылі ў дзядзінцы і абслугоўвалі сваіх гаспадароў — буйных землеўладальнікаў, феадалаў.

Старажытныя кавалі ведалі сакрэты апрацоўкі металаў: маглі атрымліваць сталь і зварваць яе з жалезам, паяць меддзю, лудзіць металічныя рэчы. У сваіх кузнях яны выраблялі зброю: наканечнікі стрэл і коп'яў (дзідаў), баявыя сякеры і інш. Аб высокім узроўні кавальскага рамяства сведчаць розныя прадметы хатняга і гаспадарчага ўжытку, знойдзеныя пры раскопках беларускіх гарадоў: нажы, косы-гарбушы, сярпы, цвікі, навясныя замкі, ключы ад іх і многае іншае.

У старажытнасці прафесія каваля карысталася вялікай пашанай. Людзей здзіўляла тое, што ён з кавалка бясформеннага жалеза можа вырабіць каштоўныя рэчы, без якіх нельга абысціся. Каваля лічылі адначасова знахарам, чараўніком, які можа нават прадвызначыць лёс, выкаваць шчасце і зрабіць многае іншае. Майстроў-рамеснікаў тады часта называлі «хітрацамі», а майстэрства і ўменне — «хітрасцю».

Акрамя «кавалёў жалеза» былі «кавалі медзі і серабра», гэта значыць ювеліры. Ювеліры рабілі розныя ўпрыгожанні, якім надавалася значная ўвага ў адзенні старажытнага чалавека. Упрыгожанні лічыліся амулетамі — сімваламі шчасця, дабра, урадлівасці, ахоўнікамі ад злых духаў. У IX—X стст. іх рабілі даволі масіўнымі з медзі, серабра ці іх сплаву. У шэрагу выпадкаў падзелу на мужскія і жаночыя ўпрыгожанні не існавала — мужчыны і жанчыны насілі шыйныя грыўні, бранзалеты, завушніцы. У «Слове аб палку Ігаравым» гаворыцца пра «злато ожерелие», якое было на грудзях полацкага князя Ізяслава Васількавіча. З канца X ст. распаўсюдзіліся новыя прыёмы вырабу каштоўных ювелірных рэчаў. Яны аздабляліся зерню (напаянымі шарыкамі металу), сканню (драцяным арнаментам). Вельмі распаўсюджанымі былі больш тан-

ныя рэчы, якія адліваліся ў каменных формах з алавяна-свінцовых сплаваў.

Ганчары пры дапамозе ганчарнага круга з гліны рабілі посуд: гаршкі, міскі, кубкі. Без гэтага не абысціся ні ў палацы багацея, ні ў хаціне бедняка. Посуд аздабляўся арнаментам з хвалістых ці прамых гарызантальных ліній. Велізарная колькасць керамічных чарапкоў, кавалкаў гаспадарчых пасудзін — звычайная з'ява пры раскопках кожнага сярэднявечнага горада. Калі-нікалі трапляюцца і цэлыя сасуды. Зрэдку на дне гаршкоў можна сустрэць кляймо — знак, пастаўлены майстрам. Клеймы бываюць розныя, але часцей — гэта кола з некалькімі спіцамі ўсярэдзіне. Пачатак выкарыстання ганчарнага круга (з'явіўся каля сярэдзіны X ст.) — важная падзея ў гісторыі рамяства. Ганчары рабілі посуд дзеля збыту, на продаж.

Сталяры ведалі такарны станок і выточвалі з дрэва большую частку гаспадарчых рэчаў: прыгожыя міскі, дзежкі, вёдры, кадушкі, лыжкі, чарпакі, лапаты, граблі,



Гліняны посуд XI—XIII стст., зроблены на ганчарным крузе (з раскопак старажытных гарадоў Беларусі)

калёсы, лодкі. Некаторыя драўляныя прадметы пакрывалі мастацкай разьбой.

У старажытных гарадах вельмі распаўсюджаным было гарбарна-шавецкае рамяство. «Кажамякі» займаліся вырабам скуры. Тады яе называлі «усміяй». У якасці сыравіны выкарыстоўваліся шкуры буйной і дробнай рагатай жывёлы. Для вырабу скур ужываліся вапна або попел, а таксама кара вярбы, елкі, дубу. Скура была высокага гатунку, добра насілася, не прапускага вады. Яе змазвалі дзёгцем, які гналі з бярозы.

З мяккай, добра выробленай трывалай усміі рамеснікі шылі абутак. Яго шмат знайшлі ў Полацку, Мінску, Віцебску, Пінску, Слуцку, Брэсце — у пластах XII—XIII стст.

Па знешнім выглядзе старажытныя чаравікі і боты падобныя на сучасныя. Але старажытны абутак быў мяккі: ён меў толькі верхнюю загатоўку і прышытую да яе ніткамі тонкую падэшву. Абутак шылі без выкарыстання капылоў. Пры гэтым верхнюю вывернутую частку абутку і падэшву шавец трымаў на левым калене з дапамогай звязанага рэменя. Гатовы абутак, каб быў прыгажэйшы, выпроствалі на драўляных капылах — правідлах.

Жаночыя і дзіцячыя чаравікі вышывалі каляровымі шарсцянымі ніткамі. Простым швом рабілі па контуры кружкі, завіткі і пляцёнкі.

Самым простым відам абутку былі так званыя поршні, вельмі падобныя на лапці. Іх не шылі, а выгіналі з «порхлых», не надта добра выробленых кавалкаў скуры.

Старажытныя чаравікі і боты не мелі абцасаў. Таму ў коннікаў, каб падганяць каня, на нагах абавязкова былі жалезныя шпоры з вострым, як шыла, шыпам.

Шчыты, якімі карысталіся воіны, былі абцягнуты скурай чырвонага колеру.

Аб высокім майстэрстве касцярэзаў гавораць многія знаходкі, якія часта сустракаюцца ў час археалагічных раскопак: розныя касцяныя накладкі на калчаны і іншыя рэчы, тронкі нажоў, праколкі. Распаўсюджаным відам прадукцыі касцярэзаў з'яўляліся звычайныя грабяні з рога лася. Асобныя косці жывёл прыстасоўвалі да вырабу дзіцячых канькоў для язды.

Гарадскія рамеснікі апрацоўвалі камень. Блокі і пліты выкарыстоўваліся для ўзвядзення манументальных збудаванняў. З валуноў высякалі мукамольныя жорны, з пясчаніку і сланцу — тачыльныя брускі.



Каменная форма для адліўкі жаночых упрыгожанняў — падвесак з Полацка

Пэўнае месца ў гаспадарчым жыцці горада займалі прадзіва і ткацтва. Яны былі добра знаёмы кожнай жанчыне-гараджанцы. Валакно пралі пры дапамозе верацяна. Тканіны выраблялі на простых ткацкіх станках. З XIII ст. распаўсюджваюцца больш удасканаленыя станкі — кросны. Асноўная сыравіна — лён, пянька, воўна. Ткалі ў гарадах і рагожу. Адзенне шылі тонкімі жалезнымі іголкамі, якія нагадваюць сучасныя. З воўны валялі лямец. Ён выкарыстоўваўся як матэрыял для шатроў, папон, шапак.

У рамеснай вытворчасці і хатніх промыслах панавала выключна ручная тэхніка. Інструменты, якімі карысталіся сярэднявечныя рамеснікі, даволі простыя, нават грубыя. Недасканаласць ручнога інструменту кампенсавалася добрай вывучкай, умелымі прыёмамі работы майстра. Рэчы старажытных рамеснікаў былі на дзіва дабротныя, моцныя, па-майстэрску апрацаваныя. Толькі вузкая спецыялізацыя дазваляла сярэднявечным рамеснікам ствараць такія добрыя вырабы.

Рамеснік-адзіночка спецыялізаваўся на асобным тыпе вырабаў, якія ён павінен быў рабіць сам ад пачатку да канца самадзельнымі прыладамі працы і ўласнымі рукамі. У гэтым — адметная рыса ўсякага сярэднявечнага рамяства. Збройнік, які вырабляў наканечнікі стрэл і коп'яў, не мог заставацца толькі кавалём. Яму даводзілася

быць металургам, бо каб мець патрэбны метал, неабходна было ведаць сакрэты яго атрымання.

Рымар ведаў гарбарную справу і павінен быў умець каваць страмёны. Спецыялізацыя рамеснікаў адбывалася не на матэрыяле, з якога выраблялі рэчы, а на гатовых вырабах.

Існавалі рамесныя спецыяльнасці: ганчары, кавалі срэбра, кавалі медзі, лучнікі, мостнікі, рымары, шчытнікі і многія іншыя. Рамеснікам, каб дасягнуць поспехаў, неабходна было ведаць важныя сакрэты цяжкага рамяства, валодаць непрыкметнымі навыкамі майстэрства, мець умелых памочнікаў.

У гарадах разводзілі жывёлу: коней, кароў, свіней, авечак, коз. Гараджане займаліся таксама вырошчваннем культурных раслін: жыта, ячменю, проса. Аднак асноўным заняткам было рамяство.

Развіццё рамяства цесна звязана з гандлем. Гарадскія рамеснікі рабілі розныя рэчы на заказ і на рынак. Горад меў сувязі з акругай. З сёл сюды прывозіліся сельскагаспадарчыя прадукты і сыравіна для рамеснікаў. Зробленыя ў горадзе рэчы знаходзілі збыт сярод насельніцтва вёсак. Для гандлю выкарыстоўваліся рачныя шляхі. Калі паміж вярхоўямі рэк была невялікая адлегласць, яе пераадольвалі, цягнучы лодкі «волакам». У IX—XIII стст. волакамі злучалі прытокі Заходняй Дзвіны і Дняпра, Дняпра і Нёмана.

Паміж гарадамі, размешчанымі на буйных водных магістралях, вёўся знешні гандаль. З старажытных беларускіх зямель у далёкія краіны вывозілі воск, мёд, футра. Яны ішлі на рынкі Заходняй Еўропы і краін Усходу. З Візантыі і Блізкага Усходу паступалі дарагія квяцістыя тканіны («павалокі»), валоскія арэхі, вострыя прыправы, шкляны посуд тонкай мастацкай работы, распісаны эмаллю і золатам. З далёкага поўдня прывозілі соль.

Ва Усходняй Еўропе тады не здабывалі каляровых і высакародных металаў, вельмі патрэбных для ювелірнага рамяства. Серабро паступала пераважна ў выглядзе манет, у асноўным арабскіх дырхемаў. Нярэдка яны ўключаліся ў грашовае абарачэнне.

Прыток арабскіх манет вельмі скараціўся ў пачатку XI ст. Асноўным пастаўшчыком манетнага серабра — дынарыяў — сталі Германія і Англія. Манеты паступалі таксама з Венгрыі, Чэхіі, Даніі. Аднак у пачатку XII ст. прыток манет ва Усходнюю Еўропу спыніўся зусім. Наступіў безманетны перыяд, распаўсюджваліся сярэбраныя злiткі вагой у 100, 160, 200 грамаў.



Дырхем — сярэбраная арабская манета ранняга сярэднявечча

Старажытныя гарады Беларусі ў сваім развіцці не адставалі ад развіцця гарадоў як у Заходняй, так і ва Усходняй Еўропе. Яны былі цэнтрамі рамёстваў і гандлю, абарончымі крэпасцямі, адміністрацыйнымі цэнтрамі. Гарады з'яўляліся выдатнымі цэнтрамі развіцця культуры і асветы.

## Старадаўнія кніжнікі

Звыш тысячы гадоў назад, амаль адначасова з прыняццем хрысціянства, якое прыйшло да нас з Візантыі, на беларускіх землях пачала распаўсюджвацца пісьменнасць. У летапісе, які называецца Ніканаўскім, пра князя Ізяслава, сына Рагнеды, сказана, што ён «прилежаще прочитание божественных писаний», іншымі словамі, сам князь старанна чытаў боскія, царкоўныя кнігі.

Тое, што Ізяслаў быў князем пісьменным, пацвярджае пячатка, знойдзеная ў Вялікім Ноўгарадзе пры археалагічных раскопках. Свінцовая пячатка («була») прывешвалася на раменьчыку да пісьмовага дакумента, напісанага на пергаменце. Малады полацкі князь Ізяслаў накіраваў у Ноўгарад нейкую грамату, змацаваную гэтай пячаткай. На вонкавым яе баку змешчана выява знака трызубца і навокал надпіс кірылічнымі літарамі «Изас/лав/ос» — грэчаскае гучанне імя Ізяслаў. Памёр Ізяслаў у 1001 г.

Цікава ведаць, па якіх кнігах вучыўся грамаце, пісьменнасці княжыч, што прыняў хрысціянства? Каб адказаць на гэта пытанне трэба нагадаць, як з'явілася пісьменнасць у славянскім свеце дзякуючы дзейнасці знакамітых асветнікаў Кірылы і Мяфодзія, якія нарадзіліся ў Салуні (Грэцыя). Іх дзейнасць прыпадае на другую палову IX ст.

Славяне па паходжанні, яны з'яўляліся візантыйскімі царкоўнымі і палітычнымі дзеячамі. Кірыла стварыў славянскую азбуку і разам з Мяфодзіем пераклаў важнейшыя рэлігійныя кнігі з грэчаскай на старaславянскую мову. Стараславянская, ці царкоўнаславянская мова, — самая старажытная пісьмовая мова славян. Як лічаць вучоныя, у аснове яе ляжыць дыялект старажытнай балгарскай мовы. Яна была зразумела кожнаму славяніну і таму стала літаратурнай мовай усіх славян. Ёю былі напісаны царкоўныя кнігі, якія ў значнай колькасці траплялі з Балгарыі і Візантыі да ўсходніх славян і на Русь.

Узаемасувязі ўсходніх славян з Візантыяй і Балгарыяй спачатку праходзілі праз Кіеў. Гэты горад забяспечваў усходнеславянскія землі царкоўнай літаратурай. Галоўнае месца ў ёй займалі Евангелле, Апостал і Псалтыр.

Адной з рэдкіх славянскіх кніг з'яўляецца Тураўскае евангелле, створанае ў XI ст., відаць, у Тураве — сталіцы Тураўскага княства. Твор напісаны царкоўнаславянскай мовай. Гэта зборнік евангельскіх чытанняў.

Да нас дайшлі тры старажытныя рукапісы Евангелляў з сярэднявечнага Полацка. Яны напісаны на пергаменце. Адзін рукапіс створаны ў канцы XII ст. і належаў Траецкаму манастыру.

У Полацку пры Сафійскім саборы ў сярэднявечныя часы існавала бібліятэка. У ёй захоўваліся кнігі на царкоўнаславянскай мове, на якую іх перакладалі з грэчаскай мовы Кірыла і Мяфодзій. Па царкоўных кнігах, напісаных кірыліцай, вучыліся грамаце ў старажытных гарадах Беларусі.

У XII ст. жылі і плённа працавалі выдатныя царкоўныя дзеячы, пісьменнікі, асветнікі, якія стаялі ля вытокаў духоўнасці беларусаў.

Кірыла Тураўскі па жаданні князя і гараджан быў пастаўлены епіскапам у сваім горадзе. Гэта выдатны пісьменнік і прамоўца, аўтар шэрага «слоў», малітваў-споведзяў, аповесцей-прытчаў. Цікавым з'яўляецца твор Кірылы, які называецца «Притча о слепце и хромце».

Аўтар расказвае, як гаспадар пасадзіў вінаграднік і абгарадзіў яго высокай сцяной, а ў варотах паставіў вартаваць сляпога і бязногага. Гаспадар спадзяваўся, што яны не змогуць дабрацца да смачнага вінаграда. Але такі разлік не апраўдаўся. Сляпы пасадзіў на свае плечы бязногага, а той указваў яму дарогу. Аўтар у канцы твора тлумачыць, што гаспадар — гэта Бог, вінаграднік — рай, бязногі — цела чалавека, а сляпы — яго душа, сцяна — Закон Божы. А цела і душа, гаворыць Кірыла Тураўскі, робяць грэх разам. Такім незвычайным мастацкім прыёмам Кірыла Тураўскі асуджаў задуму старажытнарускага князя Андрэя Багалюбскага заснаваць ва Уладзіміры на Клязьме асобны царкоўны цэнтр (мітраполію) і назначыць епіскапа Фёдара мітрапалітам Уладзімірскім.

Многае ў старажытных рукапісных працах было рэлігійным. Апрача царкоўных былі і свецкія творы, пісаліся летапісы. У творах тых далёкіх часоў кнігі называліся крыніцай мудрасці, іх параўноўвалі з глыбінёй марской, адкуль выносіцца найкаштоўнейшы жэмчуг. Розум без кніг параўноўваўся з птушкай без крылаў.

Перапіскай рукапісаў на Русі займаліся звычайна манахі:

На чыстым аркушы прад вузенькім вакном
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку ўсякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяркоў
І птах нябачаных, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае ўсё, — даволі ёсць знароўкі —
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі.

Так Максім Багдановіч у адным са сваіх вершаў стварыў добра запамінальны вобраз старажытнага манахаперапісчыка.

Вялікай і надзвычай карпатлівай працай была перапіска старажытнага твора. Кнігі пісалі на пергаменце — спецыяльна вырабленай тонкай скуры маладых жывёл: цялят, ягнят, казлянят. Рукапісы скручвалі ў скруткі ці складалі ў сшыткі. Апошнія потым сшывалі ніткамі ці тонкімі вяровачкамі, канцы якіх прымацоўвалі да дзвюх дошак, якія служылі вокладкамі. Адсюль выраз «прачытаць ад дошкі да дошкі». Такая кніга мела выгляд скрынкі большых ці меншых памераў.

Пераплёт каштоўных рукапісаў аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. Каб лісты кнігі не камячыліся, дошкі-вокладкі сцягваліся асобымі металічнымі засцежкамі. Розныя засцежкі ад старажытных кніг знойдзены пры археалагічных раскопках у Мінску, Друцку, Ваўкавыску, Навагрудку.

Кнігі былі вялікія і цяжкія. Яны вельмі дорага каштавалі, і, *зразумела, іх асабліва берaглі*. Часцей за ўсё кнігі перапісвалі на заказ багатых людзей.

Перапіска кніг — справа складаная і цяжкая. Каб ёй займацца, трэба было не толькі быць пісьменным чалавекам, а яшчэ і мець мастацкія здольнасці. Рукапісы пісаліся чарнілам, якое рабілі з адвару дубовай ці альховай кары, жалезнай іржы, квасу, вішнёвага клею.

Пісалі пераважна гусінымі пёрамі, зрэдку выкарыстоўвалі лебядзіныя. Замест пёраў ужываліся таксама палачкі.

Кожная літара пісалася паасобку, паміж літарамі захоўвалася аднолькавая адлегласць, таксама як і паміж радкамі. Існавала пэўная геаметрычная форма літар. Іх пісалі ў XI—XIII стст. прама, без нахілу. Літары былі як быццам устаўлены ў радок. Адсюль назва пісьма — «устаў».

Тэкст пісьма на словы не падзяляўся. Пісаўся ён у два слупкі. Кожны абзац пачынаўся вялікай літарай (ініцыялам), якая была ў некалькі разоў большая за радковыя літары.

Вялікія літары часта ўпрыгожвалі мудрагелістымі ўзорамі. Пры гэтым апрача чарніла ўжываліся розныя фарбы, асабліва кінавар з ярка-чырвоным, вогненным адценнем. Адсюль і назва «чырвоны радок», ён пачынаўся з літары, якая размалёўвалася чырвонай кінаварру.

З XII—XIII стст. пачалі распаўсюджвацца ілюстраваныя рукапісы, падзеі адлюстроўваліся ў малюнках-мініяцюрах. Самы цікавы ілюстраваны летапіс — так званы Радзівілаўскі. Ён быў скапіраваны ў XV ст., як мяркуюць, у Смаленску ці ў Полацку, з больш ранняга, таксама ілюстраванага арыгінала XIII ст. У Радзівілаўскім летапісе звыш 600 малюнкаў. Сярод іх мініяцюры, якія маюць дачыненне да старажытнай гісторыі беларускіх зямель.

Перапіска толькі аднаго рукапісу патрабавала вялікіх фізічных і духоўных сіл, займала шмат месяцаў працы. Дзень заканчэння перапіскі старажытнага твора, кнігі надоўга заставаўся ў памяці кожнага перапісчыка, лічыўся вельмі шчаслівым у яго жыцці.

Пісьменнасць была распаўсюджана не толькі сярод прадстаўнікоў духавенства, феадалаў, але і між простых гараджан. У час раскопак археолагі знаходзяць старажытныя рэчы, на якіх вострымі прадметамі надрапаны надпісы.

Асаблівую навуковую каштоўнасць маюць берасцяныя граматы. У Вялікім Ноўгарадзе выяўлена звыш 900 пісьмаў XI—XV стст. на бяросце. Цікава, што ў наўгародскіх граматах упамінаюцца жыхар Полацка і палонны, выкуплены з Полацка. Берасцяная грамата XI ст. напісана Жыравітам, як мяркуюць, жыхаром Смаленска, Полацка ці Віцебска.



Камень з надпісам ля вёскі Камена (Вілейскі раён)

Берасцяныя граматы адкрыты ў Смаленску, Пскове, Старой Русе, Цверы, Звянігарадзе (Украіна). Ліст далёкага продка знойдзены ў Віцебску: Сцяпан просіць Няжылу, каб той прадаў адзенне і купіў «жыта за 6 грыўняў».

У 1980 г. берасцяная грамата пачатку XIII ст. адкапана на дзядзінцы сярэднявечнага горада Мсціслава ў Магілёўскай вобласці. Гэта запіска багатага чалавека, у якой ён адзначыў, што аднаму гараджаніну пазычыў 4,5 грыўні, другому — «асьмінку» пшаніцы. Чатыры з паловай грыўні серабра — даволі вялікая грашовая сума. За іх можна было купіць дзевяць кабаноў або дзве каровы. Асьміна — старажытная мера сыпучых цел, роўная 105 літрам.

Высокая для свайго часу духоўная культура старажытнай Русі, яе пісьменнасць, літаратура, мастацтва сталі той асновай, на якой развівалася культура трох усходнеславянскіх народнасцей — беларускай, украінскай, рускай (велікарускай).

У помніках пісьменнасці, якія звязаны з Полацкам і дайшлі да нас, побач з царкоўнаславянскімі тэкстамі сустракаюцца запісы, што сведчаць аб фарміраванні беларускай мовы. Такім дакументам з'яўляецца дагавор Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгай 1229 г. і некаторыя іншыя.



Рагвалодаў камень з надпісам, зробленым у 1171 г.

У час пажараў і войнаў, якія неаднаразова разбуралі горад, зніклі полацкія летапісы і іншыя пісьмовыя крыніцы.

Навука, якая вывучае старажытныя надпісы, зробленыя на прадметах, называецца эпіграфікай. На тэрыторыі Беларусі вядомы выдатныя помнікі эпіграфікі XII ст. — «Барысавы камяні». Да нядаўняга часу ў рэчышчы Заходняй Дзвіны, за 5 кіламетраў ад Полацка, захаваўся адзін з іх. Недалёка ад берага ляжаў вялізны гранітны валун каля

8 метраў у акружнасці. Вясной ён увесь заліваўся вадой і павольна выступаў з-пад яе да пачатку жніўня. У 1981 г. быў падняты і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў Полацку. На валуне высечаны крыж даўжынёй больш за 1,5 метра і надпіс з імем Барыса.

Другі, яшчэ большы камень, ляжаў за 40 кіламетраў на поўнач ад Полацка. Надпіс на ім захаваўся лепш: «Г/оспод/і помозі рабу своему Борисоу». Усяго ў рэчышчы Заходняй Дзвіны былі чатыры такія камяні. Вядомы тут яшчэ два камяні з іншымі надпісамі.

Камяні са старажытнымі надпісамі былі і на сушы. Такі помнік эпіграфікі захаваўся ля вёскі Камена недалёка ад Вілейкі.

Вывучыўшы надпісы на чатырох камянях у рэчышчы Заходняй Дзвіны, вучоныя прыйшлі да згоды, што яны былі зроблены па загадзе полацкага князя Барыса Усяславіча (памёр у 1129 г.). Мабыць, у часы барацьбы з перажыткамі язычніцкай рэлігіі князь загадаў выбіць крыжы і надпісы на тых камянях, якім з даўніх часоў пакланяліся язычнікі. Яго прыклад пераняў сын Рагвалод-Васіль. У 1171 г. ён загадаў высечы крыж і надпіс на велізарным камені вышынёй каля 3 метраў. Гэты камень знаходзіўся каля вёскі Дзятлава на Аршаншчыне, цяпер не існуе.

## БАЦЬКА ГАРАДОЎ БЕЛАРУСКІХ

Летапісы называюць у IX ст. некалькі гарадоў ва Усходняй Еўропе і сярод іх — Полацк. Звычайна ўзрост горада вылічваюць ад першай звесткі ў пісьмовых крыніцах. Паводле гэтага, Полацк — самы старажытны горад на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яму больш за 1100 гадоў.

Полацк узнік як галоўны населены пункт заходняй групы крывічоў (палачан). Ён стаў сталіцай Полацкай зямлі. «Землямі» ў тыя часы называлі княствы — сярэднявечныя дзяржаўныя ўтварэнні.

Усе астатнія гарады Полацкага княства знаходзіліся ў залежнасці ад галоўнага цэнтра і называліся «прыгарадамі». Прыгарадамі Полацка былі Менск (Мінск), Віцебск, Лагойск, Барысаў, Лукомль, Друцк, Браслаў і інш. У пытаннях знешняй палітыкі яны залежалі ад галоўнага горада зямлі, але ва ўнутраных справах былі самастойныя. У XII ст. многія з былых прыгарадаў самі сталі цэнтрамі невялікіх удзельных княстваў, на якія распалася Полацкая зямля.

У глыбіню сівых стагоддзяў сягае слаўная гісторыя Полаччыны — дзівоснага беларускага краю, які шмат выпакутаваў, перажыў, а цяпер, памаладзелы і адноўлены, крочыць у будучыню.

### На Дзвіне і на Палаце...

Аб Полацку і Полацкай зямлі нямала сказана ў старажытных летапісах. Але ніводны з гэтых твораў не можа поўнасцю расказаць пра гісторыю горада ў часы ранняга сярэднявечча.

У якім месцы ўзнік Полацк, як ён рос і пашыраўся, чым займаліся яго старажытныя жыхары, якія былі аблічча і ўзровень матэрыяльнай культуры горада? Нарэшце, дзе шукаць яго археалагічныя помнікі?

«Полацк на Дзвіне і на Палаце — драўляны, а святая Сафія — каменная з сямю купаламі», — засведчана ў спісе гарадоў «далёкіх і блізкіх», які быў складзены ў канцы XIV ст.

Цяпер у Полацку няцяжка трапіць на гару з гістарычнай назвай Верхні замак. З усіх бакоў здалёк праглядваюцца шпілі і белыя сцены Сафійскага сабора, які ўзвышаецца на ёй.

Калі, мінаючы Сафію, перасячы Верхні замак і спыніцца ў кутку, дзе зліваюцца Палата з Заходняй Дзвіной, то вачам адкрываецца цудоўны пейзаж. Раніцай і вечарам косыя прамяні сонца ружовым водбліскам адбіваюцца на сценах Сафіі — і ўвесь будынак, нібыта казачны цуд, створаны рукамі волатаў, выразна бачны ў люстры Заходняй Дзвіны.

Вас апаноўвае нейкі асаблівы настрой, і ўяўленне пераносіць на многія стагоддзі назад. Здаецца, быццам дакранаешся да самой вечнасці. Міжволі думаеш: і семсот, і васемсот гадоў таму сілуэт Сафіі бясконцую колькасць разоў, як і сёння, адлюстроўваўся на цёмна-сіняй паверхні ракі. І глядзелі на чароўны малюнак з крутых адхонаў Верхняга замка старажытныя яго жыхары. Напэўна, тут быў і спуск да Сафіі. Адсюль выступалі дружыны палачан у паходы на войска тэўтонаў — крыжаносцаў, якое рабавала паселішчы ліваў і латгалаў у ніжнім цячэнні ракі і пагражала самому Полацку.

Цяпер мала хто ведае, што некалі з Верхняга замка быў добра бачны Бельчыцкі манастыр — рэзідэнцыя полацкіх князёў, якая размяшчалася на левым беразе Заходняй Дзвіны, за два кіламетры ад Сафіі. Сёння на тым месцы ўзвышаюцца дахі шматпавярховых дамоў на Юбілейным завулку.

Цёмная стужка Палаты справа аддзяляе Верхні замак ад Запалоцця. Яно раскінулася на больш нізкім месцы і займае значную плошчу. Запалоцце — важная частка старажытнага горада, тут знаходзіўся адзін з яго пасадаў.



Полацк XII ст. (рэканструкцыя В. Сташчанюка)

Крыху вышэй, на адлегласці кіламетра, на Палаце, што віецца між высокіх берагоў, ёсць невялікі, малапрыкметны астравок — старажытнае гарадзішча. Яго не відаць з-за высокага мыса, на якім знаходзіцца стрэлка Ніжняга замка.

Дзе ж першапачаткова быў заснаваны Полацк: на гарадзішчы ці на Верхнім замку? Аб гэтым доўга спрачаліся вучоныя. Канчатковы адказ быў дадзены дзякуючы вывучэнню гэтых археалагічных помнікаў.

Полацкае гарадзішча, па сутнасці, востраў, плошчай крыху больш за паўгектара, які даўней абмывала рака Палата. І цяпер старое рэчышча шырокай дугой сваіх крутых адхонаў прыкрывае яго амаль з усіх бакоў.

Ніхто не думаў, што на гэтым запусцелым, ціхім астраўку калісьці так бурліла жыццё... Калі ў 1928 г. беларускі археолаг А. М. Ляўданскі адкрыў Полацкае гарадзішча, яшчэ былі бачны рэшткі старажытнага вала. У сучасны момант пляцоўка гарадзішча забудавана надзвычай густа. З вялікай цяжкасцю нам удалося знайсці ў 1962 г. маленькі ўчастак на паўночнай яго ўскраіне, дзе можна было зрабіць археалагічныя раскопкі — вузкай траншэяй прарэзаць край пагорка.


Ляпны гаршчок крывічоў-палачан з Полацкага гарадзішча

Наша траншэя дасягнула чатырохметровай глыбіні. Пад пластом галавешак і вуголля стаяў цэлы гаршчок, адзін з тых, якія вучоныя датуюць VIII—IX стст. і звязваюць з крывічамі. Гэта была пасудзіна сярэдніх памераў, па форме вельмі падобная да гаршкоў, якія неаднаразова знойдзены археолагамі ў курганах. Гаршчок знаходзіўся на рэштках самага старажытнага абарончага ўмацавання — вала, які насыпаўся са светла-шэрага пяску па кайме ўзгорка.

Тут больш чым тысяча сто гадоў таму назад, а можа, і крыху раней пасяліліся першыя жыхары. Адсюль пайшоў Полацк.

Аднак гарадзішча — рэшткі ўмацаванага паселішча, «града». А дзе знаходзіліся іншыя неўмацаваныя, найбольш старажытныя паселішчы? Іх трэба было шукаць недзе паблізу.

Звілістая Палата з берагамі, зрэзанымі ярамі, утварае высокія мысы. Мы вырашылі зрабіць раскопкі на невялікім мысе, што знаходзіцца побач з гарадзішчам ля Краснага моста. Таўшчыня культурнага пласта не перавышае 1,5 метра. Знойдзены чарапкі ад гаршкоў VIII—XII стст., жалезны наканечнік стралы, глінянае прасліца, сярэбраная арабская манета — дырхем. Адкапаны рэшткі май-

стэрні X ст., у якой апрацоўвалі металы. Значыць, тут знаходзіўся старажытны пасёлак — прадграддзе Полацка.

Узнікшы на Палаце, Полацк развіваўся і на правым беразе Заходняй Дзвіны. З канца X ст. пачаў засяляцца ўзвышаны ўчастак плошчай каля 10 гектараў, размешчаны пры ўпадзенні ракі Палаты ў Заходнюю Дзвіну. Гэты ўчастак пазней атрымаў назву Верхняга замка. Неўзабаве ён стаў новым умацаваным цэнтрам горада, а стары дзядзінец на Палаце паступова заняпаў.

Вакол новага дзядзінца ўтвараліся гарадскія раёны. У Ноўгарадзе яны называліся «канцамі». Паводле больш позніх крыніц, у Полацку паселішчы, якія яго складалі, называліся «пасадамі». Вялікі пасад займаў плато паміж берагамі Заходняй Дзвіны і Палаты, якое пачыналася каля Верхняга замка.

На супрацьлеглым, нізкім беразе Палаты, ля яе вусця, у Запалоцці з канца X ст. таксама ўзнікла паселішча.

Так, апрача старога і новага ўмацаваных цэнтраў склаліся тры-чатыры гарадскія раёны — «канцы», ці «пасады», раздзеленыя русламі рэчак, ярамі і незабудаванымі ўчасткамі, якія, верагодна, выкарыстоўваліся пад агароды.

Горад рос стыхійна, без папярэдняй планіроўкі. Сафійскі сабор на Верхнім замку з'яўляўся архітэктурным цэнтрам горада. І калі ў IX — пачатку X ст. тэрыторыя Полацка складала ўсяго некалькі гектараў, то ў XI—XII стст. яна павялічылася да 80 гектараў, што сведчыць аб хуткім развіцці горада.

Нямала таямніц гісторыі Полацка захавана ў культурным пласце Верхняга замка. На працягу многіх гадоў тут праводзяцца археалагічныя раскопкі. Адкапаны драўляныя насцілы старажытнага завулка, рэшткі жылля і гаспадарчых пабудоў XI—XIII стст. Здзіўляла зусім выключная захаванасць дрэва, якое праляжала ў зямлі многія стагоддзі. Добрая захаванасць дрэва, скуры, тканін на Верхнім замку тлумачыцца павышанай вільготнасцю грунту. На значнай глыбіні без доступу паветра, пры пастаяннай тэмпературы яны былі як быццам законсерваваны. Дрэва можна было рэзаць пілой. І сапраўды, навуковыя супрацоўнікі экспедыцыі старанна адпілоўвалі ад бярвёнаў



Рэшткі пабудоў і насцілаў завулка XIII ст. у Полацку (1961 г.)

тонкія кружкі. Па гэтых драўляных дысках, вывучыўшы і падлічыўшы кольцы, вучоныя вызначылі з дакладнасцю да аднаго года, калі дрэвы раслі і калі іх ссеклі. Гэта дапамагло высветліць час узнікнення драўляных пабудоў, якія адкапаны на полацкім Верхнім замку.

На глыбіні да 3 метраў раскапаны дом рамесніка з невялікім дваром ля яго. Ад пабудовы ўцалела шэсць радоў бярвёнаў, так званых вянкоў. Загінула яна ад пажару. Да гэтага тут ужо ўтварыўся культурны пласт таўшчынёй каля метра. Ніжнія вянкі дома апынуліся ў зямлі і таму добра захаваліся.

Дом узведзены ў сярэдзіне XIII ст. Ён меў памеры 5×5 метраў і быў зрублены з сасновых і яловых бярвёнаў.

Знаходкі сведчаць аб тым, што гаспадары дома займаліся рамяством. Тут знойдзены тыглі, якія выкарыстоўваліся для плаўкі каляровых металаў, і металічныя злiткі, падрыхтаваныя для пераплаўкі. Пра заняткі шавецкай справай гавораць драўляныя капылы-правідлы. Адкапана нават драўляная лыжка, якую не скончылі выразаць з цурбалка. У доме жыла сям'я палачаніна — майстра на ўсе рукі.

Рост Полацка залежаў ад развіцця рамяства і гандлю. Шырока распаўсюджаны былі ў горадзе апрацоўка жалеза, ювелірнае, шавецкае, касцярэзнае і іншыя рамёствы. Практыкаваўся ў Полацку і выраб шкла, з якога рабілі жаночыя ўпрыгожанні — бранзалеты. Полацк быў багатым рамесніцка-гандлёвым цэнтрам. Разам з тым жыхары гэтага вялікага горада займаліся сельскай гаспадаркай і жывёлагадоўляй.

Зручнае геаграфічнае становішча горада на Заходняй Дзвіне спрыяла яго ўдзелу ў міжнародным гандлі. Заходняя Дзвіна была паўночна-заходняй галінай шляху «з варагаў у грэкі». Ад Рыжскага заліва па Заходняй Дзвіне ішоў прамы шлях да Полацка і далей да Віцебска, дзе знаходзілася вусце Лучосы. Яе вытокі падыходзілі ля Оршы непасрэдна да Дняпра — галоўнай воднай артэрыі на шляху з Усходняй Еўропы да Візантыі. З вярхоўяў Заходняй Дзвіны лёгка было трапіць на другі вялікі водны шлях — Волжскі, які злучаў Балтыйскае і Каспійскае моры.



Жалезныя прылады працы XIII ст. з Полацка

З далёкіх краін трапялі ў Полацк каляровыя і высакародныя металы. Яскравы доказ гэтаму — скарбы. Іх часта знаходзяць у Полацкім Падзвінні. З даўніх часоў, калі ўзнікла прыватная ўласнасць, людзі імкнуліся схаваць сваю маёмасць, паклаўшы яе ў бяспечнае месца ці закапаўшы ў зямлю. У час ваенных падзей гэта рабілася асабліва часта. Чалавек мог загінуць, а скарб, захаваны ім, ляжаў многія стагоддзі, пакуль яго не знаходзіў хто-небудзь выпадкова.

У 1973 г. каля Полацка быў знойдзены надзвычай цікавы скарб. Вучні IV класа полацкай сярэдняй школы № 1 вырашылі паспрабаваць рыбацкага шчасця. У сонечны перадмайскі дзень яны з вудамі накіраваліся да Заходняй Дзвіны праз падрыхтаванае для сяўбы калгаснае поле. Каля вёскі Каз'янкі Саша Драздоў заўважыў на раллі невялікі бліскучы кружочак.

— Мабыць, бляшка ад бутэлькі, — мільганула думка. — Тут павінен быць корак. Спатрэбіцца на паплавок.

На незвычайным тонкім кружочку былі нейкія надпісы зусім незнаёмымі літарамі.

— Манета! Пакажы! — узбуджана гаворыць Міша Баранаў.

— А можа, яны яшчэ тут ёсць?

Хлопчыкі сталі прыглядацца да раллі.

— Так, яшчэ адна знаходка.

І Міша паклаў на далонь другі белы бліскучы кружочак. Усяго знайшлі іх чатыры. Цяпер хлапчукам было не да рыбалкі. Пакідаўшы вуды, яны што было духу памчаліся ў Полацкі краязнаўчы музей.

— А ці няма там яшчэ манет? Напэўна, гэта скарб? — прамовіў навуковы супрацоўнік музея. І вось хлапчукі зноў на месцы знаходкі. Калі крыху разгарнулі зааранную зямлю, то ўбачылі такую колькасць манет, што сабраць і падлічыць іх спатрэбіўся даволі доўгі час. Каля пяці з паловай тысяч манет — зусім цэлыя і вельмі добра захаваныя, астатнія — парэзаныя ці паламаныя. Усяго ж манет і іх частак знайшлі каля 7500 штук.

Скарб утрымліваў усходнія манеты — дырхемы Арабскага халіфата і іншых дзяржаў, якія ўзніклі на яго тэ-

рыторыі. Манеты былі адбіты ў VIII—IX стст. у Багдадзе, Самаркандзе, Бухары, Мерве (Мары), аш-Шашы (Ташкент) і іншых гарадах Сярэдняй Азіі, Блізкага Усходу і Закаўказзя. Скарб трапіў у зямлю прыкладна ў сярэдзіне X ст.

Яго захавалі за 5—6 кіламетраў ад Полацка, недалёка ад берага Заходняй Дзвіны, дзе не было ніякіх пасе-лішчаў, у чыстым полі. Манеты, мабыць, былі змешчаны ў нейкім берасцяным карабе, бо побач з імі выяўлена шмат кавалкаў бярозавай кары. Каз'янкаўскі скарб — самая буйная знаходка арабскіх дырхемаў у Беларусі. За апошнія 200 гадоў на беларускай зямлі, шчодрай на скарбы, было выяўлена прыкладна столькі ж дырхемаў, колькі іх знайшлі паблізу Полацка ў 1973 г.

У старажытныя часы такая колькасць манет была велізарнай каштоўнасцю. Каму яны належалі? Як апынуліся ў зямлі?

Тады купца называлі «госцем», а гандаль — «гасцьбой». Лодка ці ўючны конь — абавязковая прыналежнасць старажытнага купца-госця. Ён заўсёды меў пры сабе таксама гіркі-разнавесы і невялікія шалі з бронзавымі чашачкамі. На іх важылася серабро, правяралася вага манет, бо яна была не заўсёды аднолькавай.

Стаянкі купцоў вельмі нагадвалі ваенны лагер, а самі яны нічым не адрозніваліся ад воінаў-дружыннікаў. Купцы былі ўзброены з галавы да ног. Манеты звычайна насілі ў поясе.

Вось такому купецкаму атраду, магчыма, і належаў скарб, знойдзены пад Полацкам. Манеты былі закапаны ў час небяспекі недалёка ад берага Заходняй Дзвіны.

У 1910 г. выпадкова ў час земляных работ у самім Полацку на Верхнім замку быў знойдзены таксама цікавы скарб вагой 9,43 кілаграма. У ім было некалькі абломкаў арабскіх манет IX—X стст., 142 сярэбраныя заходнееўрапейскія манеты X—XI стст., сярод якіх большасць экзэмпляраў германскай і англійскай чаканкі. У скарбе ўтрымліваліся манеты, адбітыя ў Даніі, Венгрыі, Чэхіі. Апрача таго, у ім было пяць сярэбраных зліткаў у выглядзе палачак. Вага найбольшага з іх складала 190 грамаў. Разам з тым многія злішкі і жаночыя ўпрыгожанні ў скарбе бы-

лі ў пашкоджаным выглядзе — пасечаны на дробныя часткі. Восем трапецападобных пласцін скарбу аказаліся алавянымі. Відавочна, скарб быў запасам металічнай сыравіны ювеліра.

У 1984 г. у Полацку на Ніжнім замку выпадкова знойдзены скарб, у якім было шэсць вырабаў, зробленых з золата. Сярод рэчаў прысутнічалі кованыя бранзалеты і кавалак шыйнай грыўны. Агульная вага вырабаў — 334 грамы. Магчыма, скарб трапіў у зямлю ў сувязі з падзеямі 980 г., калі Полацк быў разрабаваны, а князь Рагвалод забіты.

Дакументы сведчаць пра пастаянныя гандлёвыя сувязі Полацка з важным гандлёвым цэнтрам Усходняй Прыбалтыкі — Рыгай — варотамі, якія адкрывалі шлях у Падзвінне.

Уніз па Заходняй Дзвіне плылі плыты, чаўны і вялікія лодкі з мёдам, воскам, футрам, скурай да Рыгі і далей на востраў Готланд, у Любек і іншыя ганзейскія гарады. Тым жа шляхам прыязджалі ў Полацк купцы з Заходняй Еўропы. Упартая барацьба полацкага купецтва за права свабоднага гандлю ў Рызе і за яе межамі гаворыць аб сіле і багацці гэтага горада.

У старажытныя часы Полацк славіўся далёка за межамі роднай зямлі. Пра яго добра ведалі сучаснікі, летапісцы ў сваіх творах данеслі да нас яго цікавую, багатую падзеямі гісторыю.

## Сведчанні пісьмовых крыніц

«У лета 862... завалодаў усёю ўладай Рурык і пачаў раздаваць мужам сваім гарады — таму Полацк, гэтаму Растоў, другому Бела-возера». У такім паведамленні «Аповесці мінулых часоў» упершыню з'явіўся Полацк у летапісах.

Адкуль прыйшоў Рурык і куды ён потым падзеўся — дакладна невядома. Калі ён раздаваў гарады сваім васалам, знаходзіўся як быццам у Ноўгарадзе. Па паходжанні быў варагам.

Варагамі ўсходнія славяне называлі нарманаў («паўночных людзей») — продкаў сучасных нарвежцаў, шведаў і датчан. Некаторыя знатныя нарманы, ці вікінгі, набі-

ралі ваенныя дружыны і ўзначальвалі грабежніцкія марскія экспедыцыі ў краіны Еўропы. Яны наводзілі жах на насельніцтва Англіі, Францыі, Італіі.

У IX ст. на вялікіх лодках праз Фінскі заліў, раку Няву, Ладажскае возера, раку Волхаў, а таксама праз Рыжскі заліў і раку Заходнюю Дзвіну варажскія дружыны пранiклі ў землі ўсходніх славян. Часам варагі выдавалі сябе за купцоў, але больш рабавалі, забівалі жыхароў, імкнуліся авалодаць вялікім водным шляхам «з варагаў у грэкі».

Многія варагі загінулі ў барацьбе з мясцовым насельніцтвам, частка вярнулася ў Скандынавію, а тыя з іх, што засталіся ў славянскіх землях, хутка аславяніліся, пераняўшы звычаі і мову славян. У некаторых выпадках варагі наймаліся на службу да рускіх князёў, удзельнічвалі ў паходах супраць Візантыі і вандроўных плямёнаў.

Варагі добра ведалі Полацк і неаднаразова ў ім былі. Як пра моцнае ўладанне на чале з сваім князем Палтэсам апавядаюць аб Полацку скандынаўскія сказанні, так званыя сагі.

На працягу X ст. рос і мацнеў Полацк, ператвараўся ў найбуйнейшы цэнтр усходняга славянства. Горад засяляўся адважнымі воінамі, умелымі рамеснікамі, прадпрымальнікамі-купцамі.

У Полацку сканцэнтравалася знаць. У 980 г. тут самастойна княжыў Рагвалод. Яго выключнае становішча сярод іншых князёў летапісец падкрэсліў словамі: «Трымаў Полацкую зямлю і валодаў ёю».

З магутным полацкім князем хацеў парадніцца Уладзімір Святаславіч, наўгародскі князь, які рыхтаваўся да рашучай барацьбы са сваім братам Яраполкам за вялікакняжцкі трон у Кіеве.

Не знайшоўшы падтрымкі з боку Полацка, Уладзімір з вялікім войскам, у якім былі і наёмныя варажскія дружыны, захапіў горад, забіў Рагвалода і двух яго сыноў, сілай узяў сабе ў жонкі яго дачку-красуню Рагнеду.

Пазней Уладзімір аддаў Полацкую зямлю свайму сыну ад Рагнеды — Ізяславу. З прызначэннем Ізяслава княжанне ў Полацку надоўга замацавалася за нашчадкамі Рагвалода. Полацкія князі самі сябе лічылі Рагвалодавымі

ўнукамі (па жаночай лініі), а сваю воласць — Полацкую зямлю — разглядалі як спадчыну свайго прашчура князя Рагвалода.

Ізяслаў княжыў у Полацку да 1001 г. Гэта год яго смерці. Дакладных гістарычных звестак пра жыццё і дзейнасць Ізяслава не захавалася. Відаць, разам з іншымі сынамі Уладзіміра ён прыняў хрысціянства ў 988 г. Адзін з летапісаў характарызуе Ізяслава як адукаванага чалавека.

У 1003 г. князем полацкім стаў сын Ізяслава Брачыслаў. Зноў пачалася барацьба паміж Полацкам і Кіевам, якая працягвалася з перапынкамі больш чым 100 гадоў.

Полацкія князі ўпарта абаранялі сваё княства, імкнуліся павялічыць яго за кошт суседніх тэрыторый.

Для збору даніны і развіцця гандлю полацкага князя вабіла міжрэчча Ловаці і Заходняй Дзвіны, дзе на шляху «з варагаў у грэкі» знаходзіліся волакі і некалі рассяляліся палачане. Тэрытарыяльныя дамаганні Брачыслава прывялі ў 1021 г. да ўзброенай сутычкі з Ноўгарадам. У Кіеве ў гэты час княжыў Яраслаў Мудры, які даводзіўся Брачыславу дзядзькам.

У Брачыслава была моцная і вялікая дружына. Апрача таго, у паходзе на Ноўгарад ён выкарыстаў наёмны атрад варагаў на чале з Эймундам. Брачыслава актыўна падтрымала полацкая знаць.

Полацкаму князю ўдалося ўзяць Ноўгарад, захапіць там мноства палонных і вялікую здабычу. Але на адваротным шляху ён быў разбіты Яраславам Мудрым на рацэ Судаміры, паўднёвым прытоку Шалоні. Полацкі



Свінцовая пячатка (була) полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды

князь быў вымушаны адпусціць палонных і вярнуць усё захопленае дабро.

Яраслаў, атрымаўшы перамогу над Брачыславам, аддаў яму гарады Віцебск і Усвяты. Пад кантролем полацкіх князёў аказаліся волакі паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной на шляху «з варагаў у грэкі», што мела важнае эканамічнае значэнне для далейшага развіцця Полацка.

Мяркуюць, што пры Брачыславе да Полацка былі далучаны землі паміж Заходняй Дзвіной і Дзісной, дзе на месцы старажытнага паселішча крывічоў вырас горад Браслаў. Памёр Брачыслаў у 1044 г.

Полацкая зямля ў XI ст. была буйным княствам ва Усходняй Еўропе. Яго тэрыторыя па сваіх памерах адпавядала тэрыторыям сучаснай Віцебскай і паўночнай часткі Мінскай абласцей, а таксама ўключала ў сябе шэраг суседніх раёнаў. Полацку належала значная частка цячэння Заходняй Дзвіны, амаль да Рыжскага заліва.

У палачан пасля распаду рода-племяннога ладу мясцовая рода-племянная знаць захоплівала землі сельскіх абшчын і замацоўвала іх за сабой на правах вотчын. Прадстаўнікі вышэйшай знаці раздавалі землі і сёлы сваім дружыннікам. Знатныя землеўладальнікі тады называліся баярамі.

Сяляне — іх называлі людзінамі ці смердамі — усё часцей траплялі ў залежнасць да землеўладальнікаў. Поўнасцю залежнымі людзьмі з'яўляліся халопы і чэлядзь. Гэта былі рабы. У час ваенных сутычак пераможцы звычайна з'яўляліся дамоў з палоннымі. Палон, іншымі словамі, халопаў і чэлядзь, князі садзілі на зямлю, утвараючы новыя сёлы з залежнымі людзьмі.

Княжацкая дружына складалася з прафесійных воінаў, служыла князю і была яму верная. З дапамогай дружыны князь збіраў даніну. Апрача дружыны ваенныя сілы князя складаліся з атрадаў наёмнікаў — звычайна варагаў. Важнай часткай ваенных сіл горада было народнае апалчэнне.

Звыш 50 гадоў узначальваў полацкія дружыны ваяўнічы князь Усяслаў. Яго добра ведалі сучаснікі. Нават на ворагаў рабіла моцнае ўражанне ўменне полацкага князя



Меч X ст. з Полацка. Захоўваецца ў Полацкім краязнаўчым музеі

знайсці выхад з самага цяжкага становішча. Рашучасць і энергія, з якой ён абараняў Полацкую зямлю, былі выключнымі.

Поспехі Усяслава Полацкага, яго ўменне непрыкметна апынуцца там, дзе яго зусім не чакалі, сучаснікі лічылі чараўніцтвам. Поўнае прыгод жыццё Усяслава натхняла песняроў і складальнікаў былін. Празвалі Усяслава Чарадзеем.

Кожны князь хацеў, каб яго горад быў галоўным і адзіным цэнтрам як мага большай тэрыторыі. Князі змагаліся між сабой за багацце, за ўладу, за выгадныя шляхі зносін. Яны пашыралі тэрыторыі сваіх княстваў, нападалі на суседнія ўладанні, палілі і руйнавалі гарады, нішчылі людзей ці захоплівалі іх у палон, як рабоў прадавалі на нявольніцкіх рынках.

Княжацкія звады, у якіх не апошняя роля належала полацкім князям, — тыповая з'ява той сярэднявечнай эпохі. У гэтыя своеасаблівыя часы жыў і дзейнічаў Усяслаў.

Усяслаў быў сынам полацкага князя Брачыслава, унукам Ізяслава. Пасля смерці бацькі малады княжыч заняў прастол у Полацку. Першыя 20 гадоў свайго кіравання Усяслаў жыў мірна, спачатку з Яраславам Мудрым, а потым з яго пераемнікамі. У 1060 г. полацкі князь прымаў актыўны ўдзел у паходзе сыноў Яраслава — Ізяслава, Святаслава, Усевалада — на поўдзень супраць качэўнікаў — торкаў.

Хутка былыя саюзнікі зрабіліся ворагамі, што ў тыя часы здаралася нярэдка. Усяслаў імкнуўся захапіць землі і гарады, якія знаходзіліся па-за межамі Полацкага княства. Тэрыторыя ж гэта была значна большая за сапраўдныя ўладанні полацкіх князёў. Кіеўскія правіцелі нават не хацелі думаць, каб новыя землі адышлі пад уладу Усяслава.

Тады Усяслаў нечакана напаў на Пскоў. Моцныя сцены пскоўскага дзядзінца вытрымалі штурм полацкіх дружын. Усяславу прыйшлося адысці ад горада, задаволіўшыся невялікай здабычай. Праз год Усяслаў накіраваўся да Ноўгарада. У бітве на рацэ Чарэсе ў 1066 г. ён перамог наўгародскага князя Мсціслава Ізяславіча і бесперашкодна авалодаў Ноўгарадам. Полацкі князь абрабаваў Ноўгарад і частку яго спаліў. У палон былі захоплены жанчыны і дзеці, а з Сафійскага сабора зняты званы і ўзяты іншыя царкоўныя прыналежнасці.

У адказ на гэта трое сыноў Яраслава зімой 1067 г. з велізарным войскам з'явіліся пад Менскам — горадам Полацкай зямлі. Менчукі зачыніліся ў дзядзінцы. На дапамогу ім спяшаўся з дружынай Усяслаў, але спазніўся — бой усчаўся на рацэ Нямізе пасля таго, як Яраславічы ўзялі і разбурылі Менск. Бітва адбылася ў халодны пахмурны дзень 3 сакавіка. «І быў снег вялікі, і войскі пайшлі адно на другое, і быў бой жорсткі, і шмат людзей пала, і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад. Усяслаў жа пусціўся наўцёкі», — так апавядаў аб драматычных падзеях на Нямізе летапісец.

Потым браты Яраславічы рашылі «памірыцца» з Усяславам. Перад крыжам прысягалі яны, што не зробяць полацкаму князю нічога благога, і запрашалі да сябе на перамовы.



Полацкі князь Усяслаў з дружынай бярэ Ноўгарад (1066 г.) (мініяцюра летапісу)

Усяслаў Полацкі з двума сваімі сынамі пераправіўся ў лодцы цераз Днепр і з'явіўся ў лагеры Ізяслава каля Оршы для заключэння міру. Ледзь пераступіў ён парог вялікакняжацкага шатра, як на яго накінуліся воіны Ізяслава, захапілі ў палон і павезлі ў Кіеў.

Там Усяслава Брачыславіча чакаў «паруб» — страшэнная турма без дзвярэй з адным маленькім акенцам, праз якое падавалі ежу. Здаецца, цяпер ужо ніхто не здолее выратаваць Усяслава. Цэлы год нагадвала цямніца кіяўлянам пра вераломства і жорсткасць іх князя Ізяслава.

Між тым пашыралася добрая слава пра Усяслава Полацкага. Зняволены князь карыстаўся народнымі сімпатыямі.

1068 год. На Русь усё часцей нападаюць полаўцы. Яны пагражаюць Кіеву. Кіяўляне звяртаюцца да вялікага князя Ізяслава: «Выдай, князь, зброю і конец, мы яшчэ паб'ёмся з імі». Ізяслаў не згаджаецца. Ён баіцца, што гэту зброю народ паверне супраць яго і баяр. Раз'юшаны натоўп ірвануўся да княжацкага двара. Людзі кідаюцца да цямніцы, дзе сядзіць Усяслаў, каб вызваліць яго. Баяры раяць Ізяславу, каб ён загадаў вартаўніку паклікаць полацкага князя да акна і раптоўна пракалоў яго мячом. Ізяслаў вагаецца, мабыць, сумняваецца ў поспеху. А людзі ўжо ля цямніцы. Сякерамі сякуць яе суцэльныя сцены. Яшчэ хвіліна — і Усяслаў на свабодзе. Натоўп кіяўлян вядзе яго на княжацкі двор і абвяшчае вялікім князем. Так з цямніцы Усяслаў Брачыславіч трапляе на кіеўскі вялікакняжацкі трон.

«Усяслаў князь людзям суд судзіў, князям гарады дзяліў, а сам уначы воўкам блукаў. З Кіева да пеўняў дасягаў Тмутаракані, вялікаму Хорсу ваўком шлях перабягаў», — чытаем у «Слове аб палку Ігаравым».

Аўтар паэмы імкнуўся не столькі перадаць падзеі з жыцця Усяслава, колькі стварыць яго вобраз. Раней мастацкі вобраз Усяслава з'яўляўся ў выключна захапляльных па сваім змесце народных паданнях.

Хорс — бог Сонца язычніцкай Русі. Слава Усяслава Брачыславіча саперніцала з славай самога бога Сонца. Усяслаў меў нейкае дачыненне да гісторыі Тмутаракані — далёкага горада на Таманскім паўвостраве. Мяркуюць, што быў ён некаторы час тмутараканскім князем.

Усяслаў быў на кіеўскім троне сем месяцаў, а потым вярнуўся на радзіму ў Полацк.

Ізяслаў з'явіўся ў Кіеве. Жорстка расправіўся ён з тымі, хто падтрымліваў Усяслава, затым з войскам рушыў на Полацк. Узяўшы горад у 1069 г., Ізяслаў абвясціў полацкім князем свайго сына Мсціслава. Той хутка памёр, і яго месца заняў Святаполк — другі сын Ізяслава.

Усяслаў Брачыславіч знайшоў прытулак сярод фінскага племені водзі, якое жыло ў паўночна-заходняй частцы Наўгародскай зямлі. Тут ён набраў войска і з'явіўся пад сценамі Ноўгарада. У крывавай бітве наўгародцы нанеслі Усяславу паражэнне і захапілі яго ў палон, але хутка выпусцілі, відаць, дамовіўшыся аб міры.

Усяслаў зноў сабраў у 1071 г. войска. Выгнаў з Полацка Святаполка і вярнуў сабе полацкі прастол. Тады Ізяслаў накіраваў супраць неўтаймоўнага Усяслава Полацкага свайго трэцяга сына, Яраполка, які разбіў палачан каля горада Галацічаска. Але Усяслаў утрымаўся ў Полацку.

Пачынаюцца зноў сутычкі Усяслава з паўднёварускімі князямі. Уладзімір Манамах разам з сваім бацькам хадзіў на Полацк вайной у 1077 г., аднак пацярпеў няўдачу. Праз год паход быў паўтораны. На гэты раз саюзнікамі Манамаха былі полаўцы.

Усяслаў не застаўся ў даўгу. Ён напаў на Смаленск і спаліў яго. Тады Уладзімір Манамах яшчэ раз жорстка спустошыў Полацкую зямлю «ад Лукомля да Лагожска» і разграбіў Друцк. А ў 1084 г. ён захапіў і разбурыў Менск.

У апошнія гады свайго жыцця Усяслаў больш не нападаў на суседнія землі. Іншыя князі таксама не трывожылі яго.

Пры Усяславе Брачыславічу Полацкае княства дасягнула сваёй найбольшай магутнасці. Памёр Усяслаў у красавіку 1101 г.

## Мы, мужы палачане...

...Гудуць званы на Сафійскім саборы. Пакідаючы межы дзядзінца, іх гул коціцца па пасадах старажытнага Полацка. Ганчар спыняе хуткі бег ганчарнага круга. Каваль не падымае больш мяхоў горна, і згасае ў ім бярозавае вуголле. Здымае з сябе кажамяка пахнучы усміяй

(скурай) фартух. Усе спяшаюцца на галоўную плошчу горада. Звон заклікае іх на веча...

Усяслаў Брачыславіч меў шэсць сыноў: Барыса (Рагвалода), Рамана, Давыда, Глеба, Расціслава, Святаслава (Георгія). Магчыма, яшчэ пры жыцці раздаў ён у кіраванне сынам асобныя гарады Полацкага княства. Адразу пасля яго смерці гэтае княства распалася на дробныя княствы-ўдзелы.

Пачаўся новы, вельмі складаны перыяд у сярэднявечнай гісторыі Полацкай зямлі, перыяд «удзельнай» раздробленасці, адасаблення самастойных княстваў, які ў XII—XIII стст. быў характэрны для ўсёй Усходняй Еўропы.

У першай палове XII ст. утвараюцца Полацкае, Менскае, Ізяслаўскае ўдзельныя княствы. У другой палове гэтага стагоддзя ўзнікаюць Віцебскае, Друцкае, Лагойскае, Стрэжаўскае княствы. Усё ж трон у Полацку лічыўся галоўным, і гэты горад працягваў заставацца найбуйнейшым палітычным цэнтрам усяго краю.

Паміж нашчадкамі Усяслава адбывалася вострая міжусобная барацьба. Гэта выкарыстоўвалі кіеўскія князі, якія яшчэ спадзяваліся падпарадкаваць сабе Полацкую зямлю. Між тым улада князёў у Полацку значна аслабла. Іх выбранне і выгнанне залежалі цяпер ад веча — агульнага сходу гараджан, які збіраўся для абмеркавання і вырашэння грамадскіх і дзяржаўных спраў.

У летапісах гаворыцца аб існаванні веча ў буйных старажытных гарадах і падабенстве вечавой арганізацыі ў Ноўгарадзе, Кіеве, Смаленску, Полацку. У вырашэнні спраў на вечы ўдзельнічалі ўсе самастойныя гаспадары — жыхары горада, якія звычайна скліkaліся вечавым звонам на галоўную плошчу горада. Падліку галасоў не было, большасць вызначалася па актыўнасці ўдзельнікаў сходу.

На вечы вырашаліся пытанні вайны і міру, кантралявалася дзейнасць князя, ажыццяўляўся вышэйшы суд. Абмяркоўваліся на вечы і справы гандлю. Ад імя полацкага веча заключаліся дагаворы з Рыгай і іншымі гарадамі. Нярэдка гэтыя гандлёвыя граматы пачыналіся словамі: «Мы, мужы палачане, даём ведаці».

Калі веча не падтрымлівала князя, яму нічога не заставалася, як пакінуць горад. За спіной веча заўсёды стаяла ўзброеная сіла — апалчэнне гараджан. Выступіць супраць яго не мог князь са сваёй невялікай дружынай. Полацк стаяў на шляху ўтварэння сярэднявечнай рэспублікі накшталт той, якая існавала ў Ноўгарадзе Вялікім.

Неабходна адзначыць, што ў Полацку веча абмяжоўвала ўладу князя, але не скасоўвала яе. На месца выгнанага князя веча выбірала іншага прадстаўніка толькі полацкай княжацкай дынастыі. На полацкім прастоле былі сыны Усяслава і ўнукі. Полацкія князі па-ранейшаму не хацелі падпарадкоўвацца ні адзін аднаму, ні князю кіеўскаму, які лічыў сябе старэйшым паміж усіх князёў. Не змянілася становішча і пасля шырокага задуманага вялікім кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам паходу 1127 г. на Полацкую зямлю.

Тады Мсціслаў вырашыў пакараць полацкіх князёў паіншаму. Ён захапіў іх усіх разам з жонкамі і дзецьмі ў палон у 1129 г. і выслаў у далёкую Візантыю. Усё ж гэта мера не магла істотна змяніць ход падзей. Выкарыстоўваючы веча, мясцовая вярхушка працягвала барацьбу за поўнае адасабленне Полацка ад Кіева, што хутка здзейснілася. Полацкія князі вярталіся з ссылкі. У 1132 г. веча выбрала полацкім князем унука Усяслава Брачыславіча Васілька.

У 1139 г. з ссылкі вярнуліся два другія полацкія князі. Уся Полацкая зямля, за выключэннем горада Копыся, які адышоў да Смаленскага княства ў 1116 г., зноў апынулася пад уладай мясцовай дынастыі — патомкаў Усяслава. У гэты час улада вялікага князя кіеўскага прыходзіла да заняпаду на тэрыторыі ўсёй Русі. Кіеўскія князі ўжо не маглі спрабаваць падпарадкаваць сабе Полацк. Полацкая зямля з'яўлялася асобнай дзяржавай.

Палітычнае жыццё Полацкай зямлі ў другой палове XII ст. напоўнена барацьбой варагуючых баярскіх груповак, зменай князёў, выступленнямі гараджан.

У Полацку існавала самастойная епіскапская кафедра. Галоўным кафедральным саборам быў Сафійскі. Пры Сафіі жыў епіскап. У яго распараджэнні знаходзіўся дзяцінец горада.

Насельніцтву Полацкай дзяржавы і іншых суседніх зямель даводзілася весці ўпартую барацьбу са знешнімі ворагамі, са спробамі заваёўнікаў пазбавіць іх самастойнасці, захапіць і падпарадкаваць сваёй уладзе.

На пачатку XIII ст. палачане разам з лівамі, латгаламі, эстамі і іншымі плямёнамі, продкамі латышоў і эстонцаў, гераічна змагаліся з нямецкімі рыцарамі, якія ўварваліся ў Прыбалтыку. Рыцарам дапамагала каталіцкая царква. Быў створаны царкоўна-рыцарскі ордэн Мечаносцаў. Члены гэтай ваенна-палітычнай арганізацыі насілі белыя плашчы з выявай чырвонага мяча і крыжа.

Нямецкія рыцары разбілі атрады ліваў. У 1201 г. пабудавалі крэпасць Рыгу. Гэты горад хутка стаў цэнтрам нямецкага гандлю і дзейнасці манахаў-католікаў ва ўсёй Усходняй Прыбалтыцы. Будуючы невялікія мураваныя крэпасці і апіраючыся на іх, рыцары-крыжакі прасоўваліся ўверх па Заходняй Дзвіне, пагражаючы Полацку.

Лівы і латгалы з даўніх часоў плацілі даніну полацкім князям і пастаўлялі ім дапаможныя войскі. Задоўга да з'яўлення тут немцаў у ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны (па-латышску Даўгавы) знаходзіліся гарады-крэпасці Кукенойс (цяпер Кокнесе) і Герцыке (Ерсіка). У гэтых гарадах кіравалі васалы полацкага князя, якія карысталіся значнай самастойнасцю.

З'яўленне нямецкіх крыжакоў ва Усходняй Прыбалтыцы пагражала Полацку стратай падуладных яму зямель. Атрады з Полацка і іншых гарадоў дапамагалі насельніцтву Латвіі і Эстоніі адбіваць напады рыцараў. Летам 1203 г. дружыны полацкага князя Уладзіміра асадзілі дзве нямецкія крэпасці. У 1206 г. палачане зноў прыйшлі на дапамогу лівам.

Рыцары наблізіліся да горада Кукенойса. Тут княжыў Вячка (Вячаслаў), які паходзіў з дынастыі полацкіх князёў і падпарадкоўваўся полацкаму князю Уладзіміру. Вячка быў мужны і адважны военачальнік. З невялікай дружынай ён аказаў супраціўленне захопнікам, але не атрымаў своечасова дапамогі ад полацкага князя. Між тым вялікае войска крыжаносцаў набліжалася да Кукенойса. У 1208 г. Вячка спаліў Кукенойскі замак і з сваёй дру-

жынай у 200 чалавек перайшоў у суседнія землі. Пазней ён узначальваў ваенныя сілы ў крэпасці на землях эстаў — Юр'еве (цяпер Тарту) і загінуў у жорсткім баі з крыжаносцамі. Вячка быў сапраўдным героем барацьбы з нямецкімі рыцарамі.

Другім старажытным фарпостам Полацкага княства ў ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны быў горад Герцыке. Цяпер яго рэшткі знаходзяцца на тэрыторыі Латвіі. Герцыке з'яўляўся багатай рэзідэнцыяй князя, дзе была яго дружына і існавалі дзве праваслаўныя царквы. У 1209 г. нямецкія рыцары напалі на горад, абрабавалі і спалілі яго.

Калі крыжаносцы ўварваліся на землі эстаў, то апошнія звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра. У 1216 г. палачане сумесна з эстамі і літоўцамі рыхтаваліся да новага паходу супраць мечаносцаў. Аднак у дзень выступлення з Полацка Уладзімір нечакана памёр і паход не адбыўся.

Полацк і Віцебск, каб супрацьстаяць узрастаючай небяспецы, умацоўвалі палітычныя сувязі з Ноўгарадам. Пра гэта сведчыць шлюб князя Аляксандра Яраславіча (Неўскага) з дачкой полацкага князя Брачыслава ў 1239 г.

У 1240 г. адбылася бітва войска Аляксандра Неўскага са шведскімі захопнікамі і іх саюзнікамі на Няве. Пра гэту бітву расказвае сучаснік у «Аповесці аб жыцці і храбрасці вялікага князя Аляксандра». Аўтар апавядае пра подзвігі шасці найбольш адважных воінаў са слоў самаго Аляксандра і іншых удзельнікаў «сечы вялікай».

Сярод герояў названы Якаў, які быў родам з горада Полацка. У жорсткай рукапашнай схватцы важнае значэнне мелі якасці славянскага бою — спалучэнне ў воінаў умення, сілы і храбрасці. Менавіта гэтыя якасці паказаў Якаў Палачанін. Узброены толькі мячом, праявіўшы выключную мужнасць, ён напаў на цэлы атрад (на старажытнай мове «полк») шведаў і адзін вытрымаў бой супраць рыцараў усяго атрада.

Недзе паблізу біўся сам Аляксандр. Палачанін Якаў, гаворыцца ў аповесці, «наехаў на полк з мячом і мужна біўся і пахваліў яго князь».

У бітве на Чудскім возеры 5 красавіка 1242 г. Аляксандр Неўскі на чале наўгародска-пскоўскага апалчэння пры дапамозе суздальцаў разграміў тэўтонскіх рыцараў. Перамога прыпыніла рух крыжаносцаў на Усход.

Гісторыя Усходняй Еўропы склалася так, што менавіта ў гэтыя гады па Русі быў нанесены страшэнны ўдар з боку мангола-татарскіх захопнікаў, якія ў 1237 г. узялі Разань, у 1238 — Маскву і Уладзімір, а ў 1240 — захапілі і разбурылі Кіеў.

Мангола-татарам не ўдалося падпарадкаваць сабе тэрыторыю сучаснай Беларусі. Гісторыя беларускіх зямель у другой палове XIII ст. была своеасаблівая. Раней полацкія, віцебскія і мінскія князі нярэдка выкарыстоўвалі літоўскія дружыны ў час феадальных міжусобіц. З сярэдзіны XIII ст. Полацкая зямля, падзеленая на дробныя княствы, трапляе пад уплыў літоўскіх князёў.

Полацкія баяры баяліся ўзрастаючай актыўнасці гараджан, асцерагаліся нямецкай агрэсіі. Таму яны пайшлі на саюз з літоўскімі князямі і запрасілі іх у Полацк.

З канца XIII — пачатку XIV ст. Полацкая зямля канчаткова ўвайшла ў склад новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, у якой Полацк працягваў заставацца адным з найбуйнейшых గарадоў. Да першай паловы XIV ст. уся тэрыторыя сучаснай Беларусі ўвайшла ў склад гэтай дзяржавы.

## Найпадобная Ефрасіння Полацкая

У перыяд раздробленасці жылі і плённа працавалі выдатныя царкоўныя дзеячы, пісьменнікі, асветнікі, якія стаялі ля вытокаў духоўнасці беларусаў. З перапіскі царкоўных кніг пачала сваю дзейнасць Прадслава, вядомая ў гісторыі пад імем Ефрасінні Полацкай.

Была яна ўнучкай князя Усяслава Брачыславіча, дачкой малодшага яго сына Святаслава (у хрышчэнні Георгія). Нарадзілася каля 1104 г. Многія князі прасілі яе бацьку даць згоду на шлюб юнай прыгажуні-князёўны з сваім сынам. Калі Прадслава даведалася пра намер бацькі, тайна збегла ў жаночы манастыр, які ўзначальвала яе

цётка Раманава, і шчыра прасіла пострыгу ў манашкі. Ніякія ўгаворы не дапамаглі, і блізкія родзічы Прадславы вымушаны былі ўступіць перад яе незвычайнай настойлівасцю.

Невялікі манастыр размяшчаўся ў прыбудовах да Сафійскага сабора. У вольны ад малітваў час Ефрасіння ў келлі перапісвала царкоўныя кнігі, а грошы, вырučаныя за іх, раздавала жабракам.

Былі ў юнай манахіні відзежы. Аднойчы быццам з'явіўся анёл, які параіў Ефрасінні пакінуць келлю (галубніцу) у Сафіі на беразе Дзвіны і заснаваць свой манастыр пры драўлянай цэркаўцы Святога Спаса ў Сяльцы на рацэ Палаце. Здзейсніцца жаданню Ефрасінні дапамог полацкі епіскап Ілля і родзічы з княжацкай сям'і.

Аб учынку Ефрасінні не сціхалі спрэчкі. Паразмаўляць з ёй на багаслоўскія тэмы прыязджалі многія, хто таго жадаў. Ефрасіння сабрала ў манастыры маладых жанчын і адкрыла школу для навучання грамаце. Калі колькасць жанчын у манастыры значна павялічылася, Ефрасіння вырашыла пабудаваць каменную царкву ў імя Спаса.



Сафійскі сабор на Верхнім замку ў Полацку (1961 г.)

Ефрасіння пабудавала яшчэ і другую царкву ў гонар Прасвятой Багародзіцы. Упрыгожыўшы яе абразамі, Ефрасіння перадала царкву манахам, для якіх заснавала мужчынскі манастыр. Гэтаму манастыру яна падаравала знакаміты твор мастацтва — абраз «Маці Боская Адзігітрыя Эфеская», які быў прывезены з Візантыі. (У 1239 г. абраз быў перанесены ў горад Таропец жонкай князя Аляксандра Неўскага, дачкой полацкага князя Брачыслава.)

Узвіжальны крыж, які выкарыстоўваўся ў дзень хрысціянскага свята «Узвіжанне Крыжа», быў заказаны лепшаму майстру Лазару Богшу. Заснаваныя Ефрасінняй манастыры сталі цэнтрамі асветы ў Полацкім княстве.

У цяжкія гадзіны для палачан Ефрасіння імкнулася быць разам з суайчыннікамі, каб тлумачыць запаведзі і палажэнні хрысціянскай веры на прыкладах тагачаснага жыцця, падзяляць турботы і беды людзей. Як адзначана ў «Жыціі» Ефрасінні Полацкай, «не хацела яна бачыць, каб хто-небудзь варагаваў: ні князь з князем, ні баярын з баярынам, ні служанін са служанінам, аднак усіх жадала бачыць адзінадушнымі».

На схіле жыцця Ефрасіння вырашыла здзейсніць духоўны подзвіг — паломніцтва ў Іерусалім, у Святую зямлю. Перадаўшы кіраўніцтва Спаскім манастыром малодшай сястры Еўдакіі, Ефрасіння пачала рыхтавацца да ад'езду. Яе суправаджалі стрыечная сястра Еўпраксія і брат Давыд.

Усе жыхары Полацка ад старога да малога праводзілі Ефрасінню з найвялікшым ушанаваннем. Людзі плакалі, не хаваючы свайго суму, бо любілі ігуменню за тое, што «калі хто спытае ў яе пра што-небудзь, тая адказвала яму, і хто слухаў яе, атрымліваў усялякія даброты».

Паўсюдна ў розных землях і краінах славутую палачанку чакаў гасцінны прыём. З дапамогай візантыйскага імператара Мануіла дабралася Ефрасіння да Канстанцінопаля, а затым да старажытных іерусалімскіх муроў і Хрыстовай брамы. Дасягнуўшы сваёй мэты, яна памерла ля Труны Гасподняй у Іерусаліме 23 мая, напэўна, 1167 г. (па іншых звестках у 1173 г.). Невядомы аўтар склаў яе біяграфію, ці на тагачаснай мове «Жыціе». Гэта адзін з нямногіх помнікаў полацкай літаратуры, які дайшоў да нас.

Мошчы Ефрасінні былі дастаўлены ў Кіева-Пячэрскую лаўру. У 1910 г. урачыста перанесены ў полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, які яна заснавала.

Ефрасіння Полацкая — адна з першых жанчын сярод усходніх славян, якую праваслаўная царква абвясціла святой. Яна сапраўды заслужыла гэту пашану, бо ўсё жыццё самаахвярна імкнулася да духоўнай дасканаласці.

## Майстар-ювелір Богша

У гісторыі ўсходнеславянскага прыкладнога мастацтва выключнае месца займае крыж Ефрасінні Полацкай. Зрабіў яго майстар Лазар Богша ў 1161 г. на заказ Ефрасінні для Спаскага сабора жаночага манастыра.

Мы не ведаем, дзе нарадзіўся Богша, дзе навучаўся ён складанай ювелірнай справе. Але можна ўпэўнена сцвярджаць, што крыж быў зроблены ў Полацку. Па жаданні Ефрасінні на крыжы змешчаны выявы святых патронаў (нябесных заступнікаў) — членаў яе сямейства: бацькі Георгія, маці Сафіі і самой Ефрасінні.

Вельмі каштоўныя вырабы звычайна рабіліся з матэрыялаў заказчыкаў. Прыгадаем, што акрамя золата, серабра, каштоўных камянёў у драўляную аснову крыжа былі ўкладзены мошчы святых, прывезеных у Полацк.

Гэты твор высокага мастацтва адносіцца да тыпу крыжоў з шасці канцамі. Такая форма распаўсюдзілася ў XII—XIII стст. і была звязана з візантыйскай мастацкай традыцыяй.

Памер крыжа — 51 сантыметр у даўжыню. Таўшчыня складае некалькі сантыметраў. Зроблены ён з трывалага дрэва — кіпарысу. Да вонкавай і тыльнай паверхняў прымацавана па 11 залатых пласцін са шматлікімі эмалямі, крыж мае 8 дарагіх авальных камянёў і жамчужную абнізь. З бакоў крыжа — пазалочаныя пласціны з серабра, на якіх выразаны доўгі надпіс.

Найбольш каштоўнае ў крыжы — яго перагародкавыя эмалі. Каб іх зрабіць, трэба было валодаць выключным майстэрствам. Спачатку на залатой пласцінцы выціскалі контур малюнка. Потым танюсенькія палоскі золата вы-



Крыж, зроблены Лазарам Богшам у 1161 г. (верхняя частка)

шынёй да аднаго міліметра напайвалі на гэты контур. Так утвараліся ячэйкі-перагародкі памерам часам з макавае зярнятка. Для кожнага каляровага элемента, скажам, для зрэнкі вока на твары даводзілася рабіць асобную залатую ячэйку. У ячэйку насыпаўся эмалевы парашок розных колераў, і ўсю пласціну ставілі на жароўню. Расплаўленая шклопадобная маса трывала злучалася з золатам. Пасля зацвярдзелую эмаль, ці, лепш сказаць, сплаў шкла розных колераў, старанна шліфавалі. Утваралася вельмі гладкая, цвёрдая і бліскучая паверхня.

На вонкавым і тыльным баках крыжа на залатых пласцінах змешчана 20 выяў святых праваслаўнай царквы. Усе яны выкананы ў тэхніцы перагародкавых эмалей з сінімі, чырвонымі, белымі, зялёнымі адценнямі.

Паводле хрысціянскай сімволікі і вучэння, выявы на сценах цэркваў і мастацкіх вырабах размяшчаліся ў вельмі строгім парадку. Невыпадковае размяшчэнне выяў і на крыжы Ефрасінні Полацкай. На яго вонкавай плоскасці тыповая іканапісная кампазіцыя. Зверху — выява Ісуса Хрыста, крыху ніжэй — фігуры Іаана і Божай Маці,

з правага і левага бакоў — выявы архангелаў Міхаіла і Гаўрыіла, якія сімвалізуюць сілы нябесныя. На тыльнай плоскасці рэліквіі — яшчэ 8 выяў «айцоў царквы».

З выявамі святых чаргуюцца шматлікія арнаменты-эмалі. На пярэдняй плоскасці кідаюцца ў вочы круглыя пальметы з чатырох парных частак, а таксама своеасаблівыя фігуры з увагнутымі ўсярэдзіну верхам і нізам. Кожная з фігур запоўнена арнаментальнымі элементамі.

На адваротным баку крыжа арнаментаў не менш. Пераважаюць крыжападобныя фігуры, але сустракаецца і даволі натуральна выкананы раслінны ўзор. Сярод арнаменту ёсць пальметы трохвугольныя і квадратныя. Прыступкавыя трохвугольнікі, якія мы бачым на крыжы, былі вельмі пашыраны ў Кіеўскай Русі. Майстар-ювелір Богша выявіў высокае ўмельства кампанаваць тыпы арнаменту ў адзіным завершаным і стройным узоры.

Асаблівую ўвагу даследчыкаў выклікалі надпісы на крыжы. Падрабязны надпіс на бакавых сярэбраных пласцінах крыжа ідзе па спіралі ў два рады. Першая яго частка — гэта адзін з нешматлікіх дзелавых запісаў XII ст., якія дайшлі да нас; другая — традыцыйнае заклікание, па сутнасці малітва.



Арнамент, якім Лазар Богша аздобіў крыж

У першай частцы гаворыцца, што ў 1161 г. Ефрасіння навечна падаравала крыж царкве Спаса заснаванага ёю манастыра. Золата, серабро, каштоўныя камяні і жэмчуг, якія выкарыстаны на крыж, каштуюць 100 грыўняў, за працу ж заплачана 40 грыўняў. У другой частцы надпісу — малітве — запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спасаўскай царквы.

На ніжняй пласціне адваротнага боку змешчаны дробны надпіс з імем майстра Богшы (у хрышчэнні Лазара), які зрабіў гэты крыж для царквы святога Спаса: «Господи, помози рабоу своемоу Лазорю, нареченомоу Богъши, съделавъшемоу кръстъ сии црькви святого Спаса и Офросиньи».

Па сваіх мастацкіх якасцях і тэхніцы перагародкавых эмалей полацкі крыж не ўступае найлепшым узорам тагачаснага прыкладнога мастацтва, якія карысталіся сусветнай славай. З поўным правам яго можна назваць шэдэўрам — узорным творам сваёй эпохі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, крыж знік з магілёўскага краязнаўчага музея, і яго лёс дагэтуль застаецца невядомым. Вядуцца яго пошукі.

У наш час майстар з Брэста Мікалай Кузьміч, якога называюць спадкаемцам Лазара Богшы, зрабіў даволі дакладную копію крыжа. Яна захоўваецца ў дзейнічаючым Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім жаночым манастыры.



Скураны кашалёк XII ст., упрыгожаны арнаментам з Полацка

## Полацкая Сафія

Старажытны Полацк, як і ўсе іншыя гарады Кіеўскай Русі, быў пабудаваны з дрэва. У драўляным будынку суха, захоўваецца свежае паветра, лёгка дыхаецца, драўляны будынак няцяжка ўцяпліць. З дрэва будавалі жыллё не толькі простыя гараджане. Драўлянымі былі таксама баярскія харомы.

Сярод разнастайных драўляных збудаванняў рэзка выдзяляліся сваім выглядам нешматлікія будынкі каменнай манументальнай архітэктуры. Старажытныя каменныя пабудовы былі створаны народам. У іх увасоблены вынаходлівасць народа, яго творчыя сілы, а таксама разуменне прыгожага і мастацкі густ.

Каменная архітэктура часоў Кіеўскай Русі прадстаўлена амаль выключна пабудовамі культавага характару, іншымі словамі — саборамі і цэрквамі. Царкоўныя пабудовы звычайна ўзводзілі самыя таленавітыя майстры. Унутраны і знешні выгляд цэркваў рабіў на людзей моцнае ўражанне.

Старажытныя дойліды ўмелі выбіраць месца для ўзвядзення храмаў — на берагах водных шляхоў, на ўзвышшах, каб яны былі добра бачны, здалёк служылі маякамі для падарожнікаў.

Храмы і асабліва саборы (галоўныя цэрквы ў горадзе) былі не толькі культавымі, але і грамадскімі памяшканнямі. За іх сценамі хаваліся архівы, бібліятэкі, багацці дзяржаўнай казны. У гарадскіх храмах і каля іх адбываліся важныя грамадскія сходы, веча. У цяжкія гадзіны гісторыі народа, калі яго прыступам бралі ворагі, саборы і цэрквы былі апошнімі пунктамі абароны. Галоўны храм (сабор) быў сімвалам горада. Ён выконваў ролю цытадэлі — унутранай крэпасці цэнтра дзядзінца.

Каменная культавая архітэктура прыйшла да нас разам з хрысціянствам з Візантыі. Ва Усходняй Еўропе яна ўзбагачалася мясцовымі рысамі і асаблівасцямі. Ад візантыйска-славянскага мастацтва пачало развівацца мастацтва асобных усходнеславянскіх княстваў і зямель.

У сярэдзіне XI ст. пры князю Усяславу Брачыславічу ў Полацку вырас Сафійскі сабор — самая старажытная каменная пабудова на беларускай зямлі.

Полацк быў трэцім горадам ва Усходняй Еўропе пасля Кіева і Ноўгарада, у якім меўся Сафійскі сабор. Выдатная грандыёзная пабудова сведчыць аб намеры паўтарыць у Полацку бляск і хараство княжацкага будаўніцтва ў Кіеве і Ноўгарадзе. Полацкая Сафія — сведка сілы і магутнасці полацкіх князёў у XI ст.

Слова «Сафія» грэчаскага паходжання. Яно азначае «мудрасць». Сафійскія храмы будаваліся ў гонар той прамудрасці, якая нібыта кіравала сусветам.

Сафійскі сабор — узор дасягненняў старажытнай полацкай манументальнай архітэктуры і тагачаснай будаўнічай тэхнікі. Ён быў сімвалам незалежнасці Полацка. Да нас дайшлі старажытныя пячаткі горада з надпісам «Пячатка Полацка і святой Сафіі».



Сафія Полацкая (рэканструкцыя)

Полацкая Сафія была адразу пачута і апета яе старажытнымі сучаснікамі. Да князя Усяслава Брачыславіча адносяцца словы славутай паэмы: «Таму ў Полацку рана званы пазванілі ў Сафіі святой да ютрані — ён жа праз сны ўжо ў Кіеве звон чуе той».

У келлі адной з саборавых вежаў Полацкай Сафіі некаторы час жыла і перапісвала кнігі Ефрасіння. Тут была найбольш старажытная і багатая бібліятэка, а таксама і майстэрня, дзе пераплятапі кнігі, аздаблялі іх пераплёты, малявалі іконы.

Месца для Сафійскага сабора абрана вельмі ўдала. Яно знаходзіцца ў паўднёвай частцы Верхняга замка, за 60 метраў ад абрывістага берага Заходняй Дзвіны. Сафія была добра бачна з усіх бакоў.

За свой доўгі век Сафія не раз гарэла разам з умацаваннямі замка. Шэсць разоў перабудоўваўся гэты храм. Апошні раз — у 1750 г., калі ён набыў выгляд дзвюхвежавай царквы ў стылі барока, тыповым для XVIII ст. Такім ён застаўся і да нашых дзён.

Які ж выгляд мела Полацкая Сафія ў XI ст.? Адказаць на гэта пытанне дапамагае тое, што Полацкая Сафія нагадвае Кіеўскую і Наўгародскую не толькі назвай, але сваім планам і многімі дэталямі будаўніцтва.

Пасярэдзіне ўзвышаўся галоўны купал сабора, па баках якога знаходзіліся чатыры меншыя купалы. Паводле летапісных звестак, усяго Полацкая Сафія мела сем «вярхоў» (купалоў).

З усходняга боку знаходзіліся тры апсіды (выступы). Сцены мелі прамавугольныя плоскія лапаткі, якія ішлі вертыкальна, падзяляючы іх на прасценкі. На кожнай сцяне, апрача ўсходняй, лапатак было па шэсць. Усе яны дакладна адпавядалі ўнутранаму падзелу памяшкання слупамі.

Што бачыў наведвальнік усярэдзіне Сафійскага сабора? Тут уся прастора падзялялася 16 слупамі на мноства ячэек. Слупы былі не круглыя, а ў форме крыжа.

Насупраць алтара, у заходняй частцы, уверсе, знаходзіліся хоры — своеасаблівы балкон.



Фрагмент муроўкі сцяны Сафійскага сабора ў Полацку (XI ст.)

Хоры прызначаліся для князя, яго сям'і і бліжэйшых прыдворных. Унізе знаходзіўся просты народ — іх падданыя.

Сцены Полацкай Сафіі выкладзены з прыродных камянёў і тонкай цэглы, ці «плінфы», паласа камянёў чаргавалася з такой жа паласой цэглы, потым зноў камяні, зноў цэгла. Такія «паласатыя» сцены былі характэрнай асаблівасцю як візантыйскай, так і ўсходнеславянскай архітэктуры XI ст.

Сцены звонку не тынкаваліся. Яны змацоўваліся «цамянкай», вапнавым растворам, у які дабаўлялі тоўчаную цэглу, надаючы раствору ружовы колер.

## Каменны летапіс

Архітэктуру вобразна называюць каменным летапісам мінуўшчыны: яна гаворыць тады, калі маўчаць і песні, і паданні. Маўклівыя камяні часам могуць расказаць не менш, чым летапісы.

У перыяд палітычнай раздробленасці ўзнікае і распаўсюджваецца новы тып царкоўных будынкаў. Аслабленне княжацкай улады, распад вялікіх княстваў на дробныя — усё гэта не магло не адбіцца на развіцці архітэктурных форм.

Для будаўніцтва вялікай царквы або сабора патрабаваліся значныя сродкі. А дзе было іх узяць? І вось замест нешматлікіх, але грандыёзных збудаванняў з'явілася значная колькасць пабудоў невялікіх памераў. Яны намнога прасцейшыя і больш сціплыя.

У наваколлі Полацка ўзнікалі манастыры. Манастыры валодалі землямі і сялянамі. На месцы размяшчэн-



Спасаўская царква XII ст. у Полацку (рэканструкцыя)

ня манастыра стаялі жылыя памяшканні. Тут абавязкова будаваліся цэрквы і саборы.

У пачатку XII ст. за два кіламетры ад полацкага дзядзінца Верхняга замка, на супрацьлеглым левым беразе Заходняй Дзвіны пры яе зліцці з рэчкай Бяльчанкай, узнік Барысаглебскі, ці Бельчыцкі, манастыр. Відавочна, заснаваў яго полацкі князь Барыс Усяславіч. Мяркуюць, што ў манастыры была пахавальня з яго астанкамі.

Тут, у Бельчыцы, знаходзілася багатая рэзідэнцыя полацкіх князёў. Часткай яе былі чатыры выдатныя культавыя манастырскія будынкі. Дзве паўразбураныя царквы існавалі яшчэ ў пачатку XX ст. Адна з іх — шасціслупавая Барысаглебская царква — была пабудавана ў першай палове XII ст. Яна мела багаты фрэскавы роспіс.

У Барысаглебскім храме выдатныя фрэскі ўпрыгожвалі не толькі сцены, але і адкосы акон. Роспіс кожнага акна быў своеасаблівы. Пераважалі раслінныя арнаменты.

Другі бельчыцкі храм — маленькая Пятніцкая царква памерам 5,7×5,7 метра. Пад ёю размяшчаўся склеп — пахавальня. Каля ўваходу ў алтар была цудоўная фрэска князёў Барыса і Глеба, якіх забіў іх брат кіеўскі князь Светаполк, празваны Акаянным. Памяць пра Барыса і Глеба асабліва шанавалі ў асяроддзі княжацкіх дружыннікаў, іх лічылі заступнікамі воінаў.

Крыху пазней за Бельчыцкі, у сярэдзіне XII ст., узнік манастыр на беразе рэчкі Палаты, заснаваны Ефрасінняй у прыгарадным паселішчы полацкіх епіскапаў Сяльцы больш за восемсот гадоў таму назад.

Яшчэ раней тут існавала царква, у якой хавалі памерлых епіскапаў. У старыя часы царква загінула ў моцным пажары. Ад яе ў зямлі захаваўся толькі фундамент. Рэшткі царквы даследавалі археолагі. Знойдзеныя тут пахаванні ў мураваных склепах сведчаць, што царква сапраўды служыла працяглы час пахавальняй.

Побач з гэтай незвычайнай царквой-пахавальняй, калі яна яшчэ прыгожа ўзвышалася на беразе Палаты, у сярэдзіне XII ст. па задуме Ефрасінні была пабудавана другая царква, якая дайшла да нашых дзён, перабудаваная ў XIX ст.



Хрыстос Пантакратар. Фрэска ў малельні Ефрасінні

Спаса-Ефрасіннеўская царква — прамавугольная пабудова з адзіным купалам на высокім барабане, які ўзвышаецца над дахам. З усходняга боку царквы выступае адна паўкруглая апсіда. Дзве другія невялікія апсіды схаваны ў вуглах будынка і знадворку зусім не бачны. Гэта адна з самых цікавых асаблівасцей полацкага дойлідства. Угары сцены, расчлененыя лапаткамі, мелі паўкруглае завяршэнне — закамары. У старажытных царкоўных будынках па гэтых закамарах рабілася пакрыццё даху свінцовымі лістамі.

Унутраная прастора царквы была пабудавана так, што чалавек, які сюды трапляў, спачатку адчуваў сябе як быццам прыдушаным масіўнасцю збудавання. Прайшоўшы наперад, ён міжволі падымаў вочы ўверх, адкуль праз доўгія вокны падкупальнага барабана струменіла свят-

ло. Усё верхняе збудаванне царквы падтрымлівала шэсць слупоў, якія даволі блізка адзін ад аднаго стаялі ўнутры галоўнага памяшкання.

Сценкі і слупы былі размаляваны старажытнымі фрэскамі. Мінула восем стагоддзяў. А цудоўныя фрэскі захавалі сваю прыгажосць, хоць іх неаднаразова нанава пакрывалі тынкоўкай і маслянымі фарбамі. Даследчыкі месцамі расчысцілі гэтыя напластаванні, і непаўторныя старажытныя роспісы адрадзіліся да новага жыцця.

На цёмным фоне — застылыя постаці. Першае, што звяртае ўвагу, — твары людзей. Маленькія вусны, выгнутыя бровы і вялікія задуменныя вочы. Гэта павінна было сведчыць аб сіле волі, высакародстве і непахіснасці. Так мастакі стараліся перадаць унутраны свет чалавека, выказвалі сваё разуменне прыгожага. Фрэскі размяшчаліся на сценах і слупах царквы ў два рады. Арнаментальныя роспісы ўпрыгожвалі праёмы акон. Фарбы фрэсак — жоўтая і цёмная вохра, ружовы і блакітны колеры, а фон — сіні і зялёны.

Выдатнае мастацтва полацкіх фрэсак нагадвае наўгародскі і кіеўскі манументальны жывапіс і звязана з візантыйскай традыцыяй. Разам з тым гэта і высокае самабытнае мастацтва Полацкай зямлі.

Каля ўваходу ў тоўшчы сцяны ёсць зусім непрыкметны ход у выглядзе шчыліны. Ён вельмі вузенькі: два чалавекі ў ім не размінуцца. У шчыліне мураваныя ступенькі лесвіцы. Яны вядуць уверх на хоры — невялічкі балкон, адкрыты ўнутр памяшкання царквы. Па баках хораў ёсць дзве маленькія келлі. Адна з іх прызначалася для самой Ефрасінні, другая — для яе сястры.



Фрэска на слупе Спасаўскай царквы

Невялікая пабудова выклікала незвычайную цікавасць сярод вучоных, што вывучаюць гісторыю архітэктуры. На гары, пад сучасным дахам царквы, перарobленым у XIX ст., яны заўважылі незвычайную рэч. Круглы барабан купала апіраўся на квадратны пастамент. З чатырох бакоў былі рэшткі какошнікаў. Яны мелі паўкруглую форму, як і закамары. Какошнікі былі вышэй за закамары. Гэтая дэталь — какошнікі — больш за ўсё і цікавіла вучоных.

Справа ў тым, што какошнікі з'яўляліся вельмі характэрнай асаблівасцю рускага дойлідства XVI—XVIII стст. Кожны бачыў на здымку сабор Васілія Блажэннага, пабудаваны ў Маскве ў XVI ст. на Чырвонай плошчы. Калі ўважліва прыгледзецца да яго, то ўнізе шматлікіх купалоў можна заўважыць паўкруглыя какошнікі. Вельмі выразна яны бачны ў славутай драўлянай Праабражэнскай царкве пачатку XVIII ст. у Кіжах, дзякуючы якой гэтая вёска ў Карэліі стала вядома далёка за межамі Расіі. Аказваецца, царква ў Полацку — самы ранні будынак ва Усходняй Еўропе, дзе ўпершыню з'явілася важная для архітэктуры дэталь — какошнікі.

Які ж старажытны наватар пабудаваў славутую царкву? Цяпер мы ведаем яго. Гэта быў полацкі дойлід Іаан (Іван). Пра яго жыццё і дзейнасць вядома нямнога. Іаан узначальваў арцель полацкіх будаўнікоў-муляроў. Адукаваны чалавек з добрым мастацкім густам, ён увесь час быў заняты справай узвядзення манументальных будынкаў. Да яго звярталіся некалькі разоў, перш чым ён змог з'явіцца ў Сяльцо, каб пабудаваць Спаскую царкву. Мяркуюць, што ён быў манахам Бельчыцкага манастыра, на тэрыторыі якога таксама будаваў цэрквы. Вялікі вопыт будаўніка і добрыя арганізатарскія здольнасці дазволілі яму ўзвесці будынак у вельмі сціслы для тых часоў тэрмін — за трыццаць тыдняў.

Спаса-Ефрасіннеўская царква стаіць ля вытокаў новага тыпу будынкаў. Задумы полацкага майстра атрымалі далейшае развіццё перш-наперш у самім Полацку. Археолагі пераканаўча даказалі гэта. У 1967 г. на Верхнім замку былі адпакапы рэшткі царквы канца XII ст. Архі-

тэктурны яе выгляд — вынік далейшага развіцця таго тыпу будынкаў, якія ўзводзіў славуты дойлід Іаан.

Полацкае дойлідства XII ст. было своеасаблівае і непаўторнае. Полацк — адзін з гарадоў, дзе нарадзіўся новы тып манументальных будынкаў, які мае ярка выражаныя ўсходнеславянскія рысы. Гэты горад — выдатны цэнтр старажытнай культуры на Беларусі.


Фрэска святога ў алтары Спасаўскай царквы

Каменныя царкоўныя пабудовы XII ст. апрача Полацка існавалі ў Віцебску, Навагрудку, Тураве, Гродне. Каменныя цэрквы будаваліся ў Мінску і Ваўкавыску. Да нашых дзён захавалася Барысаглебская, ці, як яе яшчэ называюць, Каложская, царква ў Гродне. Гэтая царква мае свае асаблівасці. Яе сцены ўпрыгожаны ўстаўкамі з неапрацаваных і плоскіх валуноў, а таксама зялёнымі, жоўтымі і карычневымі паліўнымі пліткамі розных тыпаў. У старажытным Гродне існавала свая школа дойлідства.

Тое, што засталося ад мастацкіх скарбаў, якія стваралі на працягу стагоддзяў нашы далёкія продкі, мае для нас велізарную каштоўнасць. Старажытныя помнікі архітэктуры займаюць пачэснае месца ў нашай скарбніцы культуры.

# СЛЕД РАГНЕДЗІН

Электрычка набірае скорасць. За вокнамі мільгаюць бетонныя слупы, зубцы пералескаў, і не паспееш азірнуцца, як з дынаміка гучыць: «Наступная станцыя «Беларусь»!» Міжволі глядзіш у акно. Недалёка ад чыгункі на ўзвышшы бачны вал. Ён утварае кола правільнай формы. Праз момант гэты вал знікае за хмызняком, што цягнецца ўздоўж чыгункі.

Справа на небасхіле ўзнялася белая вежа царквы. Яе абступае магутны чатырохвугольны вал. Недалёка на выспе бачны муры другой царкоўнай пабудовы. Гэта першыя прыкметы горада Заслаўя.

Да вайны 1812 г. Заслаўе лічылася мястэчкам Мінскай губерні. Хутка пасля вайны вядомы рускі пісьменнік і гісторык Мікалай Міхайлавіч Карамзін нанава адкрыў для навукі гэты старажытны горад.

У сваёй рабоце «Гісторыя дзяржавы расійскай» М. М. Карамзін вызначыў датай заснавання Заслаўя 985 год. Адны вучоныя аспрэчвалі гэту дату, другія ж меркавалі, што названы ў летапісах Ізяслаўль знаходзіцца не ў Беларусі, а дзесьці ў іншым месцы, магчыма, ва Украіне.

У жыхароў Заслаўя была свая думка па гэтым пытанні. Спытайцеся тутэйшага жыхара: «Хто такая Рагнеда?», і ён раскажа цікавую легенду пра полацкую князёўну, якой давялося жыць у гэтых месцах. Але звернемся да больш старажытных сведак.

У 1128 г. летапісец запісаў паданне, пачутае з вуснаў нейкіх «ведушчых» людзей, якія ведалі і захоўвалі ў памяці мноства старажытных былін і паданняў. Яно дайшло і да нас у складзе Лаўрэнцьеўскага летапісу. Вось яно поўнасцю ў перакладзе на сучасную мову.

## Што расказалі «ведушчыя»

Княжыў у Полацкай зямлі і валодаў ёю Рагвалод. Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора. У Ноўгарадзе знаходзіўся Уладзімір, тады яшчэ язычнік. Быў у яго дзяцька Дабрыня, ваявода храбры і багаты муж. І паслаў да Рагвалода Дабрыня сватоў прасіць выдаць дачку замуж за Уладзіміра. Той жа запытаўся ў дачкі сваёй: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна адказала: «Не хачу разуць сына рабыні, хачу за Яраполка».*

Калі Уладзіміру паведамілі пра адказ Рагнеды, ён угнявіўся і паскардзіўся Дабрыню. Дабрыня быў раз'юшаны. Сабраўшы войска, пайшоў на Полацк і перамог Рагвалода. Рагвалод уцёк у горад, але горад быў узяты прыступам, а сам князь, яго жонка і дачка паланёны. Дабрыня ганьбай адпомсціў Рагнедзе за яе пагардлівы водзыў аб Уладзіміру. Ён загадаў Уладзіміру быць з Рагнедай у прысутнасці яе бацькі і маці. Потым бацька яе быў забіты, а Рагнеду Уладзімір узяў сабе ў жонкі і назваў яе Гарыславай. Яна нарадзіла сына Ізяслава.

Набраў сабе Уладзімір многа жонак, і Рагнеда стала гневацца. Аднойчы, калі Уладзімір прыйшоў да Рагнеды і заснуў, яна хацела зарэзаць яго нажом. Але князь раптам прачнуўся і схапіў яе за руку. Тут яна пачала казаць яму: «Ужо мне горка стала: бацьку майго ты забіў і зямлю яго паланіў з-за мяне, а цяпер не любіш мяне і малога майго».

У адказ Уладзімір загадаў ёй апрануцца ва ўсё княжацкае адзенне, як яна была апранута ў дзень вяселля свайго, сесці на багаты ложак і чакаць яго. Ён хацеў прыйсці і забіць жонку. Рагнеда выканала яго волю, але ўручыла аголены меч у рукі сыну свайму Ізяславу і наказала: «Глядзі, калі ўвойдзе бацька, дык ты выйдзі наперад і скажы яму: «Айцец, ты не адзін. Сын будзе сведкам». Уладзімір, які ўбачыў сына і пачуў яго словы, сказаў: «А хто ж цябе ведаў, што ты тут», — кінуў меч, загадаў

---

* Уладзімір названы сынам рабыні таму, што яго маці была ключніцай у княгіні Вольгі. Разуванне мужа з'яўлялася часткай старажытнага абраду ў час вяселля. Яно азначала пакорлівасць нявесты. Яраполк, які таксама сватаўся да Рагнеды, быў братам Уладзіміра па бацьку і княжыў у Кіеве.

паклікаць баяр і расказаў ім усё, як было. Баяры адказалі яму: «Ужо не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, але аднаві яе бацькаўшчыну і аддай ёй з сынам». Уладзімір жа збудаваў горад і аддаў яго ім, і даў імя гораду таму Ізяслаўль.

Адкуль былі «ведушчыя», якія паведамлялі летапісцу аб драматычных падзеях у Полацку, што адбываліся амаль на 150 гадоў раней за гэты час, — цяжка сказаць. Магчыма, легенда складвалася ў мясцовым асяроддзі полацкіх крывічоў.

У «Аповесці мінулых часоў» пад 980 годам змешчана тая ж самая легенда пра паход Уладзіміра на Полацк. Але летапісцы перапрацавалі і выдалілі тыя месцы легенды, якія характарызавалі Уладзіміра з адмоўнага боку. Тут няма эпізоду пра замах Рагнеды на Уладзіміра і ссылку яе з сынам у Ізяслаўль.

Апавяданне з Лаўрэнцьеўскага летапісу (1128 г.) захавала падрабязнае апісанне падзей, у яго аснове ляжыць народнае паданне, песня ці легенда. У ім мацней адчуваецца народная традыцыя.

Тут шмат зваротаў у форме простай мовы, якая захавалася ў помніках вуснай народнай творчасці і затым трапіла на старонкі летапісу. Пісьмовы помнік выкарыс-



Замах Рагнеды на Уладзіміра (мініяцюра радзівілаўскага летапісу)

таў багаты фальклорны матэрыял, успрыняў яго форму і паэтычны стыль.

У пісьмовыя крыніцы трапіла яшчэ адно цікавае паданне пра Рагнеду. Яно запісана пад 988 годам у познім Цвярскім летапісе. Уладзімір, прыняўшы хрысціянства ў гэтым годзе, павінен быў развітацца са сваімі ранейшымі жонкамі і застацца з адной, якую ўзяў, будучы хрысціянінам, — грэчаскай царэўнай Ганнай. Рагнедзе Уладзімір прапануе выбраць сабе мужа сярод яго вяльмож. Адказ Рагнеды гучыць таксама горда, як і раней: «Быўшы царыцаю, не хачу рабою быць ні зямному цару, ні князю». Рагнеда пайшла ў манастыр, дзе правяла апошнія гады свайго жыцця пад імем чарніцы (манашкі) Анастасіі.

У гэтым апавяданні Рагнеда зноў паказана гордай і непакорлівай. Яе журботны лёс выклікае спачуванне. Памерла Рагнеда ў 1000 г., а праз год — і яе сын Ізяслаў.

У пісьмовых крыніцах няма звестак, дзе пахавана Рагнеда. Аб гэтым гавораць толькі паданні. Больш за ўсё іх звязана з Заслаўем і яго наваколлем. Паводле мясцовых легенд, Рагнеда і Ізяслаў пасля іх выгнання з Кіева жылі ў замку над Свіслаччу на сутоку з рэчкай Княгінькай (Княгіняй). Манастыр, у якім яна правяла свае апошнія дні і была пахавана, быццам размяшчаўся каля Заслаўя на ўзвышшы Чорная гара, каля якой працякае рэчка Чарніца.

Назвы рэчак Княгінька і Чарніца насельніцтва па сённяшні дзень звязвае з імем Рагнеды. Гавораць, што тут было і возера Рогнедзь, якое потым перасохла. Рагнедзінымі называліся таксама навакольныя лясы.

Галоўнай крыніцай звестак пра Рагнеду і заснаванне Заслаўя застаецца апавяданне Лаўрэнцьеўскага летапісу. Яно тлумачыць прычыну варожасці паміж полацкім і кіеўскімі князямі, ля вытокаў якой, на думку летапісца, была крыўда, нанесеная Уладзімірам Рагнедзе. «З тае пары ўнукі Рагвалода варагуюць з унукамі Яраслававымі», — заключае летапісец.

Далей ён паведамляе, як у 1127 г. кіеўскі вялікі князь Мсціслаў — сын Манамаха — зрабіў незвычайны паход у Полацкую зямлю — «на крывічоў». Гэта быў самы вялікі паход кіеўскага князя супраць полацкіх князёў за ўсю гісторыю існавання Полацка.



Гарадзішча Замачак у Заслаўі (1968 г.)

Шматлікія дружыны сямі князёў адначасова павінны былі ўварвацца ў Полацкую зямлю, рухаючыся на Ізяслаўль, Лагойск, Друцк і «на Стрэжаў да Барысава».

На полацкім прастоле знаходзіўся князь Давыд Усяславіч. А яго сыну Брачыславу Давыдавічу належала ўдзельнае Ізяслаўскае княства.

Усяму войску Манамахавічаў быў назначаны адзін дзень нанясення вырашальнага ўдару. Аднак план парушыў сын Мсціслава Ізяслаў. Раней назначанага тэрміну Ізяслаў Мсціславіч з'явіўся пад Лагойскам, і да яго зусім выпадкова трапіў у палон Брачыслаў Давыдавіч, які спяшаўся са сваёй дружынай у Полацк на дапамогу бацьку.

На Ізяслаўль ішло вялікае войска «чатырма дарогамі» з Турава, Уладзімір-Валынскага, Гродна і Клецка. Відаць горад меў значнае насельніцтва і добрыя для тых часоў умацаванні. Нягледзячы на адсутнасць князя Брачыслава Давыдавіча з дружынай, гараджане на працягу некалькіх дзён абараняліся ад шматлікіх дружын Манамахавічаў, але потым здалі горад.

У другой палове XII ст. побач з Ізяслаўскім княствам існавала Лагойскае. Пасля Брачыслава Давыдавіча Ізя-

слаўль належаў аднаму з сыноў мінскага князя Усеваладу Глебавічу. У 1158 г. на Ізяслаўль робіць паход ужо полацкі князь Рагвалод Барысавіч. Усевалад зачыніўся ў горадзе і некалькі дзён абараняўся, але потым здаўся Рагвалоду. Ізяслаўль быў аддадзены другому князю Брачыславу Васількавічу. Гэта апошні ізяслаўскі князь, якога называюць старажытныя летапісы.

У беларуска-літоўскіх летапісах і іншых пісьмовых крыніцах XIV—XVIII стст. адзін і той жа населены пункт называецца трыма рознымі словамі: «Жэславль», «Жаславль», «Зеславлі». Ён разам з суседнім Мінскам і другімі беларускімі гарадамі знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Прыкладна ў гэтыя часы з'явілася і мясцовая, «дамашняя», назва — Заслаўе.

Заслаўе паступова страчвала асаблівасці горада і ператваралася ў прыватнаўласніцкае мястэчка, якое пераходзіла ад адных буйных феадалаў да другіх ці па спадчыне, ці ў якасці пасагу, ці прадавалася за даўгі.

Як ва ўсякай феадальнай дзяржаве, у Вялікім княстве Літоўскім адбываліся бясконцыя сутычкі паміж феадаламі. У 1433 г. князь Свідрыгайла зрабіў паход на Заслаўе.



Раскопкі неўмацаванага пасада Ізяслаўля

За адзін дзень «замак» быў узяты, горад («места») спалены, «шмат людзей у палон уведзена — мужчыны і жанчыны».

Да нас дайшоў план Заслаўя 1753 г. з падрабязным апісаннем. Плошча замка складала 3 гектары. Усе подступы да яго былі заліты вадой, неабходны ўзровень якой падтрымліваўся сістэмай вадзяных млыноў. Іх было пяць. З іх дапамогай было ўтворана некалькі штучных вадаёмаў — «ставаў», якія акружалі замак. Ставы былі на рэках Свіслач, Княгінька, Чарніцы.

Каля замка размяшчаўся невялікі «горад». Ён складаўся з рынку і некалькіх вуліц, якія разыходзіліся ад базарнай плошчы. Вуліцы называліся Замкавая, Вялікая, Віленская, Мінская, Лагойская. Назва вуліцы Вялікая сведчыць пра яе старажытнасць. Вуліца Вялікая вядома ў многіх самых старажытных гарадах — Ноўгарадзе, Полацку, Віцебску і інш.

## Таямніца гарадзішча Замачак

Летапісны Ізяслаўль і сучаснае Заслаўе — ці адзін і той жа гэта горад? Адказ можна атрымаць толькі вывучыўшы археалагічныя помнікі. Яны захаваліся ў Заслаўі і ў яго наваколлі.

Здаўна прыцягваў увагу вучоных «Замачак», ці, як яго яшчэ інакш называюць, «Магіла Рагнеды». Цяпер гэта месца — ваколіца існуючага горада. Замачак з'яўляецца гарадзішчам, толькі не зусім звычайным. Размяшчаецца ён непадалёку ад поплава Чарніцы, але тут няма стромкіх абрывістых берагоў, перарэзаных ярамі.

Плошча гарадзішча складае каля паловы гектара. Яго акружае кальцавы вал. У двух месцах ён параваны. Гэта ўваходы, але ў старажытныя часы ўваход, відавочна, быў толькі адзін. Вышыня вала месцамі дасягае 5 метраў. Са знешняга боку прыкметны рэшткі штучнага старажытнага рова. З яго бралася зямля для збудавання насыпу.

Звестак у пісьмовых крыніцах пра гарадзішча не захавалася. Існуюць толькі легенды. Сто гадоў таму назад помнік называўся не «замачак», а «акопішча».

У 1853 г. беларускі вучоны і падарожнік Павел Міхайлавіч Шпілеўскі запісаў цікавае паданне. Тады побач з гарадзішчам існаваў яшчэ і курган.

Гавораць, нібы ў старажытныя часы тут узвышаўся прыгожы замак. У ім жылі дзве князёўны: старэйшая — красуня, а малодшая — непрыгожая. Аднойчы праязджаў праз Заслаўе менскі князь і пазнаёміўся з князёўнамі. Ён пакахаў малодшую і хацеў з ёй ажаніцца.

Старэйшая князёўна вельмі засумавала, бо сама пакахала князя. Каб разладзіць шлюб, яна звярнулася да вядзьмаркі, якая жыла над ракой. Атрымаўшы ад яе нейкае зелле, князёўна вярталася дадому. Ідучы лесам, яна чагосьці вельмі спалохалася і са страху кінулася ў раку. Малодшая сястра пахавала яе каля замка і насыпала курган. П. М. Шпілеўскі адзначыў, што насельніцтва верыла ў гэта паданне.

У 1926 г. на гарадзішчы Замачак археолаг А. М. Ляўданскі зрабіў невялікія раскопкі. На пляцоўцы амаль адсутнічаў культурны пласт. Было знойдзена некалькі кавалкаў ад посуду XI—XII стст., зробленага на ганчарным крузе. А. М. Ляўданскі меркаваў, што гарадзішча магло выконваць ролю дзядзінца старажытнага Заслаўя. Ніякіх прыкмет магіл і старажытных пахаванняў тут не было.

Аднак дзядзінцы гарадоў у такіх нязручных месцах не будаваліся. Гэта былі не тыя валы, за якімі абараняліся жыхары Ізяслаўля ў XII ст. ад нападу варожага войска. Пасля раскопак А. М. Ляўданскага некаторыя гісторыкі выказалі сумненне ў існаванні Ізяслаўля на тэрыторыі сучаснай Беларусі раней за XII ст. Таямніца старажытнага горада чакала сваёй разгадкі.

З 1967 г. пачаліся новыя археалагічныя раскопкі ў Заслаўі. Вядома, у першую чаргу цікавіла гарадзішча Замачак.

— Будзеце шукаць магілу Рагнеды? — запыталася бабулька, калі мы з групай студэнтаў з'явіліся на гарадзішчы з рыдлёўкамі. — Недзе ж яе пахавалі, — працягвала дапытлівая старая, адчуўшы па нашым выглядзе, што на такую знаходку тут мы не спадзяёмся.



Гарадзішча Вал у Заслаўі

Пляцоўка гарадзішча была моцна пашкоджана пяццю вялікімі ямамі ад часоў мінулай вайны. Прыкмет культурнага пласта нідзе не было відаць.

Спачатку трэба было даследаваць вал. Каля ўваходу край насыпу абсунуўся, і яго зручна было зачысціць, каб разгледзець будову.

У насыпе вала добра былі бачны два пласты: верхні, шэрага колеру, і ніжні, жоўты, насыпаны з гравію. У шэрым пласце былі знойдзены абломкі ад гаршкоў XI ст. Значыць, перабудоўваючы вал у апошні раз, людзі выкарысталі культурныя наслаенні з пляцоўкі гарадзішча. Замачак выкарыстоўваўся ў XI ст. і яшчэ некалькі пазней. У такім выпадку павінны былі быць прыкметы жыцця на пляцоўцы гарадзішча. Іх патрэбна было адшукаць.

Недалёка ад цэнтра пляцоўкі мы заклалі невялікі раскоп. Пад дзірваном быў тонкі пласт гумусавай зямлі, а ніжэй ішоў грунт з прыроднага жоўтага пяску. Але вось у грунце паказалася пляма. Яна мела амаль прамавугольную форму памерам 1×3 метры. Асцярожна мы здымалі чорную зямлю, якая запаўняла яму. Глыбіня яе была невялікая (30—40 сантыметраў).

Спачатку нам трапілася сланцавая, ці, як часта кажуць археолагі, «шыферная», прасліца для верацяна. Ру-

жовы сланец ва Усходняй Еўропе быў толькі ў раёне Оўруча на Валыні. Там жа размяшчаліся майстэрні, дзе з мяккага каменю выточвалі гэтыя невялікія кружочкі з адтулінай пасярэдзіне. З Валыні прасліцы ў вялікай колькасці траплялі ў старажытныя гарады Беларусі да 1240 г., пакуль мангола-татары не разгramілі майстэрні.

У яме аказалася шмат керамікі. Усяго тут знайшлі звыш пяцісот чарапкоў. Край, якім заканчвалася горла, меў характэрную адзнаку — быў крыху патоўшчаны, а шыйка гаршка — даволі высокая. Гэта характэрная прыкмета керамікі XI ст.

Зусім інакш выглядалі кавалкі ад амфар, якіх мы знайшлі 24 штукі. Амфары — вялікія гліняныя пасудзіны вышынёй 70—80 сантыметраў. У іх вузкае горла, дзве вертыкальныя ручкі, круглае, нібы завостранае, дно. У амфарах трымалі і перавозілі віно або аліўкавае масла. Прывозіліся яны звычайна з Херсанеса і іншых паўднёвых гарадоў.

Апрача амфар удалося знайсці прыгожую шкляную пацерку «з вочкамі». У археалогіі добра вядомы такія знаходкі. Яны былі распаўсюджаны ў X—XI стст. Таксама ўдалося знайсці лязо жалезнага ножыка. У яме не было ніякіх прыкмет пахавання. Відавочна, яна мела гаспадарчае прызначэнне.

— Дык што ж было на Замачку ў старажытныя часы? — дапытваліся ў мяне студэнты.

— Думаю, што тут знаходзілася ў XI ст. феадальная сядзіба. Паблізу ёсць рэшткі неўмацаваных паселішчаў, дзе, напэўна, жылі сяляне.

— А дзе ж быў горад? — не адступаліся студэнты.

— Горад... Яго трэба знайсці, — заключыў я.

## А вось ён — Ізяслаўль

Для вывучэння старажытнай гісторыі Заслаўя неабходна было правесці новыя раскопкі таксама на іншых яго археалагічных помніках. У навуковых супрацоўнікаў знайшлося шмат памочнікаў. Імі былі вучні школ.

Калі завуч Заслаўскай школы-інтэрната прапанавала вучням восьмага класа прыняць удзел у раскопках курга-

ноў, што былі недалёка ад школы, пытанням васьмікласнікаў не было канца.

— Для чаго раскопкі? Што ёсць у курганах?

— А вакол царквы, на «вале», будзеце капаць?

— Калі пачнуцца раскопкі?

Назаўтра хлапчукі ў дамоўлены час з'явіліся з рыдлёўкамі на бераг Свіслачы, дзе знаходзіліся курганы. Сабраліся ўсе на адным з насыпаў.

— Цяжка сказаць, ці пашанцуе нам калі-небудзь знайсці магілу Рагнеды, — сказаў, крыху жартуючы, навуковы супрацоўнік. — Але магілу якога-небудзь яе сучасніка мы знойдзем, можа, нават і сёння. Вам ужо вядома: у такіх курганах нашы продкі-славяне хавалі памерлых. Паглядзім, што знаходзіцца пад гэтым насыпам.

Дзеці ахвотна ўзяліся за работу, і праз кароткі час большая палова кургана была раскапана. На глыбіні 90 сантыметраў паказаўся шкілет чалавека. Ён ляжаў галавой на ўсход. Гэта цікавая акалічнасць, бо звычайна славяне клалі нябожчыкаў галавой на захад.

Ля правага бядра стаяў гліняны гаршчок. Мусіць, у ім была ежа, якую паклалі нябожчыку. Ля ступні правай нагі ляжала старадаўняя жалезная сякера, ля паясніцы — спражка і нож, а каля галавы — жалезны наканечнік кап'я і жалезнае крэсіва, з дапамогай якога высякалі агонь. Гэта пахаванне старажытнага воіна, які памёр ці загінуў у XI ст.

Праз некалькі дзён на дапамогу прыйшлі разам з настаўнікам гісторыі вучні Заслаўскай сярэдняй школы. Яны раскапалі некалькі курганоў ля дарогі на Радашковічы. Большасць пахаванняў аказаліся жаночымі. Пра гэта сведчылі ўпрыгожанні, якія насілі модніцы каля 900 гадоў таму назад, — каралі, нагрудныя манетападобныя падвескі, спражкі, пярсцёнкі.

Ля самай дарогі знаходзіўся вялікі курган вышынёй у 2 метры. Пад ім знойдзена пахаванне мужчыны. Яго рост дасягаў 173 сантыметры. Ля яго былі пакладзены кавальскія клешчы. Вакол — шэсць выкаваных цвікоў, а таксама рэшткі жалезнага прадмета, верагодна, цугляў. Апрача таго, у пахаванні знойдзена бурштынавая караля, вельмі падобная да прасліца, і сярэбраная манета Атона

і Адыльгейды, выбітая ў Саксоніі ў X ст. Ва Усходняй Еўропе такія манеты сустракаюцца ў скарбах першай паловы XI ст. Манета гаворыць пра дату пахавання — у пачатку XI ст. у кургане быў пахаваны нейкі рамеснік.

У іншым месцы, у курганнай групе № 2, быў раскапаны курган, у якім знайшлі гаршчок, вылеплены ад рукі без дапамогі ганчарнага круга. Гэта адзін з найбольш ранніх курганоў X ст. Значыць, у самых старажытных курганах каля Заслаўя былі сапраўды пахаваны сучаснікі Рагнеды.

Абрад пахавання ва ўсіх курганах аднолькавы. Спачатку распальвалі на зямлі агонь. Відаць, месца ачышчалі ад злых духаў. На гэтае месца клалі памерлага і вакол яго рэчы ці ўпрыгожанні, якімі ён карыстаўся пры жыцці. Затым насыпалі курган. Абрад пахавання пераходны ад трупаспалення (крэмацыі) да трупапалажэння.

Заслаўскі курганны могільнік лічыцца адным з самых буйных у Беларусі. Ён складаецца з некалькіх курганных груп, што раскінуліся вакол Заслаўя. Яшчэ нядаўна тут налічвалася каля 300 курганных насыпаў. У курганах хавалі памерлых з канца X да пачатку XII ст. Такі вялікі могільнік мог належаць старадаўняму гораду.

Дзе ж быў гэты горад?

На правым беразе Свіслачы, дзе ў яе ўпадае Княгінька, узвышаецца вежа Спаса-Праабражэнскай царквы XVII ст. Месца гэтае называецца «Вал», бо яно акружана чатырохвугольным земляным умацаваннем прыкладна тых жа часоў, калі пабудавана царква. На плане 1753 г. месца, пра якое тут гаворыцца, абазначана словам «замак».

У мінулым на гэтым замчышчы даследчыкі неаднаразова спрабавалі рабіць раскопкі, але бясспрэчных прыкмет старадаўняга паселішча выявіць ім не ўдавалася.

Якраз у той час, калі навуковыя супрацоўнікі і школьнікі раскопвалі курганы, недалёка ад замчышча пачалі будаваць школу. Выкапалі катлаван. Ён быў не надта глыбокі, метра паўтара, і праразаў пласт чорнай зямлі з бітай цэглай, кафляй, шклом і іншымі рэчамі. Гэта быў зручны для археолагаў момант, каб высветліць, калі тут упершыню пасяліліся людзі.

Самыя старажытныя адкладанні культурнага пласта знаходзіліся ўнізе і ляжалі на жоўтым прыродным пяску. Месцамі яны былі некранутыя. Пры іх аглядзе мы знайшлі адломкі такіх жа гаршкоў, як і ў курганах.

На падрыхтаваным пад будоўлю суседнім месцы былі зроблены раскопкі. У зямлі на глыбіні 80 сантыметраў удалося выявіць несумненныя рэшткі старажытнага паселішча канца X–XII стст. Было знойдзена шмат керамікі таго часу, у тым ліку некалькі абломкаў амфар.

У мацерыку аказалася шэсць ям. Некаторыя з іх былі звязаны з рамесніцкай дзейнасцю. У адной яме знаходзілася шмат жалезных шлакаў. Іншыя ямы мелі гаспадарчае прызначэнне. У іх было шмат абломкаў керамікі. На дне некаторых гаршкоў былі адбіткі старажытных клеймаў. У большасці выпадкаў гэта малюнак кола са спіцамі ўсярэдзіне.

Пры раскопках пашанцавала знайсці сем оўручскіх прасліц, а таксама жалезныя вырабы: ключы, крэсівы, стрэмя, свердзел. Гэта тыповыя рэчы XI—XIII стст., а некаторыя з іх адносяцца да больш старажытнага часу. Тут, ля скрыжавання сучасных вуліц Заслаўя — Савецкай і Луначарскага, — знаходзіўся пасад старажытнага горада.

Заставалася знайсці такія напластаванні на замчышчы ля Спаса-Праабражэнскай царквы. Старажытны ўмацаваны цэнтр — дзядзінец горада — павінен быў знаходзіцца тут.

У мінулым даследчыкі абмяжоўваліся невялікімі раскопкамі, рабілі шурфы памерам 2×2 метры або яшчэ меншыя. На гэты раз вырашылі ўскрыць побач з вежай царквы, ля яе заходняй сцяны, плошчу 10×10 метраў. Верагоднасць таго, што тут могуць аказацца ўчасткі, дзе захаваўся старажытны культурны пласт, была вялікай. Нашы намаганні ў пошуках старажытнага Ізяслаўля былі ўзнагароджаны, але не адразу.

Даследчыкі з дапамогай студэнтаў і школьнікаў крок за крокам ускрывалі пласты зямлі. Распрацавалі верхні пласт таўшчынёй у 1,5 метра. Увесь гэты пласт быў надта перамешаны з цэглай, чарапіцай, бітым шклом зусім нядаўняга часу.

Аднак крыху глыбей паказаўся чорны слой пажарышча. У не пашкоджаных перакопамі месцах у ім была кераміка, вельмі характэрная для канца X—XI стст.

Удалося адкапаць разбураны гаршчок гэтага часу. Яго потым археолагі поўнасцю рэстаўрыравалі, склеілі з кавалкаў, якія зусім дакладна падышлі адзін да аднаго. Былі таксама знойдзены старажытныя вырабы з косці і каляровых металаў.

Але для канчатковых вывадаў матэрыялаў было яшчэ недастаткова. Уся плошча помніка складала 1,5 гектара. Трэба было знайсці прыкметы старажытнага паселішча ў іншых месцах. І гэта таксама ўдалося зрабіць.

У супрацьлеглай усходняй яго частцы былі адкапаны рэшткі паўзямлянкавага жылля з печчу-каменкай. Сярод рэшткаў печы быў знойдзены разбураны гаршчок пачатку XII ст.

Пасля гэтага зрабілі раскопкі каля паўночнай сцяны царквы. На глыбіні 2 метраў знайшлі рэшткі печы, якая ўся была ўпрыгожана кафляй, пакрыта палівай розных колераў. На кафлі віднеліся адбіткі гербаў роду Глебавічаў першай паловы XVI ст. Падмурак печы праразаў культурны пласт часоў Полацкага княства. У гэтым пласце былі адкапаны рэшткі драўляных пабудоў, а таксама старажытны частакол, якім абгароджваўся двор.

У многіх месцах давялося выявіць культурныя пласты дзвюх эпох: Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага. Захаванасць іх была неаднолькавая. У адным выпадку рэшткі паселішча X—XIII стст. аказаліся вельмі пашкоджаны ці зусім знішчаны, у другіх — яны перакрыты больш познімі пластамі і апынуліся на глыбіні 4—5 метраў ад сучаснай паверхні.

У XVII ст. замак капітальна перабудавалі і ў ім узвялі мураванае памяшканне Спаса-Праабражэнскай царквы. Да гэтага часу яго тэрыторыя была вельмі няроўнай. Цяпер нізкія месцы былі засыпаны, уся плошча выраўнена. На месцы старажытных умацаванняў паўсталі валы і бастыёны новай крэпасці, рэшткі якой захаваліся да нашых дзён. Усё гэта тлумачыць, чаму археолагам цяжка было знайсці прыкметы старажытнага горада там, дзе ён сапраўды існаваў.

Загадку Ізяслаўля, старажытнага горада Полацкай зямлі, нарэшце ўдалося разгадаць. Ён быў заснаваны ў канцы X ст. і стаяў там, дзе ў нашы дні знаходзіцца Заслаўе.

Назва гэтага старажытнага горада паходзіць ад уласнага імя Ізяслаў, таксама як і назва горада Мсціслаў ад імя Мсціслаў, Барысаў ад імя Барыс. Вельмі верагодна, што гэтым Ізяславам быў сын Рагнеды. У далейшым дзякуючы развіццю беларускай мовы назва Ізяслаўль паступова змянілася на Заслаўе.

## Замак над Гайнай

Гістарычны лёс Заслаўя падзяляў яго блізкі сусед — Лагойск (старажытная назва Лагожск). Некаторыя гісторыкі лічаць, што непрацяглы час нават існавала агульнае Ізяслаўска-Лагожскае княства.

Калі ж Лагожск названы ў пісьмовых крыніцах, адкуль можна весці адлік яго ўзросту?

Лагойск упершыню ўпамінаецца ў аўтабіяграфічным творы «Павучанне», напісаным вядомым старажытнарускім князем Уладзімірам Усеваладавічам Манамахам (1053—1125 гг.). Дадзены твор створаны каля 1117 года як запавет, урок жыццёвай і дзяржаўнай мудрасці сваім дзецям і іншым князям. Манамах успамінае пра свае шматлікія паходы па Русі, па стэпах і Еўропе. Але ў творы не названа ніводная дата.

Арыгінал «Павучання» не захаваўся, яго змест быў уключаны ў Лаўрэнцьеўскі летапіс пад 1096 годам пасля апавядання пра княжацкія сваркі. «Павучанне» дае шмат гістарычных звестак, якія адсутнічаюць у летапісе. Яно з'яўляецца каштоўнай гістарычнай крыніцай. Вучоным удалося «расшыфраваць» «Павучанне» і ўстанавіць даты паходаў, якія здзейсніў Манамах.

Калі Уладзімір Манамах быў князем у Чарнігаве, ён зрабіў паход на Полацкую зямлю ў 1078 г. Пра гэта Манамах піша: «Усяслаў [князь полацкі] Смаленск спаліў, і я з чарнігаўцамі сеўшы на коней [рушыў на яго], ды не засталі мы [яго] у Смаленску. У тым паходзе ўслед за Усяславам спаліў я зямлю [Полацкую], спустошыў яе да Лу-



Бронзавыя спражкі і «конік» XI—XII стст. з раскопак Лагойскага замчышча

комля і Лагожска ды, супраць Друцка ваюючы, [вярнуўся] у Чарнігаў». Адсюль вынікае, што Лагойск у 1078 г. быў горадам-крэпасцю Полацкай зямлі, бо праз шмат гадоў Манамах прыгадваў, як «ваяваў» яго.

Ад Заслаўя і Мінска Лагойск размешчаны на аднолькавай адлегласці, за 40 кіламетраў. З Лагойска — праз Плешчаніцы і Лепель — бліжэйшы шлях да Полацка даўжынёй каля 160 кіламетраў. Барысаў ад гэтага напрамку застаецца ў баку на ўсход кіламетраў за 50. Яшчэ далей, паблізу сучаснага раённага цэнтра Талочына, некалі быў княжацкі горад Друцк. Заслаўе, Лагойск, Друцк, Барысаў у XI—XII стст. — важныя ўмацаваныя пункты на паўднёвых граніцах Полацкага княства. Супраць іх у першую чаргу і быў скіраваны ў 1127 г. удар шматлікага войска кіеўскага вялікага князя Мсціслава, аб чым мы ўжо гаварылі раней.

Што ж сталася тады з Лагойскам? Звернемся да летапісу. У ім чытаем: «Посла князь Мстиславъ... сына своего Изяслава ис Курьска с своимъ полком на Логожескъ». На Лагойск ішоў з Курска вялікакняжацкі полк на чале з старэйшым сынам Мсціслава — Ізяславам. Лагойску надавалася важнае значэнне, бо адсюль адкрываўся шлях на Полацк. Ізяслаў захапіў горад, прабыў тут два дні, а затым паспяшаўся на дапамогу іншым князям, якія асаджвалі Заслаўе.

З другой паловы XII ст. Лагойск становіцца цэнтрам удзельнага Лагойскага княства. У 1181 г. тут княжыў

Усяслаў Мікуліч, саюзнік полацкіх і чарнігаўскіх князёў. Ён удзельнічаў у гэты час у паходзе на Друцк.

У летапісах пад 1186 годам упамінаецца ўжо іншы лагойскі князь Васілька Валадаравіч. Ён разам з наўгародцамі і смалянамі выступіў супраць палачан. Пазней Лагойск перайшоў да літоўскіх князёў Гедымінавічаў. Вось і ўся старажытная гісторыя Лагойска па крыніцах.

З Лагойскам цесна звязана жыццё і дзейнасць братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў — вядомых у свой час даследчыкаў, якія фактычна заснавалі беларускую навуковую археалогію. Пачынаючы з 30-х гадоў XIX ст., яны сістэматычна вывучалі старажытную гісторыю Беларусі. Браты Тышкевічы раскапалі некалькі соцень старажытных курганоў ля Лагойска і іншых гарадоў Міншчыны. Яны аднымі з першых звярнулі ўвагу на гарадзішчы як на важныя помнікі далёкага мінулага.



Жалезныя сашнік і гіра для бязмена з Лагойска

Да нашага часу ў Лагойску і яго наваколлі захавалася тры гарадзішчы, што знаходзяцца адно ад аднаго на адлегласці 1—2 кіламетраў. У жыхароў Лагойска легенд аб помніках старажытнасці і далёкай мінуўшчыны свайго горада існавала не менш, чым у жыхароў Заслаўя.

Адно гарадзішча ў Лагойску мае не зусім звычайную назву — Паненская гара. Такая назва нібыта паходзіць ад слова «панна» (дзяўчына), якую нехта калісь пакрыўдзіў тут.

На Паненскай гары культурны пласт амаль адсутнічае. На схілах дзе-нідзе сустракаецца ляпная кераміка, пакрытая зверху штрыхамі. Гарадзішча адносіцца да часоў родаплемяннога ладу. Каля дзвюх тысяч гадоў таму назад тут жыло насельніцтва так званай культуры штрыхаванай керамікі, якая займала амаль усю тэрыторыю Мінскай і Гродзенскай абласцей і нават усходнюю тэрыторыю сучаснай Літоўскай Рэспублікі. Другое гарадзішча размешчана за кіламетр ад Лагойска, у лесе, на доўгай прыроднай выспе. Яго пляцоўка амаль круглая, плошчай не больш чым 0,3 гектара. На ёй захаваўся культурны пласт таўшчынёй звыш паўметра. Ён бедны на знаходкі. Гэта рэшткі ўмацаванага паселішча першабытнаабшчыннага часу. Як і Паненская гара, яно не мае адносін да гісторыі горада, які ўзнік значна пазней, у іншую, сярэднявечную эпоху.

Гістарычны цэнтр старажытнага Лагойска — замкавая гара на правым беразе Гайны, амаль у цэнтры сучаснага гарадскога пасёлка, там, дзе знаходзіцца парк культуры і адпачынку. Велізарныя земляныя валы вышынёй да 8 метраў і шырокія равы глыбінёй да 5 метраў з трох бакоў абкружаюць пляцоўку плошчай у 1,5 гектара. З чацвёртага, усходняга, боку знаходзіцца стромы бераг Гайны з забалочаным поплавам ракі.

У старажытныя часы равы запаўнялі вадой. З паўднёвага боку, дзе цяпер уваход на пляцоўку, быў пад'ёмны мост на жалезных ланцугах. Тут размяшчалася і брама. А па грабянях валоў узвышаліся непрыступныя драўляныя сцены з дазорнымі вежамі.

Аднак пачатковы дзядзінец Лагойска быў, мусіць, удвая меншы, чым плошча сучаснай замкавай гары. Па-




Жалезныя вырабы з раскопак у Лагойску

водле звестак пісьмовых крыніц, у канцы XIV ст. замак пашыраўся князем Вітаўтам, а пазней ён перабудоўваўся некалькі разоў. У 1505 г. Лагойск разбурылі крымскія татары. Замак разам з Багаяўленскай царквой быў спалены. У другі раз адноўлены замак спалілі шведы ў час Паўночнай вайны. Апошні раз ён адбудоўваўся ў 1765 г.

Археалагічныя раскопкі Лагойскага замчышча пачаліся ў 1966 г. Памочнікамі вучоных у працы былі вучні Лагойскай сярэдняй школы № 2.

У адным месцы зрабілі зачыстку вала. У самай верхняй яго частцы ўдалося знайсці абломкі кафлі XVII—XVIII стст. Значыць, апошні раз ён падсыпаўся ў гэты

час. Ніжэй у вале была знойдзена кераміка XII—XIII стст. Адсюль няцяжка здагадацца, што для падсыпкі вала неаднаразова выкарыстоўваўся культурны пласт часоў Полацкага княства з пляцоўкі гарадзішча.

Цяпер замкавая гара свабодная ад забудовы. Тут растуць дрэвы. Між дрэў зелянее высокая трава. Пачынаючы археалагічныя работы ў 1966 г., мы намецілі асноўны раскоп на пляцоўцы недалёка ад абрыву, бо напярэдадні вызначылі, што культурны пласт тут значна лепш захаваўся. Пачалі здымаць верхні, «нецікавы», пласт зямлі. Гэта была шэрая глеба, якую людзі доўгія гады пералапачвалі, узорвалі, выбіраючы з яе ўсё цвёрдае, што перашкаджала ўзыходзіць раслінам.

На глыбіні 30—40 сантыметраў зрэдку сустракаліся жалезныя, шкляныя і керамічныя вырабы XVI—XVIII стст. У адным месцы было шмат кафлі з зялёнай палівай. Мы старанна выбіралі яе з кучы гліны і бітай цэглы. На кафлі віднеліся выпуклыя малюнкі: выява чалавека, расліны і геаметрычныя арнаменты. У XVI ст. такой кафляй упрыгожвалася багатае жыллё феадалаў. Ніжэй пласт ішоў чарнейшы. У ім менш сустракалася перакопаў. Таўшчыня яго была параўнаўча невялікая — 0,5 метра. Пад ім на глыбіні 1 метра залягаў жоўты грунт — «мацярык».

За чатыры сезоны ў 1966, 1968, 1971, 1980 гг. на Лагойскім замчышчы была даследавана плошча ў 440 квадратных метраў. Рэшткаў старажытных драўляных пабудоў тут зусім не захавалася. Яны поўнасцю згнілі, бо знаходзіліся на невялікай глыбіні. Дрэва, тканіна, скура і іншыя арганічныя рэчывы, выключаючы косць, у такіх умовах хутка парахнеюць.

Іншых рэчаў XI—XIII стст. было знойдзена нямала. Яны захаваліся параўнаўча добра. Па колькасці пераважалі керамічныя вырабы — разбіты гліняны посуд, тыповы для часоў Полацкага княства. У самым нізе культурнага пласта знойдзены невялікі гаршчок канца X — пачатку XI ст., які цалкам збярогся.

Сярод соцень чарапкоў ад посуду, зробленага на ганчарным крузе, трапляліся кавалкі ад гаршкоў, вылепленых уручную. Гэта акалічнасць дазваляе меркаваць, што

пачатковае паселішча ўзнікла на месцы Лагойска, верагодна, у канцы X ст., інакш кажучы, амаль на стагоддзе раней, чым першыя звесткі аб горадзе трапілі ў пісьмовыя крыніцы.

Шмат было знойдзена вырабаў з жалеза. Неабходна адзначыць знаходкі жалезных ключоў для адмыкання найбольш старажытных вісячых замкоў. Яны ўяўляюць з сябе маленькія лапатачкі з прамавугольнымі ці круглымі лопасцямі. Такія ключы добра вядомы па археалагічных раскопках многіх гарадоў Усходняй Еўропы. Імі карысталіся ў X—XI стст. Пасля яны хутка выйшлі з ужытку. Было таксама адкапана 17 наканечнікаў стрэл. Сярод іх меліся тонкія, падобныя на шылы. Такія наканечнікі ўжываліся для паражэння воінаў у кальчугах, якія ў тыя часы спляталіся з драцяных кольцаў. Праз такое кольца свабодна праходзіў тонкі наканечнік.

Старажытныя лагажане займаліся гаспадаркай. Добра захаваліся ў зямлі жалезныя нарогі ад сахі ды вялікі нож-«касар» — прылада падсечнага земляробства для высякання кустоў. Рыбу білі жалезнымі восцямі з адным зубам. Самая цікавая жалезная знаходка — гіра ад бязмена. Яе вага — 2250 грамаў. Яна ў Беларусі была знойдзена ўпершыню. Дагэтуль такія гіры знаходзілі ў Ноўгарадзе, на тэрыторыі Латвіі ў Кукенойсе. Лагойская знаходка — важная крыніца для вывучэння вагавай сістэмы Полацкага княства XI—XII стст.

Як вядома, вырабы з каляровых металаў зберагаюцца горш. Але ўсё ж і з гэтых металаў пашанцавала знайсці некалькі рэчаў, якія добра захаваліся (бронзавы конік, круглая фібула і іншыя ўпрыгожанні XI—XII стст.).

Звяртае на сябе ўвагу невялікая квадратная гліняная плітка, пакрытая жоўтай палівай. Плошча пліткі — 64 квадратныя сантыметры, таўшчыня яе — 2 сантыметры. Такія пліткі ўжываліся ў XII ст. у Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку для ўпрыгожвання царкоўных пабудоў. Гэта першая прыкмета таго, што, напэўна, у замку існавала вельмі старажытная царква. Магчыма, яна была драўляная.

Раскопкі Лагойскага замчышча ўзбагацілі гістарычную навуку каштоўнымі звесткамі аб матэрыяльнай культуры старажытнага горада на Гайне.

Пры новых археалагічных даследаваннях у 2004—2007 гг. высветлілася, што ў IX—XI стст. за 7 кіламетраў ад сучаснага горада, каля вёскі Старое Гарадзішча на рацэ Лагозінка (Лагаза) існаваў старажытны населены пункт, які меў гарадзішча, тры селішчы і курганны могільнік.

Паселішчы на Лагазе і Гайне ў XI ст. суіснавалі разам, але потым адно паселішча прыйшло канчаткова ў заняпад, а горад на беразе Гайны стаў Лагожскам — цэнтрам воласці, а затым сталіцай асобнага ўдзельнага княства Полацка-Менскай зямлі.

